Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 46 (4590) 19 лістапада 2010 г.

# У нумары:





# Дзень, прасветлены словам паэта-земляка




Так сталася, што год 2010-ы багаты на юбілеі нашых абласных кніжных скарбніц. Семдзесят споўнілася Брэсцкай, сто восемдзесят — першай публічнай у Беларусі — Гродзенскай, і вось яшчэ адзін шчодры восеньскі падарунак — 75-годдзе Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. Леніна.

Юбілеі скарбніц не застаюцца незаўважанымі. І добра было б, каб гэта стала прыкметаю вірлівага, не схільнага да сантыментаў і кампліментарнасці часу.

Бібліятэкі вучаць чытаць — значыць, вучаць культуры, выхоўваюць інтэлектуалаў і эліту нацыі, спалучаюць у сабе і традыцыі, і інавацыі. Словы шчырай удзячнасці за такую працу, за развіццё бібліятэчнай традыцыі, высокі прафесіяналізм, сугучны з гуманізмам, і забеспячэнне інфармацыйных патрэб карыстальнікаў выказвалі на ўрачыстасцях з нагоды юбілею Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. Леніна і простыя людзі, і кіраўнікі. У камернай атмасферы бібліятэчнай залы яны гучалі надзіва шчыра: віншавалі намеснік старшыні аблвыканкама Валерый Малашка, начальнік упраўлення культуры Анатоль Сінкавец, галоўны бухгалтар абкама прафсаюзаў работнікаў культуры Наталля Джафарава.

Але і на ўрачыстасцях гавораць бібліятэкары больш не пра сябе — пра творцаў, што ўзбагачаюць і Беларусь, і ўсходнюю частку яе каля граніцы з Расіяй прыгожым пісьменствам. Багатая праграма ўрачыстасцей распачалася навукова-практычнай канферэнцыяй "Літаратурная спадчына рэгіёна і Магілёўская абласная бібліятэка імя У. Леніна: рэсурсны патэнцыял у фарміраванні нацыянальнай самасвядомасці", прысвечаная творчасці земляка, паэта Аляксея Пысіна.

У працы канферэнцыі прынялі ўдзел даследчыкі яго творчасці: кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай літаратуры Мазырскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Івана Шамякіна Таццяна Нуждзіна, старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Дуктаў, калегі са Смаленскай абласной універсальнай бібліятэкі імя Аляксандра Твардоўскага. Між іншым, у Смаленскай абласной бібліятэцы ёсць аддзел замежнай літаратуры, у ім — сектар нацыянальных літаратур. Сектар гэты актыўна працуе з Домам Польскім, з латышскім зямляцтвам, цэнтрам татарскай культуры, азербайджанскай, армянскай суполкамі. А з беларусамі пакуль сяброўскія сувязі не ўстаноўлены. Гэты першы візіт намесніка дырэктара смаленскай бібліятэкі Алены Качанавай запачаткаваў развіццё двухбаковых праектаў.

Да ўрачыстасцей акрамя агульных стэндаў "Магілёўская абласная бібліятэка імя У. Леніна сёння" і "Магілёўшчына літаратурная" былі прымеркаваны выключна змястоўныя выстаўкі ў кожным з аддзелаў скарбніцы. Магілёўская абласная праводзіць конкурс на лепшае афармленне экспазіцыі. І сапраўды, яны сталі візітоўкай бібліятэкі ў гэтыя дні. Складвалася ўражанне, што ўсе кнігі — навідавоку, розныя па часе напісання, аўтарах, жанрах, афармленні. Такога свята кнігі, калі яны ўсе разам "выходзяць" з фондасховішчаў, чакаюць недарэмна.

Між тым, Магілёўская абласная як, напэўна, ні адна з іншых пацярпела ў час вайны. Таму рэдкіх кніг — адзінкі. Тут вядзецца карпатлівая праца па вяртанні вывезеных за мяжу каштоўнасцей. Вось і краязнаўчы фонд прэзентаваў свой новы здабытак, якім ганарыцца: электронную копію кнігі "Весь Могилёв на Днепре". Адрас-каляндар утрымлівае пералік гандлёва-эканамічных прадпрыемстваў горада ў 1910 годзе з указаннем імёнаў іх уласнікаў. Акрамя таго, у выданні змешчаны: "Исторический очерк Могилёва губернского", "Начальствующие лица губернии и уезда, губернские и уездные административные, судебные и военные, духовные и сословные учреждения, правления различных обществ, учебные заведения, разные попечительства", "Расстояние уездных городов от Могилёва губернского" ды інш. Кніга падараваная бібліятэцы Аркадзем Глікіным, прафесарам Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта.

У падарунак ад Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Магілёўская абласная атрымала рарытэтныя выданні "Великая реформа. 1861 — 1911" (1911 г.), «Материалы для биографии Гоголя» (1892 г.) (кніга 1844 года, выдадзеная ў Парыжы), мультымедыйны праект «Магілёўшчына на старажытных паштоўках». Выданні і крышталёвы сімвал Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі ўручыла юбілярам намеснік дырэктара НББ Людміла Кірухіна. Калегі з Віцебскай абласной бібліятэкі пакінулі магіляўчанам камплект ілюстрацый Марка Шагала да паэмы М. В. Гогаля «Мертвые души». Фонды папаўняюцца імкліва!

…Неяк правяла невялічкае апытанне: як пісьменнікі рабілі свой першы крок у бібліятэку? — Проста і нязмушана! Яшчэ да школы, у 6 — 7 гадоў! Часам — адстойваючы сваё права (!) быць запісаным на абанемент. А цяпер на пытанне як прайсці ў бібліятэку не кожны дасць вытлумачальны адказ. Але ёсць і іншы бок: гэтае ж пытанне гучыць зусім па-іншаму ў дачыненні да Інтэрнэта: шляхі прачытання электронных кніг досыць вядомыя, асабліва ж папулярныя ў моладзі.

І вось ужо ў падарунак ад бібліятэкі госці ўрачыстасцей вязуць сабе дадому "Пяшчотаю прасветленае слова" — электроннае выданне Магілёўскай абласной бібліятэкі з матэрыяламі па папулярызацыі творчасці паэта-земляка Аляксея Пысіна. Выданне асабліва каштоўнае для бібліятэк вобласці і яе жыхароў.

"Нягледзячы на тэхнічныя рэвалюцыі, якія выклікалі паскораную інфарматызацыю грамадства, сучасны чалавек — чытае. Нягледзячы на тое, якім крыніцам інфармацыі аддае перавагу: гэта кніга альбо часопіс ці газета, альбо электронны тэкст на экране манітора, нэтбука, надалонніка, мабільнага тэлефона. Ён умее цаніць свой час і яму неабходна парада", — зазначыла на ўрачыстасцях цяперашні дырэктар скарбніцы Ілона Сарокіна. Яе папярэдніца на гэтай пасадзе Ала Васіленка зрабіла акцэнт на асаблівай атмасферы інтэлігентнасці і непаўторнасці паху бібліятэчных кніг. А іхняя папярэдніца, былая дырэктар бібліятэкі, якая каля 30 гадоў узначальвала ўстанову, Вольга Баранава — падкрэсліць неабходнасць захавання і памнажэння назапашаных цягам гадоў традыцый. Яны навідавоку — на зачытаных старонках разгорнутых кніг…

Ірына ТУЛУПАВА

На здымку: начальнік упраўлення культуры Магілёўскага аблвыканкама Анатоль Сінкавец уручае грамату дырэктару бібліятэкі Ілоне Сарокінай.

Фота Таццяны Івановай
Калаж Віктара Калініна

№ 46 19 лістапада 2010 г. ЛіМ

## Пункцірам

• Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў медалём Францыска Скарыны вядучага майстра сцэны Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек Аляксандра Васько, а таксама першага прарэктара Беларускага дзяржаўнага аграрнага тэхнічнага ўніверсітэта Івана Шылу.

•Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўручыў кінарэжысёру Эміру Кустурыцу адну з галоўных узнагарод кінафестывалю "Лістапад" — спецыяльны прыз Кіраўніка дзяржавы "За захаванне і развіццё традыцый духоўнасці ў кінамастацтве". Кіраўнік дзяржавы прапанаваў Кустурыцы супрацоўніцтва з беларускімі кінематаграфістамі.

•Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 85-годдзем калектыў Беларускага радыё. Ён выказаў упэўненасць, што Беларускае радыё і надалей будзе дынамічна рухацца наперад і рабіць дастойны ўнёсак у развіццё айчыннай медыяпрасторы.

•Падведзены вынікі Мінскага міжнароднага кінафестывалю "Лістапад-2010". Галоўны прыз прысуджаны кінафільму "Шчасце маё", знятаму ўкраінскімі кінематаграфістамі. Прыз глядацкіх сімпатый атрымаў венесуэльскі фільм "Брат". У конкурсе дакументальнага кіно лепшымі былі прызнаны кароткаметражны расійскі фільм "Глыбіня 35 х 45" і поўнаметражны армянскі "Апошні канатаходзец". За лепшы дэбют узнагароджаны стваральнікі перуанскага фільма "Кастрычнік".

•Медалі Саюзнай дзяржавы за творчыя дасягненні, за гуманізм у мастацтве, вялікі асабісты ўклад ва ўмацаванне адносін братэрства і дружбы паміж Беларуссю і Расіяй былі ўручаны артыстам Тэатра-студыі кінаакцёра Любові Румянцавай, Уладзіміру Грыцэўскаму, Веры Паляковай-Макей, Анатолю Цярпіцкаму, Пятру Юрчанкову. Узнагароды ўручыў Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Павел Барадзін.

•У Мінскім Епархіяльным упраўленні адбылося пасяджэнне Каардынацыйнага савета па распрацоўцы і рэалізацыі праграм супрацоўніцтва паміж органамі дзяржаўнага кіравання і Беларускай Праваслаўнай Царквой. На пасяджэнні адзначалася работа журналістаў па асвятленні асноўных мерапрыемстваў Беларускай Праваслаўнай Царквы. Абмяркоўваліся вынікі сумеснага конкурсу на лепшае асвятленне тэматыкі гісторыі і сучаснасці беларускага праваслаўя.

•Паэт Анатоль Аўруцін узнагароджаны ордэнам "За самоотверженное служение отечественной литературе", які заснаваны Саюзам пісьменнікаў Еўразіі, Саюзам пісьменнікаў Расіі, Саюзам пісьменнікаў-перакладчыкаў Расіі. Узнагароджанне было прымеркавана да выхаду 50-га нумара часопіса "Новая Немига литературная", рэдактарам якога з дня яго заснавання з'яўляецца паэт.

Падрыхтавала Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Восьмыя, паэтычныя

Купалаўскай і мулявінскай "Малітвай" у выкананні Яны Хадановіч, юнай спявачкі з Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, распачаліся VIII Мінскія паэтычныя чытанні, якія ладзіліся традыцыйна ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы. Мэтай сустрэчы паэтаў стала прэзентацыя новых вершаў, новых паэтычных кніг і, зразумела ж, новых імёнаў.

Арганізатарам і вядучым чытанняў выступіў загадчык аддзела прапаганды мастацкай літаратуры Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэт Міхась Башлакоў. Ён жа прачытаў і першыя вершы франтавіка, палкоўніка запасу Мікалая Іванова. Сам Мікалай Уладзіміравіч не змог прыйсці з-за стану здароўя. Але яго паэтычнае слова гучала і знаходзіла цёплы водгук у аматараў вершаванага радка. Запомнілася ўдзельнікам і гасцям чытанняў выкананне песні "Когда январь дождями плачет…", створанай на словы гэтага паэта маладзечанскім кампазітарам Вольгай Воінскай.

Паэтэса Ганна Васільева складае вершы з маленства, але сур'ёзна ставіцца да сваёй паэзіі пачала толькі ў сталым узросце. Некалькі сваіх твораў яна прачытала прысутным. У якасці падарунка паэтэса атрымала песні ў выкананні студэнткі БДПУ імя Максіма Танка Алены Паляковай "Пералётная птушка" (аўтары Мікола Шабовіч і Генадзь Кубарка) і "Рэха Жураўлінае" (аўтары Уладзімір Пецюковіч і Дзмітрый Даўгалёў).

Нядаўна на паліцах кнігарань з'явілася кніга прысутнай на чытаннях Ганны Міклашэвіч "Пялёсткі сняжынак". Удзельнікам чытанняў сталі і Юрый Баравіцкі, другі паэтычны зборнік, якога пад назвай "Я — с других дорог…" выйшаў усяго некалькі дзён таму.

Мікола Шабовіч апошнім часам звярнуўся да перакладчыцкай дзейнасці. Са сцэны прагучалі таленавітыя, "духаскандэнсаваныя" пераклады вершаў вядомых рускамоўных паэтаў Юрыя Фатнева, Анатоля Аўруціна і Таццяны Лейкі.

Напрыканцы паэтычнага вечара гучалі вершы і песні паэта і музыканта Дзмітрыя Пятровіча. Як зазначыў сам Дзмітрый Леанідавіч, VIII Мінскія чытанні — гэта вечар падарункаў і экспромтаў, і таму музычныя падарункі, увасобленыя ў песнях на паэтычныя тэксты Міхася Башлакова, Юрыя Баравіцкага і Міколы Шабовіча, шчодра пасыпаліся на ўдзячную аўдыторыю.

Вольга Папкова і Кацярына Чарэй — студэнткі Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М. К. Агінскага — таксама расквецілі вечар сваімі талентамі. Песня на верш В. Зуёнка "Хатынь" і раманс на верш М. Лермантава "Мне грустно" прагучалі ў аўтарскім музычным пераўвасабленні.

Таццяна ВЫСКВАРКА

# Восеньскі падарунак творцам

У Статуце Саюза пісьменнікаў Беларусі запісана, што гэта грамадская арганізацыя, побач з іншымі мэтамі, створана дзеля абароны творчых правоў, прафесійных і сацыяльных інтарэсаў пісьменніка, яго гонару, садзейнічання ў забеспячэнні яму ўмоў для практычнай рэалізацыі творчага патэнцыялу.

Вядома ж, сацыяльная падтрымка вельмі важная, асабліва цяпер, калі літаратар не самы забяспечаны чалавек. Ёсць сярод творцаў ветэраны, інваліды, адзінокія людзі. Каб падтрымаць іх, кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі з дапамогай спонсараў вырашыла кожнаму з гэтай катэгорыі майстроў слова, якія жывуць у Мінску, зрабіць восеньскі падарунак — прама ў кватэры ім даставілі гародніну.

— Я дужа крануты такім падарункам, — пазваніў у Дом літаратара старэйшы дзіцячы пісьменнік Георгій Шыловіч. — Гэткая ўвага натхняе на творчую працу і ў сталым узросце.

Па словах старшыні СПБ Мікалая Чаргінца, такая дапамога пісьменнікам будзе працягвацца і надалей.

Людміла КАЛЕНДА

## Юбілеі

# «Гаворыць Мінск!»

Беларускае радыё адзначыла 85-гадовы юбілей. Святкаванне гэтай значнай падзеі адбылося ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.

"Гаворыць Мінск. Радыёстанцыя імя Саўнаркома БССР пачынае сваю работу". Гэтыя словы прагучалі упершыню 15 лістапада 1925 года ў 18 гадзін 30 хвілін. Першая радыёстанцыя магла трансліраваць перадачы ў радыусе 300 вёрстаў і доўжыліся яны ў эфіры ўсяго 30 хвілін за суткі. На той час у Мінску было каля 200 радыёпрыёмнікаў, якія ў асноўным знаходзіліся ў клубных установах сталіцы. Уся наша краіна ў 1925 годзе мела 25 тысяч рэпрадуктараў і некалькі тысяч дэтэктарных прыёмнікаў. З самага пачатку вяшчання ў эфіры гучыць беларуская мова.

Адным з галоўных прыярытэтаў вяшчальнай палітыкі Беларускага радыё ўвесь час з'яўлялася і з'яўляецца папулярызацыя нацыянальнай і сусветнай культуры. Ужо ў 1926 годзе ў радыёпраграмах з'явілася пастаянная рубрыка "Літаратурная гадзіна". Выступалі паэты і пісьменнікі. Гэта прыцягвала ўвагу слухачоў, якім у навіну было слова літаратара ці артыста.

Пісьменнік, колішні каментатар Беларускага радыё Уладзімір Мехаў узгадаў: "Я доўгі час працаваў адказным за так званую эфірную тэатральную дзялянку. Варта адзначыць, што ў тыя часы не было ніводнага літаратурнага твора, які б не інсцэніраваўся на нашым радыё".

Ветэран Вялікай Айчыннай вайны, пісьменнік Алесь Савіцкі падкрэсліў: "Радыё — гэта была найвышэйшая інстанцыя, найвышэйшы закон. Як радыё сказала — так яно і будзе. Я нават і не ведаю, дзе на прасторах былой вялікай Савецкай дзяржавы пісьменніцкае слова гучала так часта і так ёмка, як яно гучала на нашым Беларускім радыё".

Уладзімір ПАДАЛЯК



На здымку: ёсць што ўспомніць ветэранам радыё Уладзіміру Мехаву, Кастусю Цвірку і Сяргею Панізніку.

Фота Кастуся Дробава

## Надзённае

# Вы нас шукалі?

"Як чытач газеты хачу звярнуць увагу на тое, што ў апошні час з кіёскаў "Белсаюздрук" нешта зніклі нашы літаратурныя часопісы "Полымя", "Маладосць", "Нёман", "Вожык". Зразумела, што сёння тыражы ў часопісаў маленькія, але ж трэба хоць недзе прадаваць, каб мы не забыліся зусім, як яны выглядаюць".

Уладзімір Голубеў, г. Мінск

### Шаноўныя чытачы!

Звяртаем вашую ўвагу на тое, што колькасць часопісаў РВУ "Літаратура і Мастацтва", якія трапляюць у розничны гандаль, сапраўды, была зменшана, але яны па-ранейшаму прадаюцца ў кіёсках і крамах "Белсаюздруку". "Полымя", "Нёман", "Маладосць", "Вожык" і "Бярозка" ў Мінску прадаюцца ў краме № 18 "Белсаюздрук" (падземны пераход на Плошчы Перамогі) і "Глобусе" (вул. Валадарскага, 16).

Штотыднёвік "Літаратура і мастацтва" распаўсюджваецца шырэй. Мы друкуем спіс крамаў і кіёскаў, дзе зараз газету можна набыць у сталіцы. У наступным нумары — па Беларусі.

Газету "Літаратура і мастацтва" можна набыць у кіёсках і крамах па наступных адрасах: кіёск № 1 (пр. Незалежнасці, 38), кіёск № 2 (пр. Незалежнасці, 19), кіёск № 4 (вул. Захарава, 46), кіёск № 11 (пр. Незалежнасці, 10), кіёск № 12 (пр. Незалежнасці, 18), кіёск № 13 (вул. Леніна, 18), кіёск № 52 (вул. Старажоўская, 8), кіёск № 103 (вул. Няміга, 2), кіёск № 110 (вул. Пуліхава, 3), кіёск № 114 (вул. Кальварыйская, 3), кіёск № 117 (вул. Рафіева, 3), кіёск № 150 (пр. Незалежнасці, 48), кіёск № 166 (пр. Незалежнасці, прыпынак транспарту "Станцыя метро "Усход"), кіёск № 198 (пр. Партызанскі, 26), кіёск № 229 (пас. Сокал), кіёск № 263 (першы паверх чыгуначнага вакзала), кіёск № 281 (вул. Казлова, 2), кіёск № 290 (пр. Незалежнасці, 98), кіёск № 297 (вул. Маякоўскага, 16), кіёск № 317 (падземны пераход чыгуначнага вакзала), кіёск № 323 (падземны пераход чыгуначнага вакзала), кіёск № 342 (станцыя метро "Спартыўная"), кіёск № 345 (пр. Пераможцаў, 45), кіёск № 353 (гандлёвы цэнтр "Сталіца"), крама № 2 (пр. Незалежнасці, 44), крама № 3 (пр. Незалежнасці, 74), крама № 4 (вул. Леніна, 2), крама №7 (вул. Я. Коласа, 67), крама № 14 (вул. К. Маркса, 6), крама № 15 (вул. Танка, 16), крама № 16 (вул. В. Харужай, 24/2), крама № 18 (пл. Перамогі, падземны пераход), крама № 19 (пр. Пераможцаў, 51/1), крама № 21 (станцыя метро "Пушкінская"), крама № 27 (вул. Валадарскага, 16).

Але ўсім, хто хоча абавязкова патрымаць свежы нумар газеты ці любімага часопіса ў руках і не палявацца за ім па крамах, мы раім падпісацца на нашы выданні.

## Канферэнцыі

# Юбілейныя «Каласавіны»

Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Каласавіны" прайшла ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа.

Распачынаючы свята, дырэктар музея Зінаіда Камароўская парадавалася таму, што шэрагі даследчыкаў творчасці Коласа ўсё папаўняюцца, што ў гэты дзень прыехалі госці з іншых краін — з Кіеўскага музея Максіма Рыльскага і Вільнюскага музея А. С. Пушкіна.

На адкрыцці канферэнцыі прысутнічаў міністр культуры Павел Латушка. Ён назваў коласаўскую спадчыну нацыянальным здабыткам, а "Каласавіны" — плёнам усёй беларускай культуры.

У межах дваццаць пятых "Каласавін" адбылася ўрачыстая цырымонія перадачы ў дар музею каштоўных кніг і рукапісаў. Галоўнымі дзейнымі асобамі тут выступілі пісьменнікі Ганад Чарказян і Станіслаў Сакалоў. Даведаўшыся з публікацыі ў "Комсомольской правде", што ў Маскве ў нашчадкаў журналіста Сяргея Кошачкіна маецца кніга "Суд у лесе" 1943-га года выдання з аўтографам Якуба Коласа, Ганад Бадрыевіч вырашыў выкупіць яе за ўласныя грошы і "вярнуць у родны дом паэта". Калі высветлілася, што кніга з аўтографам — не адзіны рарытэт, звязаны з імем Коласа, які маецца ў архіве Кошачкіна, да добрачыннай дзейнасці Чарказяна далучыўся Станіслаў Сакалоў, беларускі пісьменнік, які жыве ў Маскве. Атрымаў музей Коласа ў падарунак у той дзень таксама рарытэтныя кніжныя выданні ад энтузіяста Анатоля Грэкава.

У праграму мерапрыемства арганічна ўпісалася ўручэнне ганаровых грамат журналісцкім калектывам, якія найбольш актыўна асвятлялі культурна-асветніцкія мерапрыемствы музея Якуба Коласа і прапагандавалі спадчыну вялікага паэта: газет "Культура", "Прамень", "Настаўніцкая газета", "Мінская праўда", АТН, Першага канала Беларускага радыё. І тыднёвіка "ЛіМ" — таксама.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

# Пра планы — з першых вуснаў

Распачынаецца цыкл творчых сустрэч супрацоўнікаў рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва" ў абласных бібліятэках. Знаныя пісьменнікі і паэты, супрацоўнікі і аўтары часопісаў "Полымя", "Нёман", "Маладосць", "Бярозка", альманаха "Вожык" і штотыднёвіка "ЛіМ" распавядуць пра планы і новыя праекты будучага 2011 года, адкажуць на пытанні чытачоў. Першыя дзве сустрэчы чакаюцца 24 лістапада — ва ўпраўленні культуры Брэсцкага аблвыканкама (вул. Камуністычная, 1) і Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. Леніна. Запрашаем усіх да ўдзелу! Пачатак сустрэч: у Брэсце — 13.00, у Гомелі — 14.00.

Ул. інф.

Літ-абсягі

# Актуальнасць сівой даўніны




Утульная аўдыторыя Дзяржаўнага інстытута кіравання і сацыяльных тэхналогій БДУ стала месцам сустрэчы з доктарам гістарычных навук, прафесарам кафедры прававых дысцыплін гэтай установы Мікалаем Ільінскім. Ён прэзентаваў прысутным сваю гістарычную трылогію "Апошняя ладдзя вікінгаў", што пабачыла свет у выдавецтве "Современная литература".

Аўтар выдання вядомы сваёй плённай дзейнасцю ў самых розных сферах. Палкоўнік міліцыі ў адстаўцы, ён абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі па гісторыі, стаў адным з сааўтараў абагульняльнага падручніка "История милиции Беларуси (1917 — 1994)". Напісаў шэраг манаграфій і падручнікаў па гісторыі дзяржавы і права замежных краін, гісторыі палітычных і прававых вучэнняў, якія выдаваліся як у Мінску, так і Маскве. Выдаў раман "Цвела, цвела черемуха", гісторыка-дэтэктыўную аповесць "При чрезвычайной ситуации — уничтожить", прысвечаную змаганню з бандытызмам у пасляваеннай Беларусі, паэтычны двухтомник "Ретро".

Апошняя праца Ільінскага — гістарычная трылогія, якая складаецца з раманаў "Последняя ладья викингов", "Братья по крови" і "Воины-хранители" — прысвечана падзеям XI стагоддзя, калі на прасторах Кіеўскай Русі адбывалася жорсткая барацьба паміж князямі за ўладу. Разам з выдуманымі героямі ў творах дзейнічаюць рэальныя гістарычныя асобы — знакамітыя кіеўскія ваяводы Вышата і Тварымірыч, першы епіскап Іларыён, летапісцы Нікан і Нестар ды шэраг іншых.

Праграма вечара атрымалася насычанай і разнабаковай. Тыя, хто прысутнічаў на сустрэчы — вядомыя пісьменнікі, калегі Мікалая Іванавіча па працы, а таксама спецыяльна запрошаныя студэнты — не шкадавалі для пісьменніка цёплых слоў. Сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Георгій Марчук параўнаў кнігу з такімі творамі як "Ціхі Дон", "Хаджэнне па пакутах", "Угрум-рака" і ўласнай кнігай "Крык на хутары". Галоўны рэдактар часопіса "Белая вежа" Васіль Шырко разам з заслужанымі кампліментамі ў адрас віноўніка ўрачыстасцей пажадаў, каб раманы былі больш сціслыя па памеры, каб аўтар не злоўжываў апісаннямі і больш выяўляў адметнасць герояў у іх характарах і мове. У адказ з вуснаў адной з прысутных прагучала думка, што не кожны пісьменнік можа быць такім вольным са словам, як Уладзімір Караткевіч і Мікалай Ільінскі. Ды і з'яўленне трылогіі — нячастая з'ява ў беларускай літаратуры. Пасля твораў Мележа і Чыгрынава такая форма, бадай, не карыстаецца папулярнасцю сярод творцаў.

Дацэнт кафедры прававых дысцыплін Генадзь Аргучынцаў правёў прамыя паралелі паміж падзеямі, якія апісваюцца ў трылогіі, і сучаснасцю. Так, барацьба паміж Полацкам, Ноўгарадам і Кіевам нагадвала Грамадзянскую вайну, а распад Кіеўскай Русі паралельны з наступствамі знікнення СССР.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Арт-лінія

# Год Шапэна працягваецца




На сусветным музычным календары — Год Фрыдэрыка Шапэна. Нямала разнастайных імпрэз, прысвечаных 200-годдзю з дня яго нараджэння, адбываецца і ў нашай краіне. Так, рамантычны лістападаўскі вечар, напоўнены музыкай геніяльнага "паэта фартэпіяна", падараваў сталічнай публіцы Сімфанічны аркестр Белтэлерадыёкампаніі, мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам якога з'яўляецца польскі маэстра Чэслаў Грабоўскі. 16 лістапада ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі прайшла студэнцкая навукова-практычная канферэнцыя "Рамантызм у музыцы: погляд маладых даследчыкаў", прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння Ф. Шапэна і Р. Шумана. А назаўтра тут урачыста адкрылася Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Фрыдэрык Шапэн і шляхі развіцця еўрапейскага рамантызму". Яе арганізавалі Міністэрства культуры Беларусі, БДАМ і Польскі інстытут у Мінску.

У канферэнцыі, праграма якой завершыцца сёння ўвечары, удзельнічаюць вядомыя даследчыкі, музыколагі, выканаўцы з Арменіі, Беларусі, Ізраіля, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны. Яны высвятляюць сучасныя навуковыя падыходы да захавання, вывучэння і папулярызацыі спадчыны класіка польскай музычнай культуры, абмяркоўваюць праблемы тэксталогіі ды выканальніцкай інтэрпрэтацыі твораў Ф. Шапэна і яго сучаснікаў, аналізуюць творчасць кампазітараў розных нацыянальных школ у кантэксце музычных традыцый еўрапейскага рамантызму.

Праграма не абмяжоўваецца пленарнымі пасяджэннямі: яна ўключае таксама правядзенне канцэртаў, майстар-класаў, выставак, відэапраглядаў, прэзентацый, а таксама дыскусій за "круглым сталом". Цікавасць удзельнікаў і гасцей канферэнцыі выклікала выстаўка работ студэнтаў і магістрантаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў "Музы восені", а таксама зладжаваная пры садзейнічанні Польскага інстытута ў Мінску экспазіцыя выданняў і дакументаў, прысвечаная 200-годдзю Ф. Шапэна. Сёння дзякуючы Польскаму інстытуту ў Мінску адбудзецца паказ мастацкага фільма "Шапэн. Жаданне любові", знятага ў 2002 годзе (рэжысёр Е. Антчак, у галоўных ролях П. Адамчык, Д. Сценка, Б. Стахура).

Яго непаўторная музыка і музыка яго сучаснікаў гучыць гэтымі днямі ў Канцэртнай зале БДАМ. Бліскуча выступілі тут лаўрэат міжнародных конкурсаў Іосіф Сяргей, народны артыст Беларусі прафесар Ігар Алоўнікаў. А сёння граюць маладыя піяністы — студэнты класа заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі прафесара Людмілы Шаламенцавай.

Вялікі заключны канцэрт, запланаваны ў межах святкавання Года Фрыдэрыка Шапэна ў Беларусі, адбудзецца ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі 11 снежня. У праграме возьмуць удзел Ансамбль салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава, беларускія піяністы — лаўрэаты міжнародных конкурсаў Кацярына Матах, Кацярына Марэцкая, Аляксандр Музыкантаў, Васіль Нетук.

Лана ІВАНОВА

Фота аўтара

Повязі

# Аднаўленне традыцый: першыя крокі

Пісьменнікі робяць нацыянальную літаратуру, перакладчыкі — сусветную. У гэтым афарызме не знайшлося месца выдаўцам, але яны нябачна прысутнічаюць у ім. Гэтае трыядзінства ўвесь час падкрэслівалася і на IV Форуме прыхільнікаў сапраўднай літаратуры, якія з'ехаліся ў Ерэван з усіх краін СНД, Балтыі і некаторых дзяржаў Еўропы (Бельгіі, Балгарыі, Францыі, Італіі, Польшчы). Рэспубліку Беларусь на Форуме прадстаўлялі дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Уладзіслаў Мачульскі, паэт і перакладчык, рэдактар аддзела паэзіі часопіса "Нёман" Юрый Сапажкоў.

Форум быў праведзены Міністэрствам культуры Арменіі і Армянскай грамадскай арганізацыяй культурнага супрацоўніцтва з замежнымі краінамі (АОКС) пры падтрымцы Маскоўскага Бюро ЮНЕСКА і Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў-удзельнікаў СНД. Паказальны факт, які выявіўся на міжнароднай кніжнай выстаўцы, арганізаванай падчас форуму: аўтарства самых лепшых перакладных кніг належыць паэтам. Аднаму з іх, Мірону Несцерчуку, была ўручана прэмія Міністэрства культуры Арменіі за выдатную ўкраінскую версію зборніка вершаў армянскага паэта Паруйра Севака "Званіца, якая не змаўкае". А галоўны рэдактар выдавецтва "ArsisBooks" (Масква) Ганна Бердзічэўская з поспехам прэзентавала кнігу вершаў выбітнай армянскай паэтэсы Соны Ван у перакладзе на рускую Іны Лісніянскай.

Прэзентацыі кніг перакладной літаратуры былі, зразумела, толькі часткай праграмы форуму, асноўны ж час занялі дыскусіі за "круглымі сталамі", актуальнасць якіх пацвярджалася колькасцю жадаючых выказацца. Сярод пытанняў, якія абмяркоўваліся, у якасці важнейшых вылучаліся наступныя: стварэнне структуры фінансавання на ўзроўні міжнацыянальных зносін перакладчыкаў, рэклама і друкаванне перакладных твораў літаратуры ў СМІ, аўтарскае права ў Інтэрнэце, сайт перакладчыкаў як віртуальны літаратурны агент. Усе, хто браў слова, дзяліліся сваім досведам, выказвалі прапановы адносна фінансавання культуры ўвогуле, увядзенне перакладчыцкай дзейнасці ў міжнародны кантэкст, а таксама ролі дзяржавы ў гэтым працэсе. Цікавы, напрыклад, досвед Латвіі. Сродкі на развіццё сферы культуры, у тым ліку і на кнігавыданне, дзяржава выдзяляе з даходаў, якія яна атрымлівае ад ігорнага бізнесу і продажу тытунёвых вырабаў.

Асноўную мэту форуму ў Ерэване вобразна акрэсліў рускі паэт Вячаслаў Купрыянаў: "Форум імкнецца злучыць разарваную культурную прастору. Творчы дух у народаў не згасае, а мы закліканы сачыць за гэтым агнём, дадаваць жару і імкнуцца, каб ён быў бачны адусюль. Дзякуй Арменіі, што яна нас аб'ядноўвае на сваіх старажытных горных вышынях!" Варта дадаць — і на вышынях цывілізацыі, паколькі праз год Арменія будзе адзначаць 500-годдзе першай друкаванай кнігі!

Юрый САПАЖКОЎ

З-пад пяра

У Інстытуце журналістыкі БДУ штогод у сярэдзіне лістапада падводзяцца вынікі прафесійнай практыкі студэнтаў II — V курсаў. У гэты дзень усе практыканты збіраюцца ў актавай зале, каб абмяняцца набытымі падчас практыкі творчымі ведамі. Кіраўніцтва інстытута запрашае на дзень практыкі таленавітых журналістаў, каб тыя падзяліліся з маладымі прафесійным вопытам. Па словах намесніка дырэктара інстытута па творчым супрацоўніцтве са СМІ Алены Беразоўскай, практыку ў 2010 годзе прайшлі 912 студэнтаў. Рэдакцыі газет, часопісаў, тэлебачання і радыё адчынілі свае дзверы для пачынаючых журналістаў. Лепшыя з лепшых практыкантаў узнагароджаны кнігамі і ганаровымі граматамі Інстытута журналістыкі БДУ.

Уладзімір ПАДАЛЯК

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася імпрэза "Вясну з сабой я ўзяў на памяць…", прысвечаная 150-годдзю з дня нараджэння Яна Райніса, сусветна вядомага латышскага паэта, перакладчыка, драматурга, філосафа, грамадскага дзеяча. На вечарыне падкрэслівалася, што менавіта дзякуючы намаганням Райніса ў Латвіі былі адкрыты беларускія школы, у тым ліку Беларуская гімназія ў Даўгаўпілсе, якая стала цэнтрам асветы латышскіх беларусаў. Прысутныя мелі магчымасць яшчэ раз прыгадаць пра ўдзел Райніса ў рабоце акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу, што праходзіла ў Мінску ў лістападзе 1926 года. Менавіта тады адбылося яго знаёмства з Янкам Купалам.

Галіна ВАРОНАВА

Адбыўся чарговы XV Міжнародны расійскі конкурс "Сузор'е талентаў". Сімвалам конкурсу стала "Зорка акадэміка Дзмітрыя Сяргеевіча Ліхачова", якая прысуджаецца маладым таленавітым людзям з розных краін ва ўзросце ад пятнаццаці да семнаццаці гадоў. Сёлета ў гэтым конкурсе прымала ўдзел Марыя Маліноўская, вучаніца школы-студыі "Малады літаратар", якая працуе ў Гомельскім Палацы творчасці дзяцей і моладзі "Юнацтва" пад кіраўніцтвам Ніны Шкляравай. Марыя стала пераможцай у намінацыі "Паэзія". Узнагароджанне лаўрэатаў прымеркавана да дня нараджэння Дзмітрыя Ліхачова і адбудзецца 28 лістапада ў Доме вучоных Расійскай акадэміі навук.

Ала ДАРАШЭНКА

Бібліятэка Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі ў горадзе Горкі Магілёўскай вобласці адзначыла 170-годдзе. Гэта — адна са старэйшых бібліятэк краіны. На момант яе адкрыцця, а адбылося гэта разам з адкрыццём самой акадэміі — у бібліятэчным фондзе налічвалася 165 кніг. Але ўжо праз дваццаць гадоў супрацоўнікі маглі пахваліцца тым, што маюць каля сямі тысяч выданняў. Пераважную большасць складала замежная літаратура. Сёння фонд бібліятэкі налічвае больш як мільён экземпляраў. Білет чытача маюць каля 15 тысяч карыстальнікаў. Шмат у чым развіццю бібліятэкі паспрыяў вялікі руплівец асветы Дзям'ян Новікаў, які быў яе загадчыкам амаль 50 гадоў — з 1920-а па 1975-ы. У бібліятэцы салідны фонд рэдкай кнігі — каля 11 тысяч экземпляраў. Самыя старыя выданні — з 1812 года. Нямала кніг з аўтографамі асоб, вядомых у літаратуры, навуцы і грамадскім жыцці.

Валянціна СМАНЦАР

# Вытокі — у нашай спадчыне

Генадзь ПАШКОЎ — з тых творцаў, чый штодзённы шлях заваблівае сваім спакоем і разважлівасцю. Паэт. Нарысіст. Кнігавыдавец (больш дванаццаці гадоў працаваў галоўным рэдактарам, дырэктарам выдавецтва “Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”). Па жыцці — філосаф. Здаецца, ён ніколі не спяшаецца, і нішто не пазбавіць яго раўнавагі. Ён ніколі не стане наракаць на абставіны, і можна дапусціць, што будзень у яго, сапраўды, як свята. Адна з першых ягоных кніг так і называецца — “Будзень як свята”. Удзел Генадзя Пятровіча ў рубрыцы “Камертон” — гэта своеасаблівы аповед пра літаратуру — якой яна сёння ёсць і якой можа быць.



## Годныя ўзоры сур’ёзнага пісьменства

— Літаратура, тая, якая была раней і ёсць цяпер, бясспрэчна, розніцца, — распавядае Генадзь Пятровіч. — Таму што кожны пісьменнік — гэта іншы светапогляд, бачанне жыцця, гэта свой почырк. Але існуе нешта і агульнае. Адышлі такія постаці, як Іван Мележ, Іван Шамякін, Максім Танк, Пімен Панчанка, Аркадзь Куляшоў. Ці ёсць сёння творы на такім узроўні? Бяру на сябе смеласць сказаць, што таму ўзроўню, на жаль, сёння пакуль што няма роўных. Гэтыя людзі прайшлі вайну, у многіх іх творах тэма вайны была асноўнай. І пасляваеннае жыццё таксама. Тое адлюстроўвалі, што мела нейкія ацэнкі, сваю гісторыю і, калі хочаце, уласны жыццёвы досвед.

А сённяшняя літаратура сутыкнулася з пераломным у гісторыі часам, калі памяняўся не толькі дзяржаўны лад, але ламаўся і светапогляд. Асабліва адчуваецца розніца ў мастацкай дакументалістыцы, у пісьменніцкай публіцыстыцы. Вось, сямідзясятыя гады. Пісалі нарысы Валянцін Мыслівец, які адлюстроўваў рабочую тэматыку, спецыяліст-эканаміст Ігнат Дуброўскі, яго знакамітыя нарысы друкаваліся ў “Полымі”. Гэта і такі лірычны даследчык сельскага жыцця, як Янка Сіпакоў. Уладзімір Глушакоў, Барыс Стральцоў, Васіль Якавенка, Міхась Шэлехаў, паэт Васіль Макарэвіч, публіцыст Анатоль Казловіч… Ну і сёння — актыўны і вельмі добры пісьменнік-публіцыст Васіль Шырко. Але цяпер, калі глядзець на ўсю палітру жанру, на вялікі жаль, няма такіх даследчыкаў жыцця, якія былі раней.

Здавалася б, чаму? Памятаю пачатак 1970-х, працаваў я тады на радыё. У газеце “Правда” з’явіўся артыкул — агляд, як літаратурна-мастацкія часопісы Савецкага Саюза асвятляюць рабочую тэматыку. І ў пералік тых выданняў, якія недастаткова тое робяць, трапіў беларускі часопіс “Полымя”. У той час нават крытычнае ўпамінанне ў пераліку было кіраўніцтвам да дзеяння. І паколькі я працаваў у рэдакцыі для дзяцей і юнацтва, а там былі рубрыкі, у якіх мы давалі нарысы, часам нават газетныя — без жывога голасу, я часта звяртаўся і да пісьменнікаў. Галоўны рэдактар “Полымя” Кастусь Кірэенка паклікаў мяне і прапанаваў перайсці працаваць у часопіс, весці рабочую тэматыку.

Неяк я прачытаў у газеце пра будаўніцтва буйнейшага ў Еўропе шыннага камбіната на беразе Бярэзіны, у Бабруйску. Узяў камандзіроўку, тыдзень пабыў, пазнаёміўся з будаўнікамі, напісаў нешта, адчуў, што чагосьці не хапае, паехаў яшчэ раз. У выніку напісаў нарыс больш пяці друкаваных аркушаў. Як яго чытаў загадчык аддзела Іван Чыгрынаў, мяне здзівіла. Не з пачатку, а з канца. Прачытае, перагорне, нешта выкрасліць. За паўгадзіны паглядзеў. “Бяры, кажа, цяпер усё звяжы, дзе скарочана”. Так з’явіўся нарыс.

Потым гартаю газеты — бачу спіс перадавікоў гаспадарак, якія атрымалі Дзяржаўную прэмію СССР. І раптам у гэтым спісе бачу: слесар камбіната па выпуску плітак — цяпер ён называецца “Керамін” — Іван Пацерайчанка. Самому стала цікава — як слесар Дзяржаўную прэмію атрымаў. Паехаў, пазнаёміўся з вельмі цікавым чалавекам. Былы танкіст, вызваляў Мінск, сям’я амаль уся працуе на камбінаце. І дачка, і зяць. Сам ён — брыгадзір. Пазнаёміўся з ім, з брыгадай, і атрымаўся таксама вялікі нарыс. Два нарысы склалі цэлую кнігу. Па сутнасці, у літаратуры я дэбютаваў дзвюма кнігамі адразу: кнігай паэзіі “Кляновік” і кнігай “Будзень як свята”, куды і ўвайшлі нарысы.

## Неабходныя ўдакладненні

— Вось мы і выходзім на пытанне — чаму цяпер нарысаў няма? Чаму цяпер з публіцыстыкай справа горшая? І ці толькі справа ў ганарарах?

— Праца публіцыста — нялёгкая праца. Калі пісьменнік піша мастацкі твор — складана. А для публіцыста патрабуецца больш арганізацыйных намаганняў – трэба некуды ехаць, вывучаць, адпаведную літаратуру чытаць.

Але змяніліся і арыенціры. Паглядзіце фільмы — хто герой? Супермен. Альбо бандыт. А часта і тое і гэта пераплятаюцца. Пра чалавека працы пісаць цяпер ужо не модна. Адзінае, па-ранейшаму працуюць актыўна тыя публіцысты, хто мае сацыяльны заказ — ад прадпрыемстваў ці арганізацый. Калі гарантавана фінансаванне і прыстойны аўтарскі ганарар.

— І камандзіроўкі не кожны сабе такія працяглыя дазволіць. Тыя душэўныя ды творчыя выдаткі, якія пойдуць на напісанне нарыса, не адпавядаюць таму, што ёсць вынікам...

— А я і падарожжы рабіў цікавыя ў пачатку 1990-х. На плыце. Адзін з плытоў быў той, на якім зрабіў апошняе падарожжа Уладзімір Караткевіч. Па Прыпяці. Мы пачалі падарожжа з таго месца, адкуль Караткевіча забралі, калі ён падарожнічаў, і ўжо ніколі не вярнуўся на Прыпяць. Гэта месца, дзе рэчка Смердзь упадае ў Прыпяць. Мы падарожнічалі тры месяцы ў розныя гады ў час адпачынку. І для таго патрэбны былі спонсары. Мы іх знайшлі. Яны з намі і падарожнічалі. Нарысы, бясспрэчна, могуць быць не толькі партрэтныя: ёсць і падарожны нарыс, і нават псіхалагічны. Але не ведаю, ці шырокае кола чытачоў будзе ў такім нарысе. У сачыненнях на тэму кім хацеў бы быць, працэнтаў 70 школьнікаў напісалі, што хочуць быць прадпрымальнікамі.

— Можа, таму цяпер і сталі такія разгубленыя перад жыццём, што не задаём сабе непатрэбных ці бессэнсоўных пытанняў, пытанняў, на якія не здолеем даць адказу?

— Так, я быў у першым падарожжы ў 1990 годзе. Ішла перабудова, а па сутнасці разбурэнне вялікай сацыялістычнай дзяржавы, Была няўстойлівасць у светапоглядзе, адны абураліся, іншыя радаваліся. Нехта ўбачыў вялікія магчымасці. Помню, з адным фермерам размаўляў, у яго планаў шмат

Змяніліся арыенціры. Паглядзіце фільмы — хто герой? Супермен. Альбо бандыт. А часта і тое і гэта пераплятаюцца. Пра чалавека працы пісаць цяпер ужо не модна. Адзінае, па-ранейшаму працуюць актыўна тыя публіцысты, хто мае сацыяльны заказ — ад прадпрыемстваў ці арганізацый. Калі гарантавана фінансаванне і прыстойны аўтарскі ганарар.

было — ён мне пра іх расказваў у мікрафон доўга. А пасля гаворыць: а мяне не любяць у вёсцы. Больш зарабляю. Я не мог суддзёю быць у гэтых размовах, проста запісаў. І вось цяпер па радыё перадаюць гэтыя запісы, пастаноўку. Калі чую запісы тыя зноў — адчуваю дыханне таго часу. Можа, і сам не зусім арыентаваўся у тым, што здарылася, і асабліва не ўяўляў, што будзе далей. Але пра гэта гаварылі.

Пісьменнікі лічылі за гонар выступіць у друку з публіцыстыкай, па гарачых жыццёвых слядах, напісаць нарыс. Матэрыялаў хапала, бо творцы мелі магчымасць паехаць у камандзіроўку за кошт Саюза пісьменнікаў, яго друкаваных органаў нават за межы Беларусі.

Аднак лягчэй было, калі існавалі нейкія арыенціры. Тады можна больш на характарах спыніцца, калі факт, падзея ёсць. А калі пераломны час, мо ён і на літаратуры адчуваецца. Цягам дзесяцігоддзя яна як бы прыцэльваецца. Але ж…

— …Многае залежыць і ад таго, у якім інфармацыйным асяроддзі знаходзіцца само грамадства.

— А яго, як вядома, складае пэўны комплекс. Тут і сродкі масавай інфармацыі — друкаваныя і электронныя, і літаратура, як мастацкая, так і дакументальная, і тэатр, і кінематограф. У сваю чаргу, інфармацыйнае асяроддзе фарміруе светапогляд грамадства, устанаўлівае маральна-этычныя нормы. Яно ўрэшце дапамагае вырашаць дзяржаўныя ідэі і праграмы. Памятаеце, як у 30 — 70-я гады мінулага стагоддзя шматлікія дзяржаўна-гаспадарчыя праграмы суправаджаліся тэматычнымі мастацкімі і дакументальнымі кінастужкамі, сацыяльна значнай літаратурай, спектаклямі, радыёпастаноўкамі. Над апошнімі на Беларускім радыё працавалі дзве рэдакцыі: літаратурна-драматычная і рэдакцыя для дзяцей і юнацтва. Пісьменнікі, вопытныя рэдактары, акцёры, рэжысёры, а таксама кампазітары нярэдка стваралі сапраўдныя шэдэўры. Эмацыянальнае і інтэлектуальнае ўздзеянне тых радыёпастановак было відавочным: прыходзіла багата пісем з цёплымі водгукамі і просьбай паўтарыць. Героі твораў праводзілі калектывізацыю, асвойвалі цаліну, асушалі балоты Палесся, будавалі новыя гарады. Ці ж не фарміравалі гэтыя творы светапогляд грамадства? Ці не нацэльвалі на жыццёвы лад, дзе інтарэсы дзяржавы былі вызначальныя? А ці задумваліся вы, якое мы цяпер маем інфармацыйнае асяроддзе? На які лад жыцця клічуць фільмы з гвалтам і стралянінай? Ці жаночае высакародства, культ сям’і, пачуццё мацярынства ўсталёўваюць вольныя ад маралі аголеныя прыгажуні?

Так што і тут рэзка пацяснілі ўзважаную, аналітычную публіцыстыку, дасціпны нарыс, эсэ, дзе ў цэнтры — высакародны чалавек, агрэсіўныя “шэдэўры” бандыцкіх задворкаў з іх пахабным брыдкаслоўем.

Я згадваю Ігната Дуброўскага – выдатныя нарысы пісаў. А сёння згадайце хоць адзін нарыс пра той жа аграгарадок — ці ёсць такі? Я не сустракаў.

Героі твораў праводзілі калектывізацыю, асвойвалі цаліну, асушалі балоты Палесся, будавалі новыя гарады. Ці ж не фарміравалі гэтыя творы светапогляд грамадства? Ці не нацэльвалі на жыццёвы лад, дзе інтарэсы дзяржавы былі вызначальныя? А ці задумваліся вы, якое мы цяпер маем інфармацыйнае асяроддзе? На які лад жыцця клічуць фільмы з гвалтам і стралянінай?

— На ваш погляд, жанр нарыса можа адрадзіцца ці ён трансфармуецца ў нейкія іншыя формы?

— У тым выглядзе, у якім быў раней — сузіральным, апісальным, мне здаецца, не адродзіцца… І аб’ёмныя, відаць, будуць незапатрабаваныя. Бо ў той час, калі ў нас пісьменнікі пісалі дылогіі, трылогіі, на Захадзе творы і раманы займалі невялікія аб’ёмы. Цяпер і нашы пісьменнікі да гэтага як бы падыходзяць. Хто будзе чытаць трылогію?

— Вы працавалі ў выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”, а перад тым былі намеснікам галоўнага рэдактара часопіса “Тэатральная Беларусь”, рэдагавалі “Цэнтральную газету”. Падрыхтоўка фундаментальных энцыклапедычных і даведачных выданняў, якія разлічаны на дзесяцігоддзі і не могуць паддавацца кан’юнктуры часу, адрознівалася? Працы энцыклапедычнага характару больш патрабуюць увагі?

— Энцыклапедыі — гэта зборы ведаў. Бясспрэчна, добрыя энцыклапедычныя і даведачныя выданні нават у крызісны час запатрабаваныя. Хаця бачыў, як падалі тыражы. Калі ў сярэдзіне 1990-х выдаваліся кнігі тыражом у 10 000 экзэмпляраў, то апошнімі гадамі з аглядкай 2 000, самае большае — 3 000. Гэта — калі паўнавартасныя і карыстаюцца попытам.

Падчас маскоўскіх кніжных кірмашоў пабачыў — ёсць выдавецтвы, якія выпускаюць рарытэтныя кнігі. Яны каштуюць па 500 і больш долараў, друкуюцца выключна за мяжой (у Славакіі або ў Італіі). Гэта, бясспрэчна, шэдэўры мастацтва ў афармленні. Там і замкі каваныя, і розныя камяні каштоўныя ў аздабленні — для калекцыянераў. А даведачная… У мяне дома шмат энцыклапедый — кніга для работы, у якой бы галіне ён ні працаваў.

— Тым не менш у аснове ўсіх жанраў — слова. Ваша нязмушанае абыходжанне са словам заўважана нават у Інтэрнэце. У аснове і публіцыстыкі, і мастацкай літаратуры, і дакументалістыкі — слова.

— Я ў “Полымі” працаваў у аддзеле нарыса і публіцыстыкі і адначасова ў аддзеле паэзіі, якім загадваў выдатны паэт, вельмі цікавы і мудры чалавек Анатоль Вялюгін. Побач з нашым кабінетам быў аддзел прозы.

Дык вось, ішлі людзі ў аддзел прозы, а там працавалі Іван Пташнікаў, Барыс Сачанка, у розныя часы іншыя пісьменнікі: і Генрых Далідовіч, і Лідзія Арабей. У аўтараў часта пыталіся: а што гэта за слова? Маўляў, па-іншаму трэба гаварыць. Не, адказвалі нярэдка аўтары, у нас у вёсцы гэтак кажуць. Я невыпадкова сказаў пра мясцовасці. Сам я нарадзіўся у Чашніцкім раёне на Віцебшчыне, там своеасаблівыя слоўкі ёсць (кшталту ідзець), але пасля сям’я пераехала ў мястэчка Войстам. Ад Смаргоні гэта за 20 кіламетраў. Там цікавая мова! Мястэчка далёкае ад трас, дзе скразнячкі ходзяць, далей балоты ажно да Нарачы разліліся. Каларытная там мова. І ў беларускай школе вучыўся, кнігі чытаў, але галоўнае — ад людзей вучыўся, ад таго, што чуў.

— Слухаю гэтыя выпадкі з творчага жыцця, і складваецца ўражанне, быццам літаратура арганічна развівалася сама па сабе. Але ж вы цяпер не толькі творца, а і першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі. Дык вось, ці варта нейкім чынам рэгуляваць развіццё літаратурнага працэсу?

— Не вельмі настойліва, але варта. Прыкладам, калі я бяру часопіс, асабліва дзе маладыя друкуюцца, і бачу вершы, якія пачынаюцца з малой літары і ніякіх знакаў прыпынку няма…

— Так званыя мадэрнісцкія плыні. Для руплівцаў пяра цяпер раздолле…

— Я не за тое, каб гэта не друкаваць. Але на гэта патрэбна спецыяльная рубрыка. “Лабараторыя”, магчыма. А калі адзін ад аднаго бяруць прыклад і пачынаюць моднічаць ці наогул бяруць за ўзор японскую паэзію, не спасцігнуўшы сваёй нацыянальнай, беларускай… А яна ў нас магутная! Трэба, відаць, і тым, хто эксперыментуе, чытаць таго ж Куляшова, Панчанку, ці вось выйшаў у нашай серыі “Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі” збор твораў Максіма Танка ў адным томе. Унікальная паэзія. Трэба вытокі шукаць не ў японскай паэзіі, а ў сваёй, роднай.

Ірына ТУЛУПАВА

Фота Кастуся Дробава

# Кожная кніга — падзея

**Пісьменніцкая арганізацыя Магілёўскай вобласці цяпер налічвае трыццаць чалавек. Пра творчыя ўдачы літаратараў, іх праблемы і спадзяванні мы размаўляем са старшынёй абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімірам Дуктавым.**

— На пісьменніцкіх сустрэчах і сходах часта гучаць словы пра тое, што рэгіянальныя аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі дапамагаюць выявіць творчы патэнцыял інтэлігенцыі краіны. Якія новыя імёны заззялі на літаратурным небасхіле Магілёўшчыны?

— Назаву паэта з Горак Сяргея Кісялёва, празаіка з Магілёва Уладзіслава Кавалёва, краязнаўцу з Клімавіцкага раёна Аляксея Кажамяку. Іх творы сапраўды яркія і моцныя, і мы з радасцю прынялі іх нядаўна ў свае шэрагі. Але заўважу, што добры пачатак у літаратуры яшчэ не гарант стабільнага поспеху. Нездарма наш славуты зямляк, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы Аляксей Пысін казаў: "Важна не толькі ўвайсці ў літаратуру, але і ўтрымацца ў ёй, устаяць як пісьменнік"... А вось мы і паглядзім з часам, наколькі сур'ёзна гатовы працаваць у літаратуры новыя члены нашага саюза. А калі патрэбна будзе дапамога – дапаможам і парадай, і справай. Дарэчы, мы дапамагаем не толькі членам сваёй пісьменніцкай супольнасці. Нашы дзверы адчынены для кожнага літаратара любога ўзросту. А наш адрас можна знайсці ў Інтэрнэце на сайце Саюза пісьменнікаў Беларусі.

— А як у Магілёве падтрымліваюць літаратурную моладзь, тых, хто яшчэ толькі спрабуе сваё пяро і каму яшчэ, мабыць, далёка да ўласных кніг?

— Рашэннем сходу Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі створана секцыя па рабоце з маладымі літаратарамі, якую ўзначальвае член савета аддзялення Мікалай Хобатаў. Ён шмат робіць для падтрымкі таленавітых маладых літаратараў, далучае да гэтай працы іншых сталых пісьменнікаў. Напрыклад, паэт Мікола Салаўцоў праце кіраўніком гуртка "Юны журналіст і літаратар" Чавускага раённага Дома дзіцячай творчасці. Празаік Аляксандр Цераxаў рыхтуе для літаратурнай старонкі абласной газеты "Магілёўскія ведамасці" пастаянную рубрыку, дзе прадстаўляюцца творы маладых аўтараў і даюцца кароткія біяграфічныя звесткі пра іх. А ў Клімавіцкай раённай газеце "Родная ніва" іх рыхтуе член нашага аддзялення паэт Мікола Мінчанка.

Два гады запар вясною пісьменніцкае аддзяленне сумесна з установамі адукацыі вобласці праводзіла рэгіянальныя семінары юных паэтаў і празаікаў. Аказваецца пастаянная творчая дапамога літаратурным аб'яднанням, якія дзейнічаюць ва ўстановах культуры і адукацыі. Цесныя творчыя сувязі існуюць у пісьменніцкага аддзялення з літаратурнымі аб'яднаннямі Магілёўскага ўніверсітэта імя А. Куляшова, універсітэта харчавання, вучылішча



> У Магілёўскім дзяржаўным універсітэце заснавана і выдзяляецца іменная стыпендыя імя Аркадзя Куляшова. Пры вылучэнні кандыдатур на атрыманне спецыяльнай прэміі аблвыканкама "Чалавек года" ў 2011 і наступных гадах будуць улічвацца пазіцыі па ўзнагароджанні за актыўнае развіццё і папулярызацыю беларускай мовы, літаратуры і мастацтва.

культуры, палаца культуры чыгуначнікаў.

Да 65-годдзя Вялікай Перамогі ў абласной друкарні выйшла кніга паэзіі і прозы членаў літаратурнага аб'яднання Магілёўскага ўніверсітэта харчавання "Спасибо Вам за День Победы". Выдадзены зборнік пры падтрымцы мясцовай арганізацыі грамадскага аб'яднання "Белая Русь" і абласнога пісьменніцкага аддзялення.

— Кожнае рэгіянальнае пісьменніцкае аб'яднанне, безумоўна, мае ўласныя ініцыятывы, скіраваныя на тое, каб узняць прэстыж сучаснай айчыннай літаратуры. А што дзеля гэтага робіцца ў Магілёве?

— Мы ў гэтым накірунку працуем разам з упраўленнямі ідэалагічнай работы і культуры Магілёўскага аблвыканкама, установамі культуры і адукацыі, рознымі грамадскімі арганізацыямі. Намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама Валерый Малашка на пачатку года зацвердзіў комплекс першачарговых мер па папулярызацыі беларускай мовы на 2010 — 2012 гады, дзе прадугледжана заснаванне прэмій выканкамаў за развіццё і папулярызацыю беларускай мовы, літаратуры і культуры. Адпаведныя рашэнні цяпер прымаюцца на месцах. Так, Бабруйскі гарвыканкам заснаваў прэмію імя Міхася Лынькова, Горацкі райвыканкам заявіў пра заснаванне прэміі імя Максіма Гарэцкага, а Краснапольскі — прэміі імя Івана Чыгрынава. У Магілёўскім дзяржаўным універсітэце заснавана і выдзяляецца іменная стыпендыя імя Аркадзя Куляшова. Пры вылучэнні кандыдатур на атрыманне спецыяльнай прэміі аблвыканкама "Чалавек года" ў 2011 і наступных гадах будуць улічвацца пазіцыі па ўзнагароджанні за актыўнае развіццё і папулярызацыю беларускай мовы, літаратуры і мастацтва.

— Гэты год быў багаты на падзеі і святы. Якое найбольш запомнілася вам?

— Магілёўскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі савецкіх часоў было створана яшчэ ў красавіку 1960 года. І сёлета ў красавіку мы ўрачыста адзначылі гэтую падзею. Правялі разам з абласной бібліятэкай імя У. І. Леніна ўрачысты сход, на які запрасілі пісьменнікаў розных пакаленняў і нашых шматлікіх чытачоў. Гэтае свята запомнілася многім. Але, безумоўна, нічога не можа параўнацца па яркасці, насычанасці праграмы, прыгажосці з Днём беларускага пісьменства. Разам з сябрамі-пісьменнікамі давялося за апошнія гады пабываць на такіх цудоўных святах у Шклове, Барысаве, Смаргоні. І вось сёлета — у Хойніках на радзіме Івана Мележа! Абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі вельмі ўдзячнае і свайму рэспубліканскаму кіраўніцтву і Магілёўскаму аблвыканкаму, якія забяспечваюць матэрыяльны бок такіх каштоўных паездак нашых пісьменніцкіх дэлегацый. Яны даюць зарад станоўчых эмоцый на цэлы год.

— Што б мы там ні казалі, але вынікам пісьменніцкай працы з'яўляецца ўсё ж такі кніга. Ці шмат кніг з'явілася ў пісьменнікаў Магілёўшчыны ў гэтым годзе?

— Дзясятак назваць можна. І кожная з іх — падзея ў культурным жыцці вобласці. З гэтай нагоды ладзяцца прэзентацыі, змяшчаюцца рэцэнзіі і водгукі ў абласным перыядычным друку.

— Жыццё паказвае, што добрых паэтычных зборнікаў з'яўляецца значна больш, чым кніг прозы. Як вы думаеце, з чым гэта звязана?

> Роля літаратурнай крытыкі павінна ўзрастаць. Перад літаратурным працэсам яна пакуль што ў вялікім даўгу. Чаму так адбываецца? Над гэтым трэба задумацца перш за ўсё самім крытыкам. Чаго не хапае? Прафесіяналізму, смеласці, адказнасці?.. Мы на месцах спадзяёмся на свае кадры. Шукаем перспектыўную моладзь, якая здатная рызыкнуць і звязаць сябе з не заўсёды ўдзячным лёсам літаратурнага крытыка.

— Паэзія, праз паэтычны радок ёсць магчымасць больш аператыўна адгукацца на розныя падзеі і душэўныя памкненні. Сёлета паэтычныя зборнікі выйшлі ў нашых пісьменнікаў Міхаіла Уласенкі, Ніны Кавалёвай, Васіля Рагаўцова, Сяргея Кісялёва, Віктара Кунцэвіча. Але проза таксама была. Я маю на ўвазе кнігі Віктара Арцем'ева, Уладзіслава Кавалёва, Міколы Леўчанкі, Аляксандра Балдоўскага.

— Калі ў краіне ёсць літаратары, якія пішуць на грамадзянскую тэматыку, — яна можа ганарыцца. Так казаў у адным са сваіх інтэрв'ю Аляксандр Фадзееў. А ці згодны з гэтым тэзісам вы? І ці можа ганарыцца наяўнасцю такіх літаратараў?

— З тэзісам цалкам згодны. Кожны літаратар звяртаецца да грамадзянскай тэматыкі абавязкова. А вось пісьменнікі-нарысісты Яўген Соцікаў, Мікола Барысенка, Аляксандр Косцераў, Мікола Давідовіч, Аляксей Кажамяка абралі гэтую тэматыку асноўнай для сваёй творчасці. А вось і яшчэ пэўныя факты. Сёлета сумесна з Магілёўскім абласным гісторыка-патрыятычным пошукавым клубам "Вікру", на чале якога, дарэчы, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікола Барысенка, выпушчаны чарговы, пяты па ліку, альманах "Магілёўскі пошукавы веснік". Прысвечаны ён 65-годдзю Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Выпуск зборніка здзейснены на дзяржаўныя сродкі і пры падтрымцы ўпраўлення ідэалагічнай работы Магілёўскага аблвыканкама і аддзела па справах моладзі аблвыканкама. У зборніку змешчаны нарысы, артыкулы гісторыкаў-навукоўцаў, краязнаўцаў, успаміны людзей, якія перажылі жахі Вялікай Айчыннай вайны. Патрапілі туды таксама творы нашых пісьменнікаў Міколы Барысенкі, Віктара Арцем'ева, Аляксея Кажамякі.

— Некалькі слоў пра прафесійную крытыку. Не сакрэт, што менавіта крытык лягчэй за ўсё можа дапамагчы пісьменніку знайсці свайго чытача. І крытык жа, калі ён дастаткова добразычлівы, можа паспрыяць хутчэйшаму станаўленню пачынаючага літаратара. І ўсё ж, ці не падаецца вам, што апошнім часам айчынная крытыка "хварэе" беззубасцю?

— Роля літаратурнай крытыкі павінна ўзрастаць. Перад літаратурным працэсам яна пакуль што ў вялікім даўгу. Чаму так адбываецца? Над гэтым трэба задумацца перш за ўсё самім крытыкам. Чаго ім не хапае? Прафесіяналізму, смеласці, адказнасці?.. Мы на месцах спадзяёмся на свае кадры. Шукаем перспектыўную моладзь, якая здатная рызыкнуць і звязаць сябе з не заўсёды ўдзячным лёсам літаратурнага крытыка. А таксама заахвочваем на выступы ў дадзеным жанры сталых пісьменнікаў, якія маюць здольнасць і схільнасці да аналізу літаратурных твораў. Гэтак, апошнім часам даволі паспяхова выступілі з рэцэнзіямі ў "ЛіМе", часопісе "Нёман", іншых выданнях Віктар Кунцэвіч, Віктар Арцем'еў...

— Праблема графаманства з'явілася тады, калі выдавецтвы пачалі прапаноўваць свае паслугі любому, хто мае грошы. Ці шмат графаманаў, на вашу думку, патрапіла ў пісьменніцкі саюз?

— Адказваю за наша пісьменніцкае аддзяленне. Такіх асоб у сваім творчым асяроддзі пакуль што не маем. Спадзяюся, што і надалей яны не трапяць да нас. Бо ўмовы і практыка прыёму ў Саюз пісьменнікаў Беларусі дастаткова прафесійныя і строгія. І планку патрабаванняў зніжаць ніхто не збіраецца.

Гутарыла
Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## Анкета пісьменніка

# Не-настаўнікам быць не можаш



1. Існуе меркаванне: калі раней пісьменнік быў настаўнікам, вышчальнікам існы, то цяпер стаў прыватнай асобай, якая рэдка паяўляецца нават на ТБ. І яшчэ радзей у газетах. Чаму?
2. Падзенне нораваў — міф ці рэальнасць. Ці павінны кнігі вучыць жыць?
3. Як грамадская актыўнасць пісьменніка ўплывае на яго літаратурную працу?
4. Чаму знікае публіцыстыка? Якія характэрныя рысы сучаснага нарыса вы б вызначылі?

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ, старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ:**

1. Трэба спачатку стаць пісьменнікам, напрацаваць літаратурны вопыт, і быць аўтарытэтам — для таго, каб стаць настаўнікам. Калі ты сапраўдны пісьменнік, то не-настаўнікам быць не можаш. Пісьменнік — гэта з'ява! Іх не можа быць пяцьсот. Дзесяць — дваццаць — трыццаць тых, хто можа быць аракуламі і на сённяшні час вяшчальнікамі ісціны, самага важнага.

2. Надзея Парчук, адказваючы на пытанні анкеты, выдатна сказала, што падзення нораваў няма. У мяне ў цыкле "150 пісьменніцкіх радкоў" нататка была пра трох маладых юнакоў. Яны ехалі з нэтбукам у цягніку, і зайшлі трое мужчын узросту гадоў 45-і. Юнакі, занятыя нэтбукам, нешта знаходзяць, смяюцца. А мужчыны (з півам у руках!) нявеліва пазіраюць: "Вунь, маладосць якая". Пабач — суседкі па вагоне, якія ніяк не ўсядуцца. Хлопцы раздражняюцца тым, што гэтыя непаседы гучна размаўляюць. А яны нешта захоплена рашаюць! Расказваюць адзін аднаму: у спортзалу ходзяць кожны дзень, у нейкай ВНУ вучацца... Дык што, гэтыя юнакі — амаральныя? Проста лёгка ў нас стала сказаць: "упалі норавы", вось і гавораць, дзе трэба, дзе не трэба. З-за таго, што больш наведвалку вандалы, тыя, хто ламае ў парках лавы. Мне здаецца, маральнасць не падае, а расце — са стагоддзя ў стагоддзе, з дзесяцігоддзя ў дзесяцігоддзе. Ад адной фармацыі — да другой.

3. Гэта залежыць усё ад індывідума. Ацэньваецца ўсё па творах. Калі ты грамадскa актыўны — дадатковую карысць прыносіш. Не актыўны — гэта не загана. Пісьменнік робіць сваю справу — і гэта правільна.

4. Такі час, што знікае публіцыстыка. А вось пра нарыс... Я заўсёды займаўся гэтай тэмай і нават пісаў дыпломную працу на факультэце журналістыкі па нарысе. Тады яшчэ заўважыў: нарыс, у параўнанні з савецкім часам, стаў больш сур'ёзным жанрам. І патрабуе куды большага майстэрства, чым у савецкі час. Тады па шаблоне рабілі: абавязкова апісанне прыроды, нешта патрабавалася заўважыць у героі. Мастацкія вобразы былі часам надуманыя. А зрабіць нарыс не так проста! Там ніводнага слова лішняга не скажаш, усё павінна быць выверана. І мастацкія патрабаванні куды вышэйшыя. Таму адсеяліся выпадковыя аўтары, а засталіся тыя, хто не можа не пісаць.

# Вяртанне паэта

У пакоі стаяць два раялі. Возьмем на адным з іх ноту “до”, падыдзем да другога – а там струна “до” таксама вібрыруе. Вядомы прыклад рэзанансу мімаволі прыгадваецца, калі гартаеш новую кнігу серыі “Беларускі кнігазбор”. Гэтак жа наладжаныя на адну “хвалю” Казімір Сваяк (сапраўднае імя — Кастусь Стэповіч) і Ірына Багдановіч — даследчык яго жыццёвага і творчага шляху, укладальнік кнігі. Гэта — “сваякі па духу”, дзейнасць аднаго з якіх прыпала на 1910 — 1920-я гг. XX ст. і стала даследчыцкім лёсам для другога — аддаленага па часе не адным дзесяцігоддзем, але надзвычай блізкага па жыццёвых і творчых ідэалах.

На вечарыне-прэзентацыі Ірына Багдановіч адзначыла: “20 год ішлося да гэтай кнігі”. Такім быў шлях даследчыка. Увогуле ж гэтае выданне чакалі амаль стагоддзе. У дадатку да кнігі “Сучаснікі пра Сваяка” змешчаны артыкул Антона Навіны (Антона Луцкевіча), які яшчэ ў 1926-м пісаў: “Трэба спадзявацца, што ўся літаратурная спадчына па ім будзе рупліва сабрана і аддадзена грамадству — у друкаванай форме”. Спраўдзілася, як бачым, толькі ў 2010-м. Чаму так?

Зразумела, што ў савецкія часы вывучэнне творчай спадчыны каталіцкага святара, ды яшчэ і нацыянальна свядомага, мякка кажучы, не віталася. Адзіная прыжыццёвая кніга Казіміра Сваяка “Мая ліра” была выдадзена ў Вільні ў 1924-м. Як адзначае Ірына Эрнстаўна, “не лічачы яшчэ некаторых асобных выданняў-брашур (нарыс-прапаведзь “Алкаголь”, п’еса “Янка Канцавы”, пасмяротна выдадзеныя містэрыя “Купалле” і дзённік “Дзея маёй мыслі, сэрца і волі”), у цэлым літаратурная спадчына Казіміра Сваяка раскідана па перыёдыцы 1910 — 1920-х (пераважна газеты “Беларус”, “Беларуская крыніца” ды іншыя)”.

І вось сабралася параскіданае...

Доўгачаканае выданне твораў Казіміра Сваяка адкрывае для чытача новыя, не асветленыя раней бакі гэтага шматграннага таленту. Сваяк сцвердзіў сябе не толькі ў паэзіі, але і ў прозе, драматургіі, публіцыстыцы, крытыцы. Так, напрыклад, ён спрабуе “нешта аб Багушэвічу напісаць”, і спроба гэтая, нягледзячы на тое, што пад рукою няма нават “Дудкі беларускай”, перантвараецца ў змястоўны нарыс “Ф. Багушэвіч — пясняр беларускі”. Тут аўтар спрабуе даць адказ на такія пытанні, як “хто Ф. Багушэвіч і той час, калі ён жыў”, “Ф. Багушэвіч як дэмакрат”, “пагляд беларуса на прыроду і чалавека ў творах Ф. Багушэвіча”, “рэлігія і яе панняцце ў творах Ф. Багушэвіча”, “паэзія і яе форма ў творах Ф. Багушэвіча”, “мудрасць беларуса ў творах Ф. Багушэвіча”, “ідэя Багушэвіча і ідэя Шаўчэнкі”. Цікава, напрыклад, як, разважаючы над хібамі з боку формы ў творах будзіцеля Беларусі, Казімір Сваяк спрабуе іх апраўдаць: “Адно толькі сказаць трэба, што ў вершах, дзе знаходзяцца гэтыя пахібы, — уставіць досьць, казаў бы, сумысля апушчанае, адно слоўца, а верш будзе гладкі. Вось гэта і наводзіць на думку, што недастачы формы ў вершах Багушэвіча — гэта віна выдаўцоў”. Дарэчы, Багушэвічу Сваяк прысвяціў яшчэ і асобны верш.

Што да прозы... Вобразна кажучы, ужо ў т. зв. “народных” апавяданнях Казіміра Сваяка прабіваюцца “парасткі” прозы вялікай — як і ў значэнні майстэрства, так і ў жанравых адносінах. Вось, напрыклад, Юрка-беларус — “яркі народны характар” (апавяданні “Што Юрка ў тэатры бачыў”, “Што Юрка ў газеце вычытаў”, “Падарожжы Юркі Беларуса” і інш.). У сваіх разважаннях гэты “прастачок” (якім ён можа падацца на першы погляд) закранае часам фундаментальныя філасофскія пытанні. Прычым закранае іх незаўважна для сябе, не задумваючыся над глыбінёй узнятай праблемы... Напрыклад, у “Падарожжы...” Юрка разважае пра “вяскоўцаў” і “паноў” наступным чынам: “Ёсць паміж нашым жыццём і іхным нейкая страшэнная пропасць, каторую выкапала, сам не ведаю, ці іх пыха, ці наша пакора. Пакуль гэтая пропасць выраўняецца (хто яе мае раўняць?!), шмат часу ўплыве...” Твор датуецца 1921 годам, калі пытанне “хто яе мае раўняць?” было ўжо ні-

> Доўгачаканае выданне твораў Казіміра Сваяка адкрывае для чытача новыя, не асветленыя раней бакі гэтага шматграннага таленту. Сваяк сцвердзіў сябе не толькі ў паэзіі, але і ў прозе, драматургіі, публіцыстыцы, крытыцы. Так, напрыклад, ён спрабуе “нешта аб Багушэвічу напісаць”, і спроба гэтая, нягледзячы на тое, што пад рукою няма нават “Дудкі беларускай”, перантвараецца ў змястоўны нарыс “Ф. Багушэвіч — пясняр беларускі”.

быта аднадначна вырашана. Але, як бачым, з кастрычніцкімі аксіёмамі пагаджаліся не ўсе... У гэтым жа творы Юрка і Марцісь, разважаючы над прычынамі тагачаснай бязбожнасці, мімаходзь прыходзяць да высновы: “Ім не хочацца Бога, дык і робяць так, каб яго не было”. Застаецца толькі пашкадаваць, што пісьменнік з такім філасофскім мысленнем не паспеў паспрабаваць сябе ў буйных жанрах. Аднак і тое, што было створана, выключна малой прозай не назавеш.

Так, Казімір Сваяк “быў шматгранным творчай асобай, але, бадай, паэт засланяў у ім усе астатнія творчыя амплуа”. Сапраўды, напоўніцу гэты творца раскрыўся менавіта ў паэзіі. І найчасцей Казімір Сваяк успрымаецца як паэт рэлігійны. Аднак варта мець на ўвазе, што побач з такімі вершамі, як “Песня на псальм 130”, дзе лірычны герой з духам “безнадзейным, замучаным, збітым” упарта сцвярджае, што “Ніколі, Божа, Табой я не сыты: / Нават і ў пекле цябе прызываў бы”, ёсць і вершы кшталту “Айчыны мілай”, дзе лірычны герой ужо нібыта “...не чакае з рук Божага Даўцы / Ужо збаўлення з долі апляванай”. Нездарма вакол веры-бязвер’я Сваяка ў свой час усчалася сапраўдная дыскусія: адны сцвярджалі, што “вера ў свой народ” замяніла Казіміру Сваяку веру ў Бога (Антон Луцкевіч), іншыя тлумачылі гэтыя спрэчныя месцы “момантам патрыятычнага адчаю” (Макар Краўцоў). Пазіцыю аўтара дапамагае раскрыць верш “Веру нярозуму працi...”, дзе лірычны герой сцвярджае:

Я веру ў нейкае
вяліко Аб’яднанне
Ці, як завуць яго
з лаціны “Унеінізм”:
І ў Перуна крывіцкага
прызнанне, —
І ў хрысціянскі зноў
святы натуралізм.

Тут варта ізноў жа звярнуцца да аўтарытэтнага меркавання Ірыны Багдановіч: “Гэтая пазіцыя была надзвычай смелай для каталіцкага духоўніка, бо яна... падкрэслівала глыбокую народнасць яго светапогляду... Сваяк як святар нельга пакрэнуць за “веравызнаўчую ўсёстраўнасць” або бязвер’е. Ён ведаў глыбіні народнага жыцця, традыцыйную культуру беларусаў, і ў той жа час гэта не пярэчыла таму, што ён быў глыбока веруючым хрысціянінам-католікам, пакліканым любіць бліжняга і служыць яму”.

Наталля ПАХОМЧЫК



# Смех Івана Жытко

Цяжка ўявіць, што чалавек такой сур’ёзнай прафесіі, як міліцыянер, можа не толькі сам смяяцца, але і смяшыць іншых. Але, мабыць, гумару, як і каханню, усе ўзросты і спецыяльнасці падуладныя.

У гэтым пераконваешся, сустракаючыся з Іванам Жытко — членам Саюза пісьменнікаў Беларусі, былым участковым упаўнаважаным, супрацоўнікам крымінальнага вышуку, начальнікам аддзялення аховы і проста вясёлым і добрым чалавекам, які і на пенсіі не сядзіць склаўшы рукі. Жыве Іван Жытко ў Камянцы, а нарадзіўся ў вёсцы Гукова Ляхавіцкага раёна. Скончыў вышэйшую школу МУС у Маскве.

Ён выдаў 4 кнігі гумарэсак, апошняя з якіх пад назвай “Смех смехам” убачыла свет летам бягучага года ў брэсцкім выдавецтве “Альтэрнатыва”. Чытаеш немудрагелістыя гісторыі і адразу разумееш: усё сапраўднае. Асаблівы каларыт гумарэскам надае тое, што аўтар укладае ў вусны сваіх герояў — простых людзей, якія жывуць побач з намі, — асаблівую гаворку, аздобленую рознымі прыказкамі і прымаўкамі, якія вельмі яскрава характарызуюць сваіх уладальнікаў. Напрыклад: “Здароваму жывату і рэдзька не вадзіць, а хвораму і масла шкодзіць”, “Не з’ясі зерне, пакуль арэх не раскусіш”, “Лепш малы рублік, чым вялікі дзякуй”, “Першы блін сабаку, другі — небараку, а трэці — сабе”, “Хоць з карыта, абы дасыта”, “Языком мянціць – не сена касіць”, “Ён як той баравік, што шапкаю хваліцца, а галавы пад ёю не меў”, “На языку ў цябе мядок, а на сэрцы лядок”, “На панскі розум ёсць мужыцкая хітрасць”, “Краса да вянца, а розум да канца”, “Што ні скажа, быццам маслам мажа”, “Кума куме — і пайшло па сяле”, “Ад гарэлкі розум мелкі” ды іншыя. “Умелая прыказка, што пры мяшку прывязка”, — гэтыя словы можна аднесці да ўсёй кнігі Івана Жытко. Усе прымаўкі так арганічна ўпляліся ў яго расповеды, што не толькі не рэжуць слых, а наадварот, надаюць гумарэскам асаблівую прывабнасць.

“Гумарыст… бачыць вышэй і шырэй, чым тыя, хто побач, і імкнецца напоўніцу падзяліцца гэтым сваім дарам з іншымі”, — сказаў у прадмове да кнігі “Смех смехам” Анатоль Крэйдзіч. І гэта сапраўды так.

Наталля КАНДРАШУК



# Дзяліў я быль, дзялю і боль

У 2009 годзе ў выдавецтве “Адукацыя і выхаванне” выйшла кніга Міколы Лешчуна “Белая завея”. Многім аматарам паэзіі добра знаёмая грамадзянская лірыка М. Лешчуна, прасякнутая высокімі ідэаламі служэння сваёй зямлі і яе народу. Вернасць даўно пастаўленым творчым мэтам, смеласць заставацца шчырым і самаадданым, цэльнасць паэтычнай натуры М. Лешчуна, пэўна, падкупляе чытача. Як трапна, адным словам ахарактарызаваў творцу ў прадмове да яго новай кнігі “Белая завея” Л. Дранько-Майсюк: “сапраўдны”.

Мікола Лешчун на старонках новага зборніка шмат разважае пра сваю краіну, яе гісторыю і сучаснасць, пра бацькоў (“Усё тут помніць маму з татам, // І дух маленства шчэ жыве, // Вяргіні абдымаюць хату, // Вітае скрыпам жураўель”); Яго праўдзівы аповед аб сваіх вытоках натуральна ўплятаецца ў агульную канву кнігі.

Нельга пакінуць без увагі вершы М. Лешчуна пра родную мову. Час хутка імкнецца наперад, многае перамянілася ў нашай свядомасці, але і сёння, распавядае паэт, у розных людзей розныя жыццёвыя каштоўнасці: Адзін больш дбае пра валюту, // Другі – пра мову й родны край, разам з тым аўтар заклікае: Куды цяжэй – не бедаваць, // А размаўляць па-беларуску. Адчуваецца, што сам паэт вельмі даражыць і сваёй Айчынай, і яе народам, і роднай мовай, таму словы быццам самі праліваюцца з яго сэрца, простыя і шчырыя: Я пісацьму да самай магілы, // З нашай моваю буду дагэтуль, // Колькі таленту мецьму і сілы.

Наогул меркаванні пра лёс і прызначэнне паэта на зямлі вельмі хвалюе М. Лешчуна, таму да гэтай тэмы ён звяртаецца ў многіх творах, дзе акрэслівае бачанне сітуацыі з пункта гледжання “радавога паэтычнае нівы”: Я лічу за прызнанне служэнне // Верай-праўдай капрызлівай Музе. // Яна дорыць ад скрухі збавенне // І дарадзіць у кожнай спакусе; “Што да таго, калі творцу пакутна?! // Што каму тыя натхнення радкі?! // Штосьці паэтаў наогул нячутна, // Штось, як раней, не стае талакі…”

Яшчэ адна нялёгкая тэма, якой аддае даніну ў сваёй творчасці М. Ляшчун, – Чарнобыльская катастрофа. Паэт цяжка перажывае тое гора, што абрынулася на нашу краіну, якое адняло ў яго родную вёску: Змятаюць цэзіевы пыл // З дарог палескіх ветрагоны // І з хат – пакінутых магіл // Нямой адчужанае зоны. // Тут пахаваны заўчасна // Маленства хуткага гады. // Асірацелы і няшчасны, // Заўсёды еду я сюды”. Ён усхвалявана вымаўляе: Я бедаваў і выў начамі, // Не бачыў неба, зор ад слёз. // І затуліў зямлю б рукамі, // Дзе нарадзіўся і узрос.

Нельга абысці ўвагай і тое, што паэт-грамадзянін М. Ляшчун паўстае ў кнізе “Белая завея” і паэт, што апявае прыгажосць роднай прыроды, які здолеў знайсці дакладныя параўнанні, жывыя эпітэты: Язмінны водар летняй прахалодай // Натхніў мне песню светлую ў душы” ; “І патанае салаўіны пошчак // У ліпеньскай бурштынавай расе” ; “Такая ноч, такія ў небе зоры, // Аж патанаюць вочы ў вышыні. // Плыву паглядам па нябесным моры, // Дзе вечна недасяжныя агні”.

Унутраная сіла вершаў Міколы Лешчуна мае такі вялікі напал, што як бы перакрывае пэўныя тэхнічныя недахопы, якія не магло не заўважыць вока, прыкладам, часам недакладныя рыфмы. І ўсё ж многае можна прабачыць паэту за тое, што даў ён нам спавядальныя, напоеныя святлом і святасцю радкі…

Надзея СЕНАТАРАВА

# Забавы ў асобах

Пробу пяра на гэтай літаратурнай дзялянцы П. Васючэнка ажыццявіў сумесна з Сяргеем Кавалёвым, напісаўшы яшчэ ў далёкім 1990-м "Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага". Захаплыльна закручаныя прыгоды тых безумоўна каларытных паноў атрымалі ўсеагульнае прызнанне. Іхнія характары шляхетныя. Аднак шляхетнасць тая напоўнена, па слушнай заўвазе Ф. Драбені, "заганамі, якія, як вядома з гісторыі, прывялі шляхту да збяднення: ганарыстасць, прагнасць, хцівасць, празмерная самаўпэўненасць, сварлівасць, баязлівасць". Але іх партрэты з дамешкам дзіцячай наіўнасці і бязмежнага аптымізму, часам кемлівасці, часам — упартасці выпісаны такім чынам, што выклікаюць зусім не антыпатыю, а хутчэй гамерычны смех.

"Па сутнасці, – разважае Ф. Драбеня, які ў сваім даследаванні параўновае мастацкія характары беларускіх шляхціцаў то з генераламі М. Салтыкова-Шчадрына, то з баронам Мюнхаўзенам, — аўтары сцвярджаюць думку, уласцівую многім народным казкам: аб перавазе прадстаўнікоў сялянства над сваімі ўладарамі".

На гістарычным грунце створаны яшчэ дзве п'есы П. Васючэнкі. У п'есе "Маленькі збраяносец" (1998). Тыповая фабула — барацьба рыцара за сэрца дамы — атрымлівае незвычайную развязку: "развіццё падзей паказвае, што слава Дармедонта — гэта толькі прывід, за ёю хаваецца нізкі, карыслівы, эгаістычны чалавек, а яго непрыкметны збраяносец — вось сапраўдны рыцар" (Ф. Драбеня). Вырашэнне канфлікту назіраецца ў дзвюх плоскасцях: матэрыяльнай і духоўнай. У першым выпадку неабходна перамагчы агрэсара — караля Краіны Павукоў Тарантула. У другім — вырашаецца шэраг маральных чалавечых праблем, перадусім шчырасці, сціпласці, смеласці. І ў абедзвюх плоскасцях збраяносец Андрусь паказвае наглядны прыклад самай высокай маркі рыцара, вартага найлепшай дамы сэрца. Апошнюю паўстае Злата, прыгажосць якой міфалагізавалі мастакі, пры гэтым перабольшваючы яе ступень. Галоўным і для прынцэсы, і для збраяносца засталіся вартасці духоўнага плана. Яны і адкрылі ім шлях да шчасця. Развязка п'есы выявіла прынцыпова новыя грані характараў (што не так часта практыкуецца і ў "дарослай" драматургіі), але, адпаведна тэарэтычным палажэнням, "логика взаимодействия характеров и обстоятельств убеждает в том, что «новое» качество персонажа, открывшееся взору читателей, на самом деле не так уж ново для данного человека, оно не делает его совершенно "другим". <…> Как только обстоятельства конфликта коснулись самого важного для героя, выступили наружу и черты, присущие именно этой определенной индивидуальности, она по-своему на них отозвалась" (К. Гарбунова), — тэза, цалкам прымяняльная да абодвух герояў-рыцараў.

Галоўным героем п'есы П. Васючэнкі "Хведар Набілкін — беларускі касінер" (1999) становіцца звычайны селянін, які і не хацеў бы тых прыгод, але абставіны ўклалі ў яго рукі касу ў якасці зброі. Паводле К. Гарбуновай, "в этом и значение и ограниченность значения обстоятельств в драматическом произведении: характер приходит в движение в силу сложившихся обстоятельств, но обстоятельства драматически-действенны не сами по себе, а только в связи с индивидуализированными характерами". Як і ў іншых казках, кульмінацыя пакідае героя "са шчытом". Дый мэта дасягнута: Князёўна, зачараваная Цмокам, вызвалена і ідзе замуж за свайго ратаўніка. Аднак творы П. Васючэнкі нярэдка вылучаюцца арыгінальнічаннем, і ў гэтым выпадку аўтар не здрадзіў сваім творчым інтэнцыям, напоўніўшы як калізіі твора, так і характары вялікай доляй іроніі, а таксама шаржыраваннем і травесціраваннем. Хведар Набілкін зусім не выглядае героем, можна сказаць, не дацягвае да яго, з'яўляючыся праставатым і, мякка кажучы, неадукаваным, затое, як адзначае сама

Вядомы беларускі літаратар Пятро Васючэнка досыць плённа працуе на ніве драматургіі — і ў якасці крытыка, і ў якасці аўтара п'ес. Знайшоў ён прызнанне і ў дзіцячай аўдыторыі. Яго п'есы для дзяцей убачылі свет не толькі са старонак кніжак, але і са сцэны. У нашым жа выпадку хацелася б засяродзіцца на яго дзіцячых п'есах як літаратурным феномене. Балазе крытыка не песціць сваёй увагай драматургічны род дзіцячай літаратуры, хаця як паказвае яскравы прыклад П. Васючэнкі, вартыя аўтары ў нас ёсць.





Князёўна, добрым і працавітым. Дый Цмок, наперад ведаючы, каго яму трэба баяцца, спрабуе вырашыць справу шляхам "кансенсусу". Ён фактычна выдае сакрэт, паводле якога закона будуюцца казкі: галоўнае ў супрацьстаянні не вульгарная фізічная сіла, а маральная стойкасць. У стварэнні мастацкіх характараў за П. Васючэнкам можна ўвогуле прызнаваць наяўнасць свайго адметнага стылю. У яго п'есах цяжка знайсці ідэалізаванага героя. Нягледзячы на настойлівыя рэкамендацыі даследчыкаў дзіцячай літаратуры строга вытрымліваць палярызацыю персанажаў для беспраблемнага, гладкага ўспрымання твора маладой псіхікай, П. Васючэнка не пазбягае надзялення нават станоўчых дзеючых асобаў некаторымі заганамі. Такі прыём, аднак, не толькі спрыяе рэалізацыі творчай задумы, але робіць іх больш ажыўленымі. У пацвярджэнне тэатразнаўцы прыводзяць такія прыклады, як вобразы ката Матроскіна, Бурацінa, Віні-Пыха…

П'ес для дзяцей, якія б узнімалі экалагічную праблематыку, у нашай літаратуры, шчыра кажучы, мала. Відавочна, тэма складаная. Удалым прыкладам у свой час стала "Каляровая затока" П. Васючэнкі (1994). Галоўнаму герою Шчупачку даводзіцца перадольваць балотную закасцянеласць "апошніх абарыгенаў атручанага прыроднага асяроддзя", якія да таго звыкліся з ім, "што нават і не мараць пра чыстую ваду і кісларод". Больш таго, хімічнымі забруджаннямі яны харчуюцца і нават лечацца, а ад чыстай вады ім становіцца кепска. Нібыта мудры клоп, глухаватая Шчупачыха, марудны, затармажаны Слімак не толькі адаптаваліся да такога асяроддзя, але і стварылі перакулены з ног на галаву свет, які выклікае смех, як і паралічаныя персанажы. Наіўны, але цікаўны Шчупачок не прымае гэтага недарэчнага свету, у якім неўзабаве з'яўляецца Хахуля. Яна не збіраецца пагаджацца з абставінамі, асабліва з тым, што, па словах Клапа, "хахуляў не бывае", яны выміраючы від. Дзякуючы свайму жыццялюбству яна не толькі знаходзіць чысты вадаём, але і забірае з сабой Шчупачка. Канфлікт вырашаецца арганічна, развязка цалкам адпавядае па-мастацку яркім, акрэсленым характарам персанажаў. Яны надзелены пазнавальнымі чалавечымі рысамі. Дый перакуленасць свету жыхароў затокі ўтварылася пад уплывам менавіта людзей. З гледзішча Клапа ўсе "двухногія" кепскія, і, відавочна, гэтую пазіцыю ўжо не змяніць. Носьбітамі нязгаснага аптымізму з'яўляюц-



ца Шчупачок і Хахуля – прадстаўнікі маладога пакалення. На іх прыкладах аўтар і завастрае ўвагу рэцыпіентаў свайго твора.

С. Юркевіч праводзіць паралелі паміж п'есай П. Васючэнкі "Страшнік Гам" (1999) і народнай казкай "Зімоўка звяроў". Свойскія жывёлы, незадаволеныя паднявольным жыццём, уцякаюць у лес, каб "жыць як людзі". Яны згуртоўваюцца, зыходзячы з меркантыльных інтарэсаў. Таму і праганяюць Пеўня, які нічога не ўмее, толькі спявае і будзіць Сонца. Эгаізм і баязлівасць спрыяюць паглынанню тых жывёл Страшнікам Гамам. Аднак ратуе іх Певень, разбудзіўшы Сонейка. Нягледзячы на змену адносін да Пеўня, кожны са звяроў пачынае вучыць яго спевам. Тым самым аўтар даводзіць, наколькі цяжка выкараніць згаданыя вышэй заганы характару.

Некаторыя казкі сучасных беларускіх драматургаў адчулі подых постмадэрну. "Новы калабок" П. Васючэнкі (1999) стаў яркім прыкладам своеасаблівай гульні з вядомай дзецям класікай. Аўтар канцэптуальна змяняе характар свайго пратаганіста. Калабок у П. Васючэнкі больш ачалавечаны, "з мяккай, пяшчотнай душой", а яго і людзі, і лясныя звяры не хочуць разумець, ганяюцца, спрабуюць пакаштаваць. Менавіта яго душэўныя якасці прыводзяць дзейства да шчаслівага фіналу.

"Нявагодні дэтэктыў" П. Васючэнкі (1999) атрымаўся п'есай не проста арыгінальнай, але нават экстравагантнай. Прынамсі традыцыйныя персанажы — Мядзведзь, Воўк, Ліса, Заяц — надзелены рысамі прадстаўнікоў крымінальнага свету, рысамі, якія засланяюць сапраўднае аблічча герояў. Разгортваецца дзеянне, як у сапраўдным баевіку. Прычым Снягурачка таксама выходзіць за межы свайго класічнага вобраза і праяўляе ўменні добрага воя. Як патрабуюць законы жанру, зламыснікі пераможаны. Але аўтар ідзе далей — і выяўляе прычыннасць такіх пераўтварэнняў жывёл: аказваецца, метамарфозы адбыліся пад уздзеяннем сучаснага кінамастацтва. Звяртае на сябе ўвагу насычанасць п'есы цытатамі, алюзіямі, рэмінісцэнцыямі, як правіла, з тэлевізіі, у чым бачыцца пранікненне эпохі постмадэрну і ў дыскурс дзіцячай драматургіі.

Моманты людской адчужанасці, якія праяўляюцца ў кантэксце шалёнага навукова-тэхнічнага развіцця, знайшлі адбітак у па-мастацку гіпербалізаваным выглядзе ў "трылеры для дзяцей і дарослых" П. Васючэнкі з назвай, якая ілюструе амбівалентнасць сённяшняга людскога свету, – "Кацярынка і Кэт" (2007). Драматург канструюе ў творы сучаснае жыццё, якое перастала быць натуральным. Нават людзі становяцца схематычнымі і прагматычнымі, як машыны. Кацярынка, у якой наперадзе заканчэнне школы і шляхі дарослага чалавека, рыхтуецца бацькамі да такой будучыні. Іх падрыхтоўка не стасуецца з яе шчырай душой, якая прагне не знешнім ідэалізаваным светам Сімулякрыі, а звычайнага прыроднага цяпла, без якога сучаснага чалавека можна лічыць абдзеленым: "Беднасць — гэта нашая адзінота", — словы доктара, якія так і засталіся незразумелымі бацькамі, фактычна замбіраванымі стэрэатыпамі і канонамі спажывецкага грамадства. Можна сказаць, што П. Васючэнка на прыкладах сваіх персанажаў адлюстраваў адну з мадыфікацый адвечнага канфлікту бацькоў і дзяцей, што спарадзіў стан цывілізацыі дадзенага этапа развіцця. Аднак Кацярынка дзякуючы Рыгорку знаёміцца з натуральным светам, які насяляецца Апошнім Дзедам. Яна ўсё ж не вытрымлівае ўмоў механізаванага і штучнага свету. Развязка, якой паспрыяў анёл у аблічы цацкі-сімулякра, пакідае яе разам з Рыгоркам у свеце сапраўднага жыцця. А бацькам замест Кацярынкі застаецца яе дакладная копія з Сімулякрыі, Кэт — увасабленне "правільнай" дзяўчынкі, але "калі-небудзь яны таксама прыйдуць сюды". Такім чынам, аўтар абазначае безальтэрнатыўнасць вяртання жыцця людскога на кругі свае, чарговай гуманізацыі чалавека.

Як бачна, здабыткі П. Васючэнкі ў галіне драматургіі для дзяцей багатыя і ў колькасным, і ў якасным плане. Яны характарызуюцца тэматычнай, праблематычнай і нават часавай шырынёй, а таксама арыгінальнасцю ў развіцці дзеяння, якое заўсёды мае дынаміку, гэтак модны сёння экшн.

Бадай, толькі спрадвечныя чалавечыя каштоўнасці лейтматыву кожнай з п'ес застаюцца нязменнымі. Варта абавязкова адзначыць майстэрства аўтара закладаць іх у творы такім чынам, каб і маралізатарства, сентэнцыйнасць, якія, зразумела, толькі раздражнялі б дзяцей, не выпіралі, каб дзейсны духоўны ўплыў п'есы не губляўся.

Анатоль ТРАФІМЧЫК

Ілюстрацыі Уладзіміра Лукашыка да казачных аповесцей "Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі", а таксама Яніны Зельскай да казак "Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага" і Алены Кійко да казкі "Каляровая затока".



Уладзімір МАРХЕЛЬ

## З якой не выйду паралелі

### Адзінай

Куды, з якой не выйду паралелі,
Дзе будзе сілуэт мой або постаць,
Адна дарога на вышыняў плоскасць,
Куды, з якой не выйду паралелі.

Туды, дзе да яе шляхі прамелі,
Там застанецца толькі мая простасць,
Куды, з якой не выйду паралелі,
Дзе будзе сілуэт мой або постаць.

### Парог і мяжа

Куды б цябе не вывела дарога,
Ці на якія не ўзышоў бы рубяжы —
Пачнецца шлях ад роднага парога
І падвядзе напэўна да свае мяжы.

Ці першы ты, і да цябе нікога,
Ці спакваля ідзеш, ці хоць бягом бяжы —
Наколькі аддаляўся ад парога,
То ў гэткай меры набліжаўся да мяжы.

І ў людзях, здасца, стане болей злога,
І ўбачыш прад сабою толькі міражы,
Калі далей адыдзеш ад парога,
Калі бліжэй падыдзеш да мяжы.

### Сненні

...сненні з ночы ў ноч
любасць не суроч
мрою не азмроч

згадкі з дня на дзень
любасць абнадзей
мрояй без надзей

думкі след у след
любасці шмат лет
мрої неўпрыкмет

мыслі з году ў год
любасці з нагод
мрої для прыгод

памяць ледзьве-ледзь
любасць зрэдку-зрэдзь
мрояй не вярэдзь

одум-напамін
любасці на згін
мрої у камін

сненнем сцёрты час
любасці запас
мрояй мілай згас...

### Паралелі

Старасць
легла ля парога,
лежма
зменшыла прастору,
пакароцела дарога,
не адолець
без гумору.

А гумору
кот наплакаў
як у жменю камарову —
і ні рускіх,
ні палякаў
не паклікаць
на размову.

А размова
на век вечны,
на нязмерную сустрэчу —
каб сказаць
ім свае рэчы,
нам за імі —
у Шлях Млечны.

На шляху
ў далёкім свеце,
дзе не межы — паралелі,
дзе няма
каго прывеціць
добрым часам
ці пякельным.

Добрым часам,
што ў запасе,
дзе няма мяжы й баразнаў,
выйдзем мы
на пазачассе
і не стане
нас адрозных.

### Здалося, або Тваё самаапраўданне...

Ты не са мною ўжо даўно, здалося,
З табой няма ў мяне людской гаворкі,
Нам не сабраць жытнёвае калоссе:
Куколле высахне на пэтлах горкі.

Ужо са мной цябе не засталося,
Мы да сваёй не сходзіліся горкі,
І не было б мальбы ў яе галосе,
І цішыня маўчала б з-за каморкі.

Ты без малітвы —
мне цяпер здалося:
На грэхападзенні
ўжо няма прычыны,
Табе не ўведаць аніякіх глосаў
У беларускай пэўнасці Скарыны.

Калісьці быў я прад табой даўлосы,
Цяпер маё закрытае забрала.
Табе схаваць бы
прымхаў не ўдалося,
Куды б адсюль
службоўства ні забрала.

Ты адшукала тое, што знайшлося,
На жорсткай прывязі
твайго звыроду,
Імя ўгадаць чужое ўдалося —
На што відочна
з некім мела згоду.

Жыццё чужое быццам недарэчы,
Таму не сорамна блудзіць вачыма,
Таму сабе самой ты не пярэчыш —
Сябе апраўдваць
прад сабой магчыма?!



Алег КАЦАПАЎ

### Верлібры

* * *

жнівеньскі дождж
цёплы да немагчымасці
свежае
нябеснае віно
піць і смяяцца
і чытаць усё што
знойдзецца
ў сухой кватэры
рай.

* * *

у брудных сутарэннях дзе
чытаюць рэп
нашчадкі жыхароў лясныx
паміж радкоў
шукаюць кветку —
папараць (не) не для шчасця
а для таго каб вечна жыць
паміж радкоў
у брудных сутарэннях.

* * *

вечар
на маіх каленях
белы кот
і цёплы лёгкі вецер
шкада да раніцы
не дасядзець.

* * *

люблю людзей
усіх
нават блудніц і палітыкаў
люблю Бога анёлаў
усе рэлігіі свету
пракоаў
люблю мясціны родныя
азёры і рэчкі
люблю кнігі
прозу і вершы.
люблю сябе
і ворагаў сваіх
люблю далакопа
які толькі што нарадзіўся
напэўна
ён будзе капаць
майму цэлу магілу
за працу сваю
атрымае ён грошы
за грошы ён купіць
нятанныя кветкі
для жонкі каханай сваёй
вось гэтыя кветкі
я таксама люблю.

* * *

пляма на белай кашулі
памяць
Нірваны сок залаты
на Новы год яна заўжды
купляла мне
мандарыны.

* * *

любімы горад
і пяць хвілін
хаваюцца за дымам
вось-вось і
свечка дагарыць.

* * *

дай разглядзець цябе
пасля халодных дзён
спыніся, матылёк!
Спыніся, смешны!
Не трапячы перад вачамі.
Сядай на палец мой
і адпачні.
…О божа, дзе ты паспеў
набрацца столькі пылу?!

* * *

глядзі каханая!
Глядзі на мяне!
Глядзі на мой голад!
Я згаладаўся
па вуснах тваіх.
Няўжо гэта ты?!
Няўжо я з табою?!
Не адпускай мяне!
Зрабі сябе Вечнасцю!

* * *

хачу пісаць
простыя вершы,
непрыкметныя,
простыя, як кроплі дажджу,
і хай гэты дождж нясецца
з Зямлі на Неба,
з Неба на Зямлю…

* * *

абняў мяне
пры сустрэчы
знаёмы мастак,
што ніколі раней не рабіў.
…Няўжо выстаўляецца
ўрэшце?!



Фота Раісы Марчук



Дар'я КУЛЕШ

Дэбют

Дар'я Кулеш, выпускніца Полацкай дзяржаўнай гімназіі № 1 імя Францыска Скарыны, зараз вучыцца на другім курсе факультэта беларускай філалогіі і культуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава, наведвае заняткі літаратурнага гуртка "Заранічка". Удумлівая і старанная студэнтка, яна з захапленнем спасцігае глыбіні лінгвістыкі. А ў душы ў яе жыве паэзія — па-юнацку свежая і па-даросламу разважлівая.

Вольга РУСІЛКА

### Паміж небам і зямлёй

Упасці
і прачнуцца,
каб зразумець
розніцу …паміж
небам і зямлёй…
для гэтага й вучуся
лётаць.

* * *

Чарапаха хаваецца
ад вонкавай цемры сусвету
у панцыры.
Страус — і тым лепей —
знаходзіць абарону
у зямельцы-матухне.
Няўжо ім там святлей?..

А чалавеку і ў душы сваёй
цесна:
нават пры жаданні яго
захлынуцца цемраю
душа асляплае
ліхтарыкам
сумлення…

### Без адказу

Адкуль ён узяўся?
З пылу.
На што спадзяваўся?
На сілу.
Хто бацька й маці?
Неба з зямлёю.
Чым шчасце шукае?
Праўдай-маною.
Чым лёс вымярае?
Дакорам.
Што радасць яго?
Гора.
Ён ведае многа?
Нямала.
Стае усяго?
Не хапае.
Каго мае за Бога?
Бога.
І з ім ён сябруе?
Блага.
Як клічуць яго?
Вар'ятам.
Як сам сябе знае?
Мудрым.
Што Космас яму?
Душа.
А жыццё яму як?
Ноша…

І які яго тэрмін?
Вечнасць.
Ці хопіць,
каб разбудзіць у сабе
чалавечнасць?..

### І толькі…

Не проста, не варта,
не можна і нельга —
Заходзім у межы сваіх забарон.
Як рыбы у сетцы, хапаем паветра.
І біцца ўжо цяжка,
і хутка ўжо скон.
Прайшло, аджыло,
нават спрахла ў нябыце,
І грукнулі дзверы, і зніклі ўначы.
А нехта прыйшоў
перапоўнены верай
І не баючыся пакінуць сляды.
Нікому, ніяк і ніколі не трэба.
На месца любога прыходзіць любы.
І толькі уласныя
ўпэўненасць, вера
Жыццёвага сэнсу памогуць знайсці.

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

# КНІЖНЫ СВЕТ

19 лістапада 2010 г.

Выпуск 23

# Наш тэатр — нішто сабе

"Усе выданні пра беларускі тэатральны працэс, якія выходзілі на працягу апошніх гадоў, змесцяцца на адной невялікай палічцы", — зазначыла неяк тэатральны крытык, галоўны рэдактар часопіса "Мастацтва" Людміла Грамыка. Сёлета ўсім, хто мае такую палічку, давялося пераставіць тамы на ёй больш шчыльна: да свайго юбілею тэатральны крытык, прафесар Інстытута журналістыкі БДУ Тацяна Арлова выдала дзве кнігі — "История театра в вольном изложении" і "Театральная критика нового времени".



### Што чытаць акрамя праграмкі?

— Сапраўды, за савецкім часам кніг пра тэатр выдавалі шмат, — разважае Тацяна Дзмітрыеўна, — выходзілі манаграфіі, зборнікі артыкулаў, тэатразнаўчыя працы. Усё можна было набыць у кнігарні. За апошнія гадоў дваццаць гэтая плынь амаль знікла. Літаратуры выходзіць усё менш, а знайсці яе ўсё цяжэй.

Кніг, пра якія можна было б сказаць, што яны добра аформлены і здольны прадставіць беларускі тэатр за мяжой, амаль няма. Сёння гледачы ўсіх нашых тэатраў адчуваюць патрэбу ў больш поўнай інфармацыі.

Магу параўнаць. Мне часта даводзіцца бываць на розных фестывалях — Расія, Польшча, Украіна, Прыбалтыка... І бачу, напрыклад, як перад спектаклем альбо чыімсьці бенефісам у фае ладзіцца выстаўка, на якой прадстаўлена безліч літаратуры. Кожны можа пазнаёміцца, паглядзець, атрымаць дадатковую інфармацыю пра пастаноўку, набыць кнігу ці буклет.

А мы прыходзім у тэатр — і маем толькі праграмку. Праграмка, дарэчы, вельмі сціплая. Там звычайна пералічаны толькі выканаўцы. Дадатковую інфармацыю сістэматычна размяшчаюць хіба што ў Рускім тэатры.

Катэгарычна не пагаджаюся з тым, што тэатральнае мастацтва аджывае сваё і нікому не патрэбнае. Нікуды яно не падзенецца, яно існуе, развіваецца і насычае сваімі сокамі іншыя віды мастацтваў. І пісаць пра яго варта.

### Тэатр — сусветны, выкладанне — вольнае

Адна з праблем беларускага тэатральнага працэсу — неўсведамленне сябе ў кантэксце сусветнага тэатральнага мастацтва. У сваёй кнізе "История театра в вольном изложении" (Мінск, Медисонт, 2010) Тацяна Арлова стараецца гэты хіб выправіць: у раздзеле, прысвечаным антычнаму тэатру, чытач знойдзе главу "Старажытны Рым у беларускім тэатры", у раздзеле "Англійскі тэатр" — гутарку з самым вядомым беларускім выканаўцам ролі Макбета Расціславам Янкоўскім.

— Чаму ў вольным выкладанні? — задумліва перапытвае Арлова. — Гісторый тэатра напісана шмат. Іх напісалі спецыялісты па розных краінах, перыядах, імёнах, кірунках. А я — чалавек, які выкладае, які чытае лекцыі пра тэатр студэнтам Інстытута журналістыкі. Я не даследчык, а спажывец літаратуры і транслятар яе для студэнтаў. Ім трэба распавядаць з карысцю, каб "зачапіць" іх, каб зарыентаваць на беларускі тэатр. Таму я і дазволіла сабе вольнае выкладанне.

Але ж гэта не прыдумка — я абапіралася на самыя выбітныя навуковыя даследаванні: Г. Баяджыеў, А. Анікст, М. Марозаў, А. Барташэвіч. Можна было напісаць працу: цытата — спасылка. Ды каму гэта патрэбна? Я вырашыла, што так чытацца будзе лягчэй. Я папулярызатар па натуры. Мне падабаецца рабіць складанае простым, хачу прапагандаваць беларускі тэатр, каб усе ведалі, што мы — нішто сабе.

Гісторыя спынілася на тэатры Брэхта. Спадзяюся, што гэта кніга — своеасаблівая запеўка і ў мяне будзе магчымасць выдаць яшчэ дзве часткі, дзе будзе расказана пра рускі, амерыканскі, скандынаўскі тэатр.

### Куды зніклі два "падвалы"?

З'яўленне другой кнігі — "Театральная критика нового времени" (Мінск, "Літаратура і Мастацтва", 2010) — падзея, якую цяжка пераацаніць. Пад адной вокладкай сабраны надрукаваныя ў газеце "Рэспубліка" рэцэнзіі на спектаклі Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі (бадай што тэатра-лабараторыі, адметнага руплівай працай з сучаснымі драматургамі і маладымі рэжысёрамі). Артыкулы, раскіданыя па нумарах газеты, што жыве адзін дзень, аўтар сабрала і прапанавала чытачу панараму гісторыі сучаснасці на прыкладзе аднаго тэатра. Акрамя гэтага: галерэя тэатральных партрэтаў, падрабязны агляд журналісцкіх жанраў з прыкладамі, тэатразнаўчыя артыкулы, надрукаваныя ў часопісе "Мастацтва" і іншых выданнях, а самае галоўнае — сучасны погляд на тэатральную крытыку.

— Тэатральная крытыка новага часу — гэта і ёсць тэатральная журналістыка. Тэатральная крытыка часоў Вісарыёна Бялінскага адыходзіць у небыццё. Тэатразнаўства, безумоўна, застанецца, але крытыка набывае новыя якасці. Гэтага вымагае выдавец, якому неабходна прадаць газету, і ён усталёўвае адмысловы фармат і манеру падачы; гэтага вымагае чытач, які не будзе вывучаць два "падвалы", прысвечаныя апошняй прэм'еры. З такімі ўмовамі неабходна лічыцца. Ва ўсім гэтым я і спрабую разабрацца.

Што ж датычыцца непасрэдна крытыкі, то яна сышла ў "тоўстыя" тэатральныя часопісы. У Беларусі такіх няма. Часопіс "Мастацтва" аглядае ўсе віды, а не асобна тэатр, а літаратурна-мастацкія часопісы да тэатральнай крытыкі не дужа ўважлівыя. Так што ў нашай сітуацыі мы фактычна можам казаць толькі пра тэатральную журналістыку.

### Пра што пішуць настольныя кнігі?

Марына Цвятаева заўважыла, што варта пісаць толькі тыя кнігі, якіх табе сапраўды не хапае, то бок — свае настольныя. Чаго ж не хапае на стале Тацяны Арловай?

— Я хачу напісаць кнігу пра сваю сям'ю (бацькі Тацяны Дзмітрыеўны — вядомыя тэатральныя дзеячы, Дзмітрыя Арлова па праве можна лічыць адным з заснавальнікаў беларускай тэатральнай школы — А. М.). Пра Арлоўскі род: сваіх дзядоў, дзядзек, цётак, маці, бацьку. Мяне цяпер цікавіць сямейная тэма. Хочацца сабраць фотаздымкі, хочацца расшыфраваць і апублікаваць мемуары маёй маці. Спадзяюся, што ў мяне знойдзецца час, каб адкласці ў бок усе тэатральныя, навуковыя справы і гэта зрабіць.

У прадмове да кнігі "Театральная критика нового времени" Тацяна Арлова аргументавана сцвярджае, што сёння для тэатра шчаслівыя часы. Пра тэатразнаўства цяпер хутчэй можна пытацца, чым сцвярджаць: хіба шчаслівыя? Эпоха перамен (а зараз тэатразнаўства перажывае менавіта яе) наўрад ці характарызуецца такой якасцю. Але тое, што на маленькай палічцы з'яўляюцца новыя кнігі і тэатральная сучаснасць умела фіксуецца самым надзейным і вартым для яе сродкам — словам, дазваляе спадзявацца на лепшае.

Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ

Навінка

# Колеры малой радзімы

У РВУ "Літаратура і Мастацтва" ўбачыў свет фотаальбом "Слуцкая палітра", складзены з рэпрадукцый лепшых работ з фонду Слуцкага краязнаўчага музея. Гэта багата аздобленае выданне дае магчымасць пазнаёміцца з творчасцю мастакоў, якія нарадзіліся на Слуцчыне і прысвяцілі гэтай зямлі шмат сваіх твораў.




Случчына — край з багатай гісторыяй, якая бярэ пачатак у глыбіні стагоддзяў. У XVI стагоддзі тут па загадзе князёў Алелькавічаў ствараецца іканапісная майстэрня, прыкладам дзейнасці яе мастакоў з'яўляюцца акварэльныя малюнкі Слуцкага Евангелля. XVII стагоддзе захавала шмат імёнаў слуцкіх іканапісцаў, архітэктараў, дойлідаў: Алесь Карповіч, Фёдар Рахлюта, Павел Казак, Іван Галеўчынец і іншыя. У XVIII стагоддзі слуцкія майстры Васіль Марціяновіч і Іван Травага ўдасканальваюць майстэрства ў Кіева-Пячэрскай лаўры. У другой палове стагоддзя ў Слуцку жыў прадзед Марка Шагала Сегель Хаім, які займаўся роспісам сінагог. XIX стагоддзе адзначыла на старонках гісторыі краю імёны такіх знакамітых майстроў, як Адам Тарасевіч і Павел Стралкоўскі. (Пэндзлю П. Стралкоўскага належаць абразы "Найсвяцейшая Багародзіца" і "Святая Тройца", што сёння ўпрыгожваюць Свята-Міхайлаўскі сабор.)

Кандрат Карсалін, акадэмік партрэтнага жывапісу, член Савета Пецярбургскай мастацкай акадэміі, партрэтыст Адам Шэмеш, які ілюстраваў творы Адама Міцкевіча і прымаў удзел у афармленні спектакляў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, мастак і пісьменнік Браніслаў Залескі — таксама ўраджэнцы гэтай зямлі. XX стагоддзе — не менш шчодрае на таленты: Павел Гуткоўскі, Уладзімір Садзін, Уладзімір і Міхаіл Басалыгі, Анатоль Клязовіч, Ігар і Алена Бархатковы, Іван Пратасеня, Георгій Скрыпнічэнка, Уладзімір Голуб, Аляксандр Салтавец, Мікалай Вальнец і многія іншыя творцы называюць гэту зямлю сваёй малой радзімай. Работамі гэтых мастакоў сёння ганарацца Слуцкі краязнаўчы музей, заснаваны ў 1952 годзе, і яго філіялы — Музей этнаграфіі і галерэя мастацтваў.

Фотаальбом "Слуцкая палітра" прадстаўляе лепшыя творы не толькі прафесійных мастакоў. У фондах музея шмат работ жывапісцаў-аматараў, якія апяваюць родны край, набываць іх стала добрай музейнай традыцыяй. Пры такой падтрымцы і зацікаўленасці мясцовых улад культурная прастора Случчыны абяцае новыя адкрыцці.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА



Час чытаць

Беларусы расказваюць пра свае чытацкія густы

# «Я пачаў з палічкі з літарай А»

Генадзь Давыдзька, акцёр, рэжысёр, заслужаны артыст Беларусі, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, старшыня кінафестывалю "Лістапад":

— Калі мне было шэсць гадоў, мяне прывезлі ў далёкі калымскі пасёлак Ніжні Сяймчан у Магаданскай вобласці. І я там жыў, пакуль не скончыў школу. Маленькі пасёлак... Сапраўднае жыццё праходзіць дзесьці "на мацерыку", дзе, як нам думалася, жылі іншыя людзі. А ў нас комплекс абяздоленасці і мара далучыцца да гэтага сапраўднага жыцця. Прага да ведаў прывяла мяне ў бібліятэку. Ніякага кіраўніка не было, які мог зарыентаваць, што чытаць. Мне было 12 гадоў. Я добрасумленна пачаў з палічкі з літарай "А". Чытаў усё запар. Калі ад'язджаў праз чатыры гады, дайшоў да літары "С". Самае моцнае ўражанне было ў мяне ад "Дон Кіхота". А Чэхава і Шэкспіра чытаў ужо пазней.

Зараз на маёй кніжнай паліцы ў асноўным слоўнікі, кнігі па філасофіі, псіхалогіі. А з мастацкай літаратуры чытаю драматургію і прозу Цірса дэ Маліна. За апошні час перачытаў шмат сучаснай драматургіі і кінадраматургіі ў тым ліку. Ад творчасці аўтараў-сучаснікаў пацягнула ў далёкі прыгожы час, эпоху Адраджэння, "плашча і шпагі". Я зачараваны тагачаснымі драматургамі, пісьменнікамі. На сённяшні погляд яны могуць падацца шматслоўнымі, але нельга не ацаніць выдатнага перакладу на рускую мову. А пачуцці! Мы перасталі так адчуваць. У лепшым выпадку "баліць" — не баліць", "чорнае — белае", а там псіхалагічныя паўтоны, адценні, нюансы. Такую асалоду ад гэтага адчуваеш! Высокія светлыя пачуцці, якія данесла да нас літаратура, акрыляюць. Нібыта з душнага пакоя ўваходзіш у эпоху Адраджэння за глытком свежага паветра.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

Фота Віктара Зайкоўскага

## Прэзентацыя

Постаць Анатоля Вераб'я добра знаёмая прыхільнікам творчасці Уладзіміра Караткевіча. Вядомы навукоўца, дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, Анатоль Леанідавіч удзельнічаў у падрыхтоўцы Збору твораў пісьменніка ў 8 тамах, выдаў кнігі “Жываяповязь часоў. Нарыс творчасці Уладзіміра Караткевіча”, “Абуджаная памяць. Нарыс жыцця творчасці Уладзіміра Караткевіча” і “Уладзімір Караткевіч: жыццё і творчасць”, а таксама шэраг артыкулаў па дадзенай праблематыцы. Сёлета ў рэдакцыйна-выдавецкай установе “Літаратура і Мастацтва” пабачыць свет зборнік “Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы”, выхад якога прымеркаваны да 80-гадовага юбілею з дня нараджэння пісьменніка.

# Незнаёмы Караткевіч



— Ідэя стварэння кнігі нарадзілася ў 2005 годзе ў Оршы, дзе я ўдзельнічаў у II Міжнароднай навуковай канферэнцыі “Значэнне творчасці У.С. Караткевіча ў кантэксце еўрапейскіх культур”. У праграме быў заяўлены ўдзел Ніны Молевай, якая выкладала ў творцы гісторыю мастацтва падчас яго навучання на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. Існавалі спадзяванні, што яна пазнаёміць гасцей з новымі, раней невядомымі матэрыяламі пра Уладзіміра Сямёнавіча. Але трапіць у Оршу Молева не змагла.

Пасля вяртання ў Мінск патэлефанаваў Ніне Міхайлаўне ў Маскву і пацікавіўся, ці не мае яна матэрыялаў пра Караткевіча. Молева паведаміла, што перадала частку свайго архіва ў Цэнтральны маскоўскі архіў-музей асабістых збораў, і дала дазвол на іх выкарыстанне. І вось у лютым 2006 года я накіраваўся ў Маскву. Тады асабіста сустрэцца з Нінай Міхайлаўнай не атрымалася. Але затое я зрабіў ксеракопіі аўтографаў.

Праз пэўны час патэлефанаваў Молевай, падзякаваў. Пасля нашай размовы яна згадзілася напісаць успаміны пра Вышэйшыя літаратурныя курсы (рукапіс датаваны ліпенем 2006 года). Матэрыялу набралася багата, таму ўзнікла задума аб'яднаць яго ў адну кнігу.

Між тым у пачатку 2009 года ў часопісе “Полымя” быў апублікаваны твор Алега Лойкі “Уладзімір Караткевіч, або Паэма Гарсія Лойкі”. Таму калі звярнуўся ў рэдакцыйна-выдавецкую ўстанову “Літаратура і Мастацтва”, мне прапанавалі аб'яднаць гэтыя творы пад адной вокладкай. Я згадзіўся, больш за тое, выступіў у якасці рэдактара тэксту Алега Антонавіча, а таксама напісаў прадмову.

А ўжо на стадыі ўдакладнення фармату выдання загадчык аддзела кніжных выданняў Мікалай Мінзер паведаміў, што ў іх партфелі маецца рукапіс, які змяшчае вершы-прысвячэнні Уладзіміру Караткевічу беларускіх паэтаў ва ўкладанні Сяргея Панізніка. Так да першапачатковай задумы далучылася трэцяя частка.

У выніку атрымалася наступная структура выдання: першы раздзел складаецца з твора Алега Лойкі. Другі заснаваны на матэрыялах Ніны Молевай. Трэці складзены Сяргеем Панізнікам.

— Прапаную пагаварыць пра кожны з раздзелаў больш падрабязна…

— “Уладзімір Караткевіч, або Паэма Гарсія Лойкі” — твор, які быў напісаны Алегам Лойкам у 2008 годзе. Як вядома, пісьменнік з'яўляецца аўтарам двух раманаў-эсэ ў серыі ЖЗЛ — пра Янку Купалу і Францыска Скарыну. У канцы 1980-х гадоў у яго з'явілася ідэя трэцяй кнігі, прысвечанай Караткевічу. Рэдакцыя згадзілася, але папрасіла пачакаць завяршэння поўнага выхаду 8-томнага збору твораў. Апошні том выйшаў у 1991 годзе. А тут нечакана распаўся СССР, і ідэя была пахаваная.

Да сваёй ідэі Лойка вярнуўся толькі ў апошнія гады жыцця. У першым раздзеле свайго твора аўтар пісаў: “Сапраўды, мой творчы замах быў калісьці надзвычайны, наўрад ці што з яго я цяпер здзейсню”. Таму вельмі шкада, што моцна хворы Алег Лойка не ўсё змог ажыццявіць з калісьці надзвычайнай задумы. Аднак і тое, што ён зрабіў, уражвае і захапляе. У “Паэме…”, як і ў раманах-эсэ “Як агонь, як вада” і “Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае”, натуральна спалучыліся асабістае, лірычнае, паэтычнае і даследчыцкае, праблемна-аналітычнае. У творы Алег Лойка падсумаваў і канцэптуальна выявіў уласны эстэтычны погляд на мастацкія набыткі Уладзіміра Караткевіча. Ён узвысіў і адкрыў, адметна, глыбока і непаўторна раскрыў постаць пісьменніка, сам яскрава раскрыўся. І ў гэтым каштоўнасць яго твора.

— Якая структура другога раздзела, прысвечанага ўзаемаадносінам У. Караткевіча і Н. Молевай?

— Гэтая частка мае назву “Белая песня ў лугах залацістых” па назве першага радка з вядомага верша Уладзіміра Сямёнавіча “Дзіва на Нерлі”. У раздзел увайшлі паэтычныя творы У. Караткевіча на беларускай і рускай мовах, а таксама аўтапераклад верша “Дзіва на Нерлі”, падрадковыя аўтапераклады на рускую мову такіх вядомых твораў як паэмы “Плошча Маякоўскага”, “Грубае і ласкавае”, “Паэма пра засуш”, вершаў “Рэчка Папараць”, “І сонца…”, “Балада аб арганаўтах нябёс”, “Прарок Іеронім Босх”, “Трызненне Мужыцкага Брэйгеля”. Усе гэтыя творы напісаны ў 1959 годзе ў Маскве і адрасаваны Ніне Молевай.

Змешчаны некаторыя лісты пісьменніка да Ніны Міхайлаўны, большасць з якіх датаваныя 1959-1960 гадамі, а таксама надпісы Караткевіча на ўласных кнігах, падараваных сваёй выкладчыцы. Завяршаюць раздзел узгаданыя успаміны Н. Молевай пра Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве.

— Што прапанаваў чытачам у трэцім раздзеле Сяргей Панізнік?

— Сяргей Сцяпанавіч ужо каля саракоў гадоў збірае водгаласы пра Караткевіча ад пісьменнікаў-суайчыннікаў і ад творцаў з іншых краін. Сярод прадстаўленых імёнаў — Мікола Аўрамчык, Рыгор Барадулін, Данута Бічэль, Генадзь Бураўкін, Сцяпан Гаўрусёў, Ларыса Геніюш, Сяргей Грахоўскі, Васіль Зуёнак, Зніч, Алег Лойка, Максім Лужанін, Янка Сіпакоў і шэраг іншых таленавітых творцаў. Замежная літаратура прадстаўлена Андрысам Веянсам (пераклад з латышскай мовы), Вальдко Калінінам (пераклад з цыганскай мовы), Раманам Лубкіўскім і Уладзімірам Лучуком (пераклад з украінскай мовы), Якавам Хелемскім (пераклад з рускай мовы) і Ле Чонг Шамам (пераклад з в'етнамскай мовы).

— Не сумняваюся, што “Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы” выкліча значную цікавасць публікі.

— Больш за тое, на прыкладзе зборніка рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва” плануе выдаваць падобную серыю, прысвечаную жыццю і творчасці іншых пісьменнікаў. Сімвалічна, што пачынаецца яна менавіта з Караткевіча.

Гутарыў Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Фота Кастуся Дробава

### Лісты Уладзіміра Караткевіча да Ніны Молевай

6.XI.59 г.

Уважаемая Нина Михайловна!

Нас осталось на праздники в Москве несколько человек. 7-го или 8-го, как будет удобнее преподавателям, — мы решили организовать у себя увеселительный вечер. Из преподавателей будут приглашены три наших любимых “М”: Макаров, Малышев и Вы. Если у Вас будет возможность, захватите с собою одну-две своих “тени”, — всё равно мужчин или женщин, — и согласитесь отпраздновать этот вечер с нами. Если согласны — скажите когда, и мы заедем за Вами. Пьяных, ортодоксов и нытиков за общим столом не будет. Программа включает кроме бахусова веселия и пения “Во поле берёзонька”, — машкерад, танцы, художественную самодеятельность.

Тамада — представитель братского кабардинского народа. Трапезная оформлена народным художником ВЛК — В. Короткевичем.

Просим не отказать нам в нашей просьбе.

За всех руку приложил

В. Короткевич.

* * *

7.1.60

Родная моя!

Столько дней, столько снегов лежит между нами. А от вас всё ещё нет ни строчки, ни, хотя бы, Боттичелли. Не знаю, где вы, что с вами? Нездорова? В Вене? Заняты? Какие-нибудь неприятности? Из-за чего? Может быть, мне не стоит писать?

Мне очень нехорошо, очень грустно без вас, самая умная, самая навсегда милая и красивая для меня.

Не молчите, я схожу с ума, предполагая разные разности. Поймите, я мучаюсь вашим и мучаюсь своим и многим ещё. Потому что всё напоминает о вас, потому что во всех хоть чуть-чуть похожих вижу вас — и словно углями меня обсыпали.

Спасает только утомление. Кончил один сценарий — шлифую другой. Пишу и нарочно пристраиваю лампу над самой рукописью. Котёнок любит греться под лампой (у него идиотское имя Марс — будет всю жизнь ходить израненный) и волей-неволей садится на каждую страницу.

Я стал суеверен. Никогда ещё мне не был так нужен успех. Мне нужен дом, простой, открытый солнцу и всем добрым друзьям, такой, в котором вы были бы всем. Чтоб вы были для меня, а я для вас. Чтоб была музыка, слова ваших книг, мои стихи, вечное ощущение тёплой руки на плече, даже когда она далеко.

Мне нужны ваши изумительные серые глаза, ваша улыбка, ваши «матрёшкины волосы» под платком, мне нужна ваша любовь ко мне и моя бесконечная любовь к вам.

Я знаю, многим, которые хуже меня, даётся в жизни незаслуженное счастье и тепло. Поймите, я не живу без вас. Забудьте всё, что я говорил вам — я люблю вас в тысячу раз больше.

Ведь всё равно, пусть я бешусь неосновательно, пусть я дурной, — запретить любить вас вы мне не сможете.

Для меня сейчас хорош снег только потому, что его можно отряхнуть на вас и на себя с ветки, хорош снегирь, потому что вы их любите, хороша луна только потому, что, — помните? — когда мы ехали из Загорска, она, как на воде, проложила дорожку на льду пруда. И кругом были чёрные силуэты верб, а по этой лунной дорожке скользили тени мальчишек.

Для меня сейчас хороша земля только потому, что есть вы. Что мне в себе? Зачем я себе, если вас нет рядом? Зачем мне руки, если я не могу обнять вас, глаза, если я не могу смотреть ими в ваши глаза, стихи, если я не могу писать о вас и для вас.

Вы моя первая, которой не было, вы моя самая всесильная и последняя.

Понимаете, мы вечны. Может быть, я искал вас пятьсот лет назад и вы скрылись от меня. Но я всё равно, всё равно вас найду. Мне уже не стыдно и не страшно ни людей, ни земли, ни слов — разве не всё равно?

Милая моя, мой хохлик с фонариком, моя глазастая синяя пролеска, птица-синица, добрый огонёк в метель, пушистый мой заяц — дайте уж мне сказать то, что не смог сказать в глаза.

Ваши голубые руки — целую их. Не могу без них.

Ради бога, что с вами? Пишите мне.

В. Короткевич.

Публікацыя Анатоля ВЕРАБ'Я

## Азбука Морзэ

● Падчас IV Міжнародный канферэнцыі выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў друкаванай прадукцыі “Рынак друкаванай прадукцыі ва ўмовах фарміравання мытнага саюза Беларусі, Расіі і Казахстана”, што прайшла ў Мінску, адбылася прэзентацыя альбома партрэтаў “Радзівілы”. Гэтае ўнікальнае выданне серыі “Энцыклапедыя рарытэтаў” не так даўно пабачыла свет у выдавецтве “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”.

— Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя “Дзіцячая бібліятэка — цэнтр атрымання інфармацыі для дзяцей і юнацтва” прайшла ў Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы імя Мікалая Астроўскага. Падчас канферэнцыі прагучалі даклады і абмяркоўваліся пытанні, прысвечаныя актуальным аспектам узаемадзеяння дзяцей, кнігі, бібліятэк і выдавецтваў. Звярталі ўвагу выступоўцы і на ролю бібліятэк, дзіцячай кнігі ў працэсе фарміравання асобы.

● У “Беларускім фондзе культуры” ў хуткім часе свет пабачыць падарункавае выданне аповесці Уладзіміра Караткевіча “Дзікае паляванне караля Стаха”, выхад якой прымеркаваны да 80-годдзя з дня нараджэння пісьменніка. Кніга будзе змяшчаць беларускамоўны тэкст твора, а таксама яго пераклад на рускую, украінскую і англійскую мовы.

— Конкурс прафесійнага майстэрства прадаўцоў філіялаў ААТ “Белкніга” пройдзе 15 снежня на базе Дома кнігі “Светач” г. Мінска. Асаблівасцю сёлетняга спаборніцтва з'яўляецца тое, што да ўдзелу ў ім запрашаюцца прадаўцы кнігарань ААТ “Брэсткніга”, ААТ “Віцебсккніга”, ААТ “Гомелькніга”, ААТ “Гроднакніга”.

● Піцерская кнігагандлёвая сетка “Буквоед” адзначыць свой дзесяцігадовы юбілей, прапанаваўшы ўсім ахвотным прысесці па Неўскім праспекце з любімымі кнігамі ў руках. Па словах арганізатараў, асноўная ідэя акцыі — прадэманстраваць гораду, што “не звяліся яшчэ актыўныя чытачы кніг на піцерскай зямлі, а любоў да чытання — усвядомленая жыццёвая пазіцыя культурнага чалавека”. Падчас прагулкі кнігі можна будзе чытаць на хаду або проста дэманстраваць сустрэчным.

— З пачатку 2011 года спісы лідараў кніжных продажаў, што ўжо з 1935 года публікуюцца ў дадатку да газеты The New York Times, папоўняцца двума новымі раздзеламі. У іх будуць прадстаўлены электронныя кнігі — пакуль толькі ў жанрах мастацкай літаратуры і нон-фікшн. Цяпер вельмі важна валодаць інфармацыяй аб тым, якія дакладна найменні кніг у электронным выглядзе запатрабаваны і як попыт на іх суадносіцца з продажам друкаваных выданняў. Каб распрацаваць сістэму, якая адсочвае і камбінуе дадзеныя аб продажах у гэтай галіне, спатрэбілася каля двух год.

● Міжнародная гільдыя пісьменнікаў падрыхтавала ўжо другі ў гэтым годзе нумар культурна-публіцыстычнага часопіса “Новый Ренессанс”. На яго старонках — шматпланавыя матэрыялы, прысвечаныя розным жанрам паэзіі і прозы, сучаснай літаратуры-Мікст (ад англ. mixed — змешаны), падарожжам у экзатычныя краіны, працэсу стварэння фільмаў.

— Аб'яўлены прыём работ на новы расійскі конкурс у галіне дзіцячай літаратуры “Книгуру”, заснаваны некамерцыйным партнёрствам “Цэнтр падтрымкі айчыннай славесності” і Федэральным агенцтвам па друку і масавых камунікацыях РФ. Намінаваць творы могуць самі аўтары, а таксама выдавецтвы, сродкі масавай інфармацыі, бібліятэкі, творчыя саюзы. “Доўгі” і “кароткі” спісы будуць сфарміраваны саветам экспертаў, на апошнім жа этапе конкурсу лепшыя творы выберуць непасрэдна чытачы 10-16 год, зарэгістраваныя на сайце прэміі.

Падрыхтавала Чэслава ПАЛУЯН

## Выдавецкі партфель

# Трэці раз па-руску

Раман Уладзіміра Караткевіча “Хрыстос прызямліўся ў Гародні” ўжо двойчы выходзіў у перакладзе на рускую мову. У 1966 годзе — у аўтарызаваным перакладзе Навума Кісліка ён пабачыў свет на старонках часопіса “Нёман”. Спецыялісты гэтае перастварэнне палічылі не зусім удалым, на што былі і аб’ектыўныя прычыны: над перакладчыкам у той час у дадатак да ўсіх цяжкасцей перадачы асаблівасцей мовы Караткевіча, як пісаў у адным з артыкулаў Пятро Жаўняровіч, “вісеў і ідэалагічны меч — атэістычны, які не садзейнічаў паўнавартаснай працы з творам”.

У 2006 годзе ў Санкт-Пецярбургскім выдавецтве “Амфора” выйшла другая спроба перастварэння караткевічаўскага рамана — у перакладзе Аляксандра Сурніна. “Христос приземлился в Гродно” (а менавіта так пераклаў назву рамана А.Сурнін) выклікаў яшчэ больш нараканняў спецыялістаў…

Цяпер у рэдакцыйна-выдавецкай установе “Літаратура і Мастацтва” ідзе праца над падрыхтоўкай да выдання трэцяга перакладу рамана Уладзіміра Сямёнавіча, выхад якога запланаваны на 2011 год. На гэты раз на рускай мове яго перастварыў Пятро Жаўняровіч, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Увазе чытачоў “Кніжнага свету” прапануем урывак з новага перакладу вядомага рамана Уладзіміра Караткевіча.

Марына ВЕСЯЛУХА

Владимир Короткевич

# Христос приземлился в Городне

## (отрывок из романа)



Глава XXX

## Саранча

…но в людях рыцарских, которых там множество погибло, великий убыток корона подняла.

“Хроника Белой Руси”

### Слово от летописца

«И вторглись, и ворвались татарове крымские в наши края, и случилось так, что не было им, упущением Божиим, преграды, и рассыпались они там и там. О войско великое, много тысяч ездовых! О горе великое! Не надеялись на то, всегда с покорностью Бога великого о мире и спокойствии умоляя, в мире проживая.

И земля горела, и хаты, и людей в плен вели, и клейма на лоб ставили, как скоту.

И рассыпались татарове по земле нашей, как саранча, о которой в Откровении святого Яна Богослова, Апокалипсисе тож, пророчено. Всё, будто у него, исполнилось. По облику даже: “По виду своему саранча была подобна коням, приготовленным на войну; и на головах у ней — как бы венцы, похожие на золотые, лица же её — как лица человеческие… На ней были брони, как бы брони железные, а шум от крыльев её — как стук от колесниц, когда множество коней бежит на войну”[1]. И исполнилось то, что: “В те дни люди будут искать смерти, но не найдут её; пожелают умереть, но смерть убежит от них”[2].

Но ещё пострашнее было, нежели Апокалипсис. Ибо шли они, летели они, а вместе с ними летел зверь из бездны, нареченный слонь. Латиняне говорят — лефант, а наше — слонь. Та слонь толстомясая, поперёк себя толще, в высоту себя длиннее, ноги — словно деревья и толстые, как кадь, бесшёрстая, страховидная, большеголовая, горбоспинная, с задницей вислой, будто у медведя (без шерсти только), и походкой, как медведь, и вместо носа как словно хвост и два зуба, как у вепря, так и этак и вверх, и уши, словно одеяла, а в носу-хвосте — цепь побивающая.

Слишком зверообразная и ужасу подобная слонь!

Измяли они со слонью людей, и летели, и жгли. И убегали от них бедные и богатые, и церковные люди бросали всё и убегали.

Из всех рясофорных[3] — изумление! — один дьякон Несвижской деревянной Софии, закрывающей пятидневную Несвижскую знаменитую ярмарку, церкви деревянной не по бедности, а по смирению своему, оказался человеком. Пытали. Пачкали мёдом и сажали на солнце, где мухи и осы. Душили между досками. Жгли. Щепки забивали под ногти. Но он, мучение смертное приняв от поганых, ни тайника казённого, ни входа в ходы подземные и пещеры, где прятались люди, не показал. И тогда привязали его к диким коням и пустили в поле.

А людей в пещерах сидело, может, тысяча. А имя дьякона было Автроп”.

Пылали деревни, пылали города. Рушились в огне деревянные башни крепостей. С гиканьем, под гул бубнов мчались всадники. Реяли бунчуки. Ужасающим, страшным облаком стояла пыль. Рыдали верблюды и ослы.

Гнали на арканах полунагих людей, женщин с синяками на груди. Запрещали снимать с пленных лишь кресты. Так как один, когда сорвали с него, стащил крымчака с седла и ударил кандалами по голове, и тогда Марлора — хан — вспомнил завет и запретил. А ударившему вогнали в живот стрелу и бросили.

И всех метили. Подносили клеймо ко лбу, стучали по нему, и оставался на лбу кровавый татарский знак.

Грабили, луп[4] тащили. С воплями мчались орды. А впереди них, болтая цепью, бежал боевой слон.

Пожары… Пожары… Пожары… Тянулись арбы и фуры с данью, тащились рабы.

А в городе городов продолжались богослужения, продолжались молебны. В Доминиканском костёле… В костёле францисканцев… В простой, белой изнутри, Коложе.

И одни у доминиканцев говорили:

— А Я говорю вам: любите врагов ваших, благословляйте проклинающих вас, благотворите ненавидящих вас и молитесь за обижающих вас и гонящих вас[5].

А другие говорили в Коложе:

– Ибо Он повелевает солнцу своему восходить над злыми и добрыми… Недостойны те, кто деяниями своими подменяет волю его[6].

И летели в кровавом дыму всадники из Апокалипсиса.

Лишь через несколько дней получили они первый и последний отпор. Вырвались из кустарника на безграничную известняковую пустошь, покрытую редко пятнами, шуршащей травою, подняли копытами тучу едкой белой пыли и остановили коней, поражённые.

Далеко-далеко, белые на белом, появились растянутые в редкую цепь точки.

…Небольшое войско стояло на пути орды. Люди того, который тогда плюнул в храме. Их было очень мало, но лица, в предчувствии конца, были суровы.

Все пешие, в латах и кольчугах, с обычными и двуручными мечами в руках, с овальными щитами, в которые были вписаны шестиконечные кресты, в белых плащах, они стояли на белёсой известняковой земле, под горячим последним солнцем. Белые на белом.

Весь окоём перед ними шевелился. И тогда кто-то запел древнюю “Богородицу”. Страстным и грубым голосом:

Под твою милость…
Под твою милость прибегаем, Богородице Дево,
Молений наших не презри в скорбех,
И от бед избави нас,
Едина чистая и благословенная.

Печальные, прозрачные голоса подхватили её, понесли:

На твердыню твою мы уповаем, Богородице Дево.

Плыл над ними, над пустошью страстный хорал. Словно на мечах, поднятых вверх. Тянулась по пустырю длинная цепь.

Впереди, сильно оторвавшись, шли военачальники в белых плащах.

Яко имя твоё!
Яко слава твоя!

В последней мужественной и безнадежной тоске взлетали голоса. А глаза видели, как вырвался вперёд слон, страшная, будто преисподняя, живая гора, как полетела конница.

О всепетая…
О всепетая Матерь,
Родившая всех святых святейшее Слово.
Нынешнее наше приемши приношение,
От вся-акия избави напасти всех
И будущие изми муки тебе вопиющих.
Аллилуйя.
Аллилуйя!
Аллилуйя!!!

Слон ворвался в ряды. Со свистом разрезала воздух цепь.

……………………………………………………………………

Через час всё было закончено.

Последние звуки хорала умолкли. В окружении бурых, жёлтых и серых тел лежали на белёсой земле, на редком вереске белые тела.

Только в одном месте группировалась толпа конных и пеших крымчаков. В их полукруге трубил, как струны, напрягая верёвки, взбесившийся слон.

А перед ним, так же распятый верёвками, лежал глава осуждённого заслона. Две кровавые полосы расплывались по белой ткани плаща. Одна нога была неестественно, как не бывает, подвёрнута. Пепельные волосы в белой пыли и крови.

Сжат одержимый рот. В серых глазах обречённость, потерянность и спокойствие. Он совсем не хотел смотреть. И всё же видел, как высится над ним, как переступает на месте, грузно танцует слон, как косят его налитые кровью глазки. Он не боялся его теперь.

Он не хотел видеть и другого. И всё же видел склонённое над ним, редкоусое лицо Марлоры. Хан скалил зубы:

— Готовится кто-нибудь ещё на бой? Нет? Одни?

— Не знаю, — равнодушно сказал он.

Ему куда интереснее и до последнего значительнее было то, что высоко над ним, над ханом, над слоном кружились в синем небе и ожидали вороны. Когда эти, в конце концов, отстанут и пойдут — вороны рискуют опуститься. Они думают, что напугают его тем, что готовят. А это ведь лучше, чем живому, без возможности двигаться, почувствовать глазами дуновение крыльев.

Да и разве не всё равно?

— Отвяжитесь, — промолвил он и добавил: — Два у нас сокровища было: земля да жизнь. А мы их отдали. Давно. Чужим… Нищие… Всё равно.

— Чего ты добивался?

— Я хочу умереть.

Марлора подал знак. Морщинистая, большущая слоновья нога повисла над глазами.

— А теперь что скажешь?

— Я хочу умереть, — повторил он.

— Бог у вас, говорят, появился? Где он? Что делает?

— Его дело. Он жив. А я хочу умереть.

Марлора взмахнул рукою. Слон опустил ногу.

---

[1]. Откровение Иоанна Богослова 9:7–9.
[2]. Откровение Иоанна Богослова 9:6.
[3]. Рясофорный – имеющий право на ношение рясы и клобука (о монахе).
[4]. Луп (др.-бел.) – добыча, награбленное.
[5]. Евангелие от Матфея 5:44.
[6]. Евангелие от Матфея 6:45.

Перевод с белорусского и комментарии Петра ЖОЛНЕРОВИЧА

Иллюстрации к роману художника Г. Грака (1972 г.)





# Для развития правовой культуры



















Как известно, правовая культура является неотъемлемой частью общей культуры народа, она базируется на её началах, является отражением уровня её развития, менталитета народа. В то же время формирование правовой культуры — не обособленный от развития других видов культуры (политической, моральной, эстетической) процесс. Значит, развитие правового сознания общества содействует развитию и иных аспектов его функционирования. Вниманию читателей "Кніжнага свету" представляем специализированные издания юридической направленности, предназначенные как для специалистов в сфере юриспруденции, так и для всех, интересующихся правовым аспектом существования общества.

## Впервые в Беларуси

Криминалистический словарь-справочник в Республике Беларусь выпускается впервые. "Справочное пособие криминалиста, судьи, прокурора, следователя", которое включает более 2000 статей, подготовлено на основе "Энциклопедии судебной экспертизы" (под редакцией Т. В. Аверьяновой, Е. Р. Российской, 1999), "Криминалистической энциклопедии" (Р. С. Белкин, 2000), "Словаря основных терминов судебно-технической экспертизы документов" (Н. А. Вашкевич, Г. И. Грамович, 2003), других работ с учётом изменений, произошедших за последние годы. Важно, что в квадратных скобках после каждой статьи указывается первоисточник или литература, в которой более подробно раскрывается проблема.

"Справочное пособие криминалиста, судьи, прокурора, следователя" содержит собрание слов, словосочетаний, расположенных в алфавитном порядке, и даёт сведения об их значении, употреблении, происхождении, а также информацию о понятиях, предметах, ими обозначаемых. Основная цель данного издания — дать систематизированное толкование криминалистических терминов и понятий.

Справочное пособие рекомендуется для курсантов, студентов, слушателей и преподавателей учреждений образования, обеспечивающих получение высшего юридического образования, адъюнктов, докторантов, научных и практических работников правоохранительных органов, а также для широкого круга читателей, интересующихся криминалистикой. Криминалистический словарь-справочник окажет читателям помощь в изучении различных вопросов криминалистики, судебной экспертизы и уголовного процесса, будет полезным в практической работе.

## Установить факт монтажа

В настоящее время аудио- и видеотехника являются объектами массового спроса и широко используются не только в быту. Многие оперативно-следственные службы правоохранительных органов страны оснащены специальными миниатюрными видеокамерами и звукозаписывающими устройствами. Лёгкость, простота, удобство записи и переписи, длительное хранение записанных речевых сигналов на магнитных фонограммах, а также возможность оперативного и неограниченного прослушивания делают их незаменимыми в качестве источников вещественных доказательств при расследовании и раскрытии многих видов преступлений.

Возможность установления признаков монтажа магнитных фонограмм в процессе производства или после производства их записи может быть реализована только в результате кропотливых диагностических исследований. Методическое пособие К. С. Егорова и А. М. Шакуна "Назначение и проведение фонографической экспертизы для установления внесения изменений в магнитный носитель" предназначено для экспертов, следователей, судей, практических работников правоохранительных органов. Его научно-методологические основу составляют материалы диссертационного исследования К. С. Егорова, выполненного под научным руководством доктора юридических наук, профессора А. В. Дулова, а также специальные знания в области криминалистики, информатики, математики, электроники.

## Дефект дороги и ДТП

В современных условиях совершенствования общества большое значение приобретает развитие и эффективность функционирования автомобильно-дорожной инфраструктуры, и одна из её составляющих — безопасность дорожного движения. Кроме позитивного развития этой сферы, в последнее время наблюдаются и негативные явления: высокий уровень аварийности, опасные для движения места на дорогах.

В монографии кандидата технических наук Дмитрия Селюкова "Судебная автодорожная экспертиза дорожно-транспортных происшествий" приводятся правовые основы судебной автодорожной экспертизы дорожно-транспортных происшествий, формирование судебной автодорожной экспертизы как научной дисциплины и практической деятельности автодорожных экспертов. В издании также содержатся нормативные требования к эксплуатационному состоянию дорог, допустимому по условиям обеспечения безопасности дорожного движения, описываются пути исследования участка дороги на месте ДТП с целью установления дефекта дороги и технической причинно-следственной связи между дефектом дороги и возникшим ДТП на основе расчётно-аналитических методов, а также приборы и аппаратура для измерения характеристик условий дорожного движения при расследовании ДТП.

Книга адресуется следователям, судебным экспертам-автотехникам и судьям, исследующим дорожно-транспортные происшествия, связанные с дефектами дороги.

## Второе, тематическое

Несколько лет назад издательство "Харвест" выпустило Сборник международно-правовых документов "Терроризм. Незаконный оборот наркотиков. Коррупция. Организованная преступность". Это было первое тематическое и системное издание международно-правовых актов, относящихся к сотрудничеству государств на международном и региональном уровнях. Сборник "Международно-правовые стандарты обращения с правонарушителями и осуждёнными" предлагает иной ракурс международно-правовых стандартов, связанный с обеспечением прав человека при осуществлении деятельности по поддержанию правопорядка, применению мер принуждения (санкций) и наказания в отношении правонарушителей.

Данный сборник международно-правовых документов подготовлен Научно-практическим центром проблем укрепления законности и правопорядка Прокуратуры Республики Беларусь в качестве научно-практического материала для использования работниками законодательных и правоохранительных органов в законотворческой и правоприменительной деятельности в области выработки стандартизированных принципов и правил обращения с правонарушителями и осуждёнными.

Издание предназначено для сотрудников органов прокуратуры, МВД, других правоохранительных органов, судей, адвокатов, преподавателей, аспирантов и студентов юридических вузов и факультетов.

## И теория, и практика

Личность Виктора Каменкова пользуется известностью в кругах специалистов по юриспруденции и праву. Доктор наук, профессор, заведующий кафедрой финансового права и правового регулирования хозяйственной деятельности, он является автором более 140 печатных научных и научно-методических работ по данной проблематике. Одной из наиболее интересных работ Виктора Сергеевича стало издание "Экономика и правосудие: вопросы теории и практики".

В свою работу автор включил актуальные публикации, статьи, выступления и интервью, посвящённые проблемам хозяйственного правового регулирования формирующейся рыночной экономики Республики Беларусь, а также совершенствованию новых форм экономического правосудия в современных условиях. Важно, что теоретическая форма подачи материала совмещена с практикой, что делает книгу доступной не только для специалистов. Часть материалов посвящена отдельным институтам хозяйственного законодательства (хозяйственный договор, правовые основы экономической несостоятельности (банкротства) субъектов хозяйствования, совершенствование механизма хозяйственного судопроизводства и др.).

Материалы "Экономики и правосудия" будут полезны юристам, занимающимся научной и практической работой, студентам и аспирантам юридических вузов. Ведь книга, несомненно, поможет читателям разобраться в действующем хозяйственном законодательстве, грамотно организовать свою деятельность в условиях рынка.

## Право — через схемы

Пожалуй, не стоит объяснять значение грамотно написанного учебника в подготовке молодых специалистов любой сферы. Студенты, которые обучаются в белорусских вузах по специальностям "Правоведение" и "Экономическое право", получили в пользование прекрасное учебное пособие. Это работа "Гражданское процессуальное право Республики Беларусь. Особенная часть. Схемы", рекомендованная Министерством образования нашей страны. Внушают уважение фамилии авторов — безусловных специалистов в своей сфере. Андрей Швед является заместителем генерального прокурора — начальником следственного управления Генеральной прокуратуры Республики Беларусь. Роман Пыталев — действующим преподавателем, одним из руководителей Союза юристов.

Учебное пособие подготовлено в соответствии с программой учебной дисциплины "Гражданский процесс". При написании книги учитывались все последние изменения в гражданском процессуальном законодательстве Республики Беларусь. А. Швед и Р. Пыталев излагают материал курса в 19 лекциях, каждая из которых разделена на подпункты, включает перечень нормативных актов и завершается списком литературы. Оригинальна форма подачи текста: он излагается в виде схем, что придаёт наглядность содержанию, делает его удобным для восприятия и запоминания.

## Преступление и наказание

Безусловный интерес научных работников, преподавателей, студентов юридических учебных заведений, работников правоохранительных органов вызовет монография Андрея Шведа "Актуальные вопросы возбуждения уголовного дела в Республике Беларусь". Автор рассмотрел в ней актуальные теоретические и практические проблемы правового регулирования процессуальной деятельности органов уголовного преследования при разрешении заявлений и сообщений о преступлении и возбуждении уголовного дела. Проанализировал вопросы совершенствования процессуального статуса лица, пострадавшего от преступления. Изучил аспекты правового закрепления оснований к возбуждению уголовного дела, тенденции и перспективы развития стадии возбуждения уголовного дела.

С учётом последних изменений в уголовно-процессуальном законе А. Швед даёт рекомендации по наиболее оптимальному его применению в практической деятельности. Книга "Актуальные вопросы возбуждения уголовного дела в Республике Беларусь" содержит выдержки из уголовно-процессуального и иного законодательства нашего государства, стран СНГ и некоторых стран дальнего зарубежья. В ней представлен анализ статистических данных о преступности, разрешения заявлений и сообщений о преступлениях и результатах работы органов предварительного следствия и дознания.

Необходимо учитывать, что последнее десятилетие развития государств-участников СНГ прошло под знаком создания национальных законодательных баз и осуществления реформ в правовой сфере. Тем не менее, в будущем ни одной стране мира не избежать определенных изменений в сфере юриспруденции. Поэтому монография Андрея Шведа актуальна как в наше время, так и впоследствии.

Юзефа ВОЛК,
Денис МАРТИНОВИЧ

# Восеньскія эцюды



Рыгор ІГНАЦЕНКА

## Лісце

Пры паляне стаіць зграбная маладая бяроза. Стаіць і, бы тая свечка, восеньскім золатам гарыць.

У лесе такая цішыня, што ніводная былінка не варухнецца.

І ўсё ж лістапад не спыняецца. Ціха шапоча па сучках і галінках жоўтае лісце, ляціць і ляціць долу.

Вось адзін лісток, спрытна снуючы чаўначком узад і ўперад, паволі апусціўся ўніз і мякка прысеў на чырвоную шапку вялікага мухамора. Другі, штопарам укручваючыся ў нерухомае паветра, дасягнуў зямлі, утыркнуўся хвосцікам у сухі сівец пад дрэвам ды так і застаўся ў ім зыркім агеньчыкам. Трэці нейкі час пырхаў лёгкім матыльком, быццам выбіраючы месца, дзе б яму сесці. І такім месцам стаў карункавы гамачок, сатканы павучком на сухой траве. Лісток злёгку гушкануўся і супакоіўся. Яшчэ адзін папяровым галубком пераляцеў прасторную паляну і апусціўся на другім яе баку пад асінай, схаваўся ў барвяным лісці на зямлі.

У тых жа ліcткоў, што заблыталіся ў густым лапніку елачак, досыць зацяжны шлях ад галінак, на якіх нарадзіліся і выраслі. На зямлю яны патрапяць толькі ўвесну, будучы сцягнутымі мокрым снегам з дрэўцаў. Вельмі нетрывалае восеньскае ўбранне на бярозе. Варта дзьмухнуць лёгкаму гарэзуветрыку ці сесці на яе маленькай лясной птушачцы пеначцы, каб праспяваць сваю восеньскую песеньку, як з красуні залатым дажджом пасыплецца долу жоўтае лісце.

Колькі б ні было на дрэве лістоў, кожны з іх па-свойму сустрэнецца з зямлёю.

## Знаёмства

З маленькім беленькім сабачкам Кузькам гулялі мы па восеньскім лесе. Я любаваўся маладзенькімі зялёнымі елачкамі, шчодра ўвешанымі залатымі і барвянымі медалямі, бярозінкамі ды асінамі, купчастымі хвоямі, мармуровымі ствaламі векавых асін. Кузька ж тым часам займаўся сваёй справай: старанна абнюхваў і аглядаў усё тое, што траплялася на яго шляху, — камлі дрэў, пні, пабурэлую траву. Час ад часу ён паглыбляўся то ў адзін бок лесу, то ў другі, але зараз жа вяртаўся да мяне.

У адным месцы, упярэдзе нас, на дарожку скокнуў заяц, здаравенны, сыты, большы за майго сабачку. Заяц свідруе нас вачыма, вывучаючы, а мы — яго.

Зайцу ў лесе даводзілася бачыць розных насельнікаў: магутных ласёў, панурых дзікоў, драпежных ваўкоў, хітрых лісаў. Добра быў ён знаёмы і са злымі паляўнічымі сабакамі. А вось такую малечу бачыў упершыню. Кузька ж, жывучы ў вёсцы, добра ведаў свойскую жывёлу: коней, кароў, свіней, хатнюю птушку. А з такім даўгавухім цудам не сустракаўся дагэтуль ні разу.

Стаім, не варушымся, угледаемся. Ад вялікай напружанасці ў Кузькі задрыжала поўсць.

Хто з нас, падумалася мне, перастаіць каго: мы — зайца ці ён — нас? У каго нервы слабейшыя?

Усё ж не вытрымаў заяц, ціхмяна скокнуў за елачку побач і прапаў з вачэй. Кузька кулём кінуўся следам за ім і таксама знік за ялінкай.

...У нашым чалавечым жыцці бывае: сустрэнешся часам з нейкім чалавекам. Пагаворыш з ім і раптам — здавалася б, без аніякай прычыны — у душы хлыне такая радасць, настрой узнімаецца, што ты ўжо не ідзеш, а быццам на крылах ляціш. Радуешся кожнаму сустрэчнаму, дрэву, кусту, кветцы ў траве. А то, здаецца, з іншым перакінешся некалькімі словамі, і пагодлівы летні дзень адразу згасне, стане шэры, пануры.

Штосьці падобнае адбылося і з Кузькам. Вярнуўся ён на дарожку стомлены, насцярожаны. Усё, што раней так радавала і хвалявала, болей яго не цікавіла. Плёўся наперадзе, апусціўшы долу галаву.

І я яго зразумеў па-свойму, пачалавечы. Упершыню сустрэўшыся з даўгавухім лясным насельнікам, ён, пэўна, хацеў "пазнаёміцца" з ім як мага бліжэй, разам з ім пабегаць па светлых лясных палянах, парослых заечай капустай, патаптаць пад хвоямі мяккі зялёны мох, пагойсаць цераз вывараты і пні.

А заяц не пажадаў раздзяліць з ім гэтую радасць і ўцёк. Ці, можа, збаяўся? Як ні кажы: хоць і маленькі, але ўсё ж сабака! Чым чорт ні жартуе: возьме і адарве ў зайца кароткі пампон-хвост. Сорамна будзе па лесе бясхвостым гойсаць. Ды і даўгавухія сабраты могуць не прызнаць за свайго. Як потым жыць адзінокім, без сяброў?

...Невядома, ці сустрэнецца з Кузькам калі-небудзь другі заяц, больш смелы і таварыскі, каб лепш пазнаёміцца з ім.

## Елка-ветэран

Дуб звычайна старэе зверху. А елка, наадварот, знізу. Звычайна ўсё пачынаецца з ніжняга сучча, якое, высыхаючы, вызваляецца ад іглiцы. Радзее крона, блякнуць фарбы. Паволі елка ўсыхае да самай вяршаліны. Адначасова ад зямлі падгнівае ствол, трухлявы ўсярэдзіне. І вось аднойчы, пад напорам ветру, дрэва скрушна крэкне і ўпадзе долу, вінавата хаваючыся ў падлеску.

Гэту елку я ведаў гадоў сорак, калі не болей. Памятаецца, яе тоўсты камель нельга было абхапіць аднаму. Стаяла яна каля невялікай прагаліны ў лесе, уздымаючы высока ў неба разгалістую крону цёмна-зялёнага лапніку.

На паляваннях любіў пад ёю падпільноўваць шустрых зайцоў і хітрых лісаў. Слухаў хвалюючае рэха гону, чакаў узнятага сабакамі звера. Радаваўся рэдкім трафеям.

Яшчэ часцей пад елкай даводзілася бываць улетку, збіраючы грыбы. Находзішся з кошыкам па лесе, наб'еш ногі, апусцішся долу, прыслонішся спіною да прахалоднага ствала і цешышся буянствам раскошнай расліннасці. Альбо цікуеш за якім-небудзь жучком-павучком ці мурашкаю. Адпачнеш, возьмеш кошык, і ўжо без перадышкі ідзеш цераз поле да самай вёскі.

Калі ж даводзілася дзе паблізу нарыхтоўваць на зіму дровы, то па завядзёнцы, прыходзіў сюды. Пасля цяжкай працы надта ж апетытны хлеб з салам ці каўбасою, гарачы чай з тэрмаса альбо малако. Сцішана слухаў рэдкія гукі восеньскага лесу, вызначаючы, якія птушкі іх падаюць.

І вось былая прыгажуня ляжыць долу, растапырыўшы ва ўсе бакі засохлыя сукі-пікі.

Калі жыццё пакідае добры чалавек, родзіч альбо лепшы сябар, надта перажываеш, нудзішся. Шкадуеш і дрэва, да якога прывык, пранікся да яго душою.

Елка забрала з сабой цэлую эпоху. А разам з тым і цэлы адрэзак майго жыцця, звязанага з цяпер ужо мёртвым дрэвам.

З шэрага ствала пераводжу позірк на зямлю. І тут толькі заўважаю цэлую рaць маленькіх зялёных елачак, якія цесна раслі адна ля адной. Каб дрэўцы свабодна рассадзіць, то праз нейкі час ладны ўчастак зямлі ад іх зазелянее бы.

Што ж, недарэмна дрэва пражыло сваё доўгае жыццё, калі вакол пакінула столькі нашчадкаў, каб яны далей працягвалі свой род і радавалі сабою вока чалавека.

Нічога няма ў жыцці вечнага. Усё мае пачатак і канец. Як вось гэта шматгадовая елка-ветэран.

## Дзяцел

На гэтую старую асіну я не звярнуў бы ўвагі, каб не грыб-нарост на ствале. Вялізны, нібы шапка. Калі б ні праходзіў каля дрэва, заўсёды кіну позірк на дзівосны грыб.

А гэта, гляджу, дзяцел дупло выдзёўбвае. І дзе! Пад самым наростам. Ну і мудрэц! І трэба ж выбраць месца пад такой надзейнай стрэшкай: ні дажджы не зальюць дупло, ні снегам не зацярушыць.

Дзятлы штогод пад гнёзды выдзёўбваюць сабе новыя дуплы, пакідаюць леташнія, якія потым ахвотна засяляюцца іншымі дуплагнёздзікамі — сініцамі, попаўзнямі, валасянкамі, стракаткамі.

Але ж гэта робіцца вясною, яшчэ да гнездавання. А што прымусіла дзятла восенню "цяслярскай" справай заняцца?

Калі я назіраў за працай птушкі, мне прыйшла думка: у нашым чалавечым жыцці нярэдка такое назіраецца — вырастуць у бацькоў дзеці, сем'і створаць, а жыць няма дзе. Жаласлівыя бацькі аддаюць маладым сваё жытло, а самі цярпліва туляцца па розных цесных закутках.

Магчыма, тое ж самае і ў дзятла. Уступіў сваё свабоднае жыллё, у якім увесь час начаваў, даросламу птушаняці, а сам застаўся ні з чым. Пакуль яшчэ ў лесе цёпла, то можна прабавіць ноч і на дрэве, прычапіўшыся кіпцюрамі да ствала. А што будзе тады, калі загуляюць сівыя мяцеліцы ды затрашчаць лютыя маразы? На ствале не ўседзіш і схавацца ад непагадзі няма дзе. Таму дзяцел наважыўся пабудаваць да халадоў сабе новае дабротнае жытло, у якім потым можна будзе бесклапотна перажыць доўгую халодную зіму.

Вось і стараецца, не звяртаючы ўвагі на пару года. І так заўзята, што толькі пацяруха долу сыплецца.

Я парадаваўся кемліваму дзятлу. І пажадаў яму ў новы дамок восеньскага свята, а ўзімку — утульнасці і цяпла.

## Каралі

Кожная галінка на кусце, быццам бісерам, увешана буйнай расою. Ад сырасці, якая трымаецца ў балоцы, празрыстыя кропелькі паволі зліваюцца адна ў адну, павялічваюцца, цяжэюць. Нейкі час пухліва дрыжаць, быццам баяцца адарвацца ад галінкі, паблiскваючы на скупым восеньскім сонцы рознымі колерамі вясёлкі. У рэшце рэшт, не ўтрымаўшыся, зрываюцца, цяжка падаюць долу: шлёп-шлёп — чуецца ў асенняй цішыні на апалым шапатлівым лісці. Я пераводжу позірк з куста на зямлю. На зялёнай купіне, якая напалову хаваецца ў ружовым верасе, заўважаю рассыпаныя кімсьці чырвоныя каралі. Прыглядаюся, аж гэта ніякія не каралі, а спелыя журавіны — буйныя, сакавітыя! Ляжаць на зялёным аксаміце мяккага моху ды ранішняму сонцу ласкава ўсміхаюцца, паблiскваючы круглымі бачкамі. Здаецца, што яны так і просяцца, каб нанізаў іх на нітку ды якой-небудзь красуні на шыю пачапіў.

---

Вольга НОРЫНА

# Першае каханне

## Апавяданне

Кажуць, з дапамогай пэўнай методыкі можна прыгадаць нават як ты нарадзіўся на свет. Ды дзеля гэтага, відаць, прыйдзецца прыкласці шмат намаганняў. Свае наступныя народжанні людзі помняць куды лепей. Напрыклад, першае каханне. Хіба не нараджэнне? Увесь навакольны свет мяняецца, набывае новыя адценні кожнае слова, позірк, пах, рух. І толькі ты нічога не ведаеш — як сябе паводзіць, што будзе правільна, а што — не. І першыя крокі ў гэтым новым свеце даюцца невярагодна цяжка . І неабходныя словы выспяваюць так доўга, пакуль насмелішся іх агучыць…

Першае каханне… Калі лета — гэта сапраўды маленькае жыццё. А спачатку майскія святы, і з заміраннем сэрца чакаеш першай вандроўкі на дачу пасля зімы. Чароўныя краявіды дарогі, вялікі дом. І бялявы шэравокі хлопчык з другога канца вуліцы, які абавязкова выйдзе, як толькі каля дома, што сумна прастаяў зіму і восень, спыніцца аўтамабіль. Адсунуць фіранку і — глядзець на яго здалёк, знайсці занятак на двары, лётаць з братамі ў агародзе і — глядзець на яго здалёк. І чакаць летніх канікулаў, калі… Адзінаццаць, дванаццаць, трынаццаць гадоў. Гэта толькі ад роспачы, што ён з сябрукамі знікае за паваротцай на веласіпедах, з вялізнымі мукамі прымушаеш сябе пазбавіцца боязі, што грымнеш з гэтага жалеза, якое ўпарта хоча ехаць асобна ад цябе. Закусіўшы губу, вучышся глядзець перад сабой на дарогу, а не на клятае пярэдняе кола. Мама, тата, зірніце ў акно кухні праз пяць хвілін. Я еду! Гэта ўсё дзеля таго, каб аднойчы, рызыкуючы скруціць сабе шыю, калі ляціш праз руль, бо не здолела стрымаць вернага каня на пясчанай паваротцы, паехаць з ім на той бок возера і сядзець побач, калі па небе чыркаюць знічкі. А ў чатырнаццатае лета каб да слёз пранізалі радкі з каляндарнага лістка:

Планета вошла в полосу звездопадов,
Уже холодеют утра.
Летит паутина над мокнущим садом,
Холодная нить серебра…

І першы пацалунак, тое самае новае нараджэнне. Калі вусны яго такія цёплыя, і сусвет некуды правальваецца, і трэба спыніць яго нясмелую руку, якою ён хоча дакрануцца да тваіх грудзей. Ён адхіляецца. І вусны яго блішчаць у месяцавым святле. Так хочацца прашаптаць: "У цябе вусны вільготныя. Дазволь, сяду к табе на калені?" І нічога вымавіць не здольная.

А назаўтра самая сапраўдная тэмпература, ложак, чаканне ля акна. І нашто раніца, няхай бы хутчэй вечар, калі ён выйдзе. І нашто вечар без яго? А яго няма, яго адаслалі да бабулі з дзядулем. Хутчэй бы ён вярнуўся. І — Божачка! — канікулы ўжо канчаюцца. Што мне рабіць?!

І маё першае "не" на яго спробу большага. І мае першыя вершы пра каханне ў цёплым вераснёўскім горадзе.

Сяброўка кажа: "Сын закахаўся, піша вершы кіламетрамі". А я іх лічыла. Сто, дзвесце… Тыя блакноты дасюль захаваліся ў маім вялікім драўляным доме. "Мы живем в ожидании вишен, в ожидании лета живем" — гэта пра мяне, але тады я яшчэ не была знаёмая з аўтарскай песняй. Для свайго кахання мне даводзіцца шукаць свае словы…

Узімку я вучуся, хаджу ў кіно, цяжка кашляю, хваравітая дзяўчынка, якая з маленства запоем чытае ў ложку. І з ліхтарыкам пад коўдрай у тым ліку. А потым — майскія святы і лета, калі я зноў яго кахаю. Я ўжо значна лепей хаваю гэта пачуццё ад астатніх. У яго закаханы ўсе навокал. Мая лепшая сяброўка, старэйшая за мяне на чатыры гады. Наша маленькая з бялявымі кудзерамі суседка. Мая новая сяброўка, што прыязджае на лета да бабулі, заяўляе: "Маю на яго свае віды". Кахаць самага прыгожага хлопчыка — справа няўдзячная. Кахаць некага іншага? Гэта немагчыма.

Затое можна гадзінамі размаўляць пра яго з усімі. З кім ён сустракаецца, дзе бывае, што лепш за яго ніхто не ўмее цалавацца…

У пачатку новага лета старэйшая сяброўка пасля гучнага "Прывітанне!" без пераходу паведамляе, што з ім была. З кніжак я ведаю, што ў такіх выпадках адказваюць дарослыя, і выдаю, вокам не міргнуўшы: "Ну і як, ці здольны ён у ложку?" Сяброўка выпадае ў глыбокі нераствaральны асадак, яе перамога здаецца не такой ужо і значнай. Каму якая справа, што там у мяне на душы.

Кожнае лета дорыць мне адзін жнівеньскі вечар — з ім. Выпадкова, чароўна. І зноўку з неба сыплюцца зоркі, і ён нясе мяне на руках, і зноў я кажу яму "не", таму што мне патрэбны адзіны на ўсё жыццё, а прыгожыя хлопчыкі належаць усяму беламу свету.

Калі мы сустракаемся ў пачатку лета, ён пяшчотна датыкаецца да маёй бязлітасна апаленай сонцам скуры і кажа: "Да цябе ж і дакрануцца нельга — табе балюча будзе. Але я завітаю да цябе сёння?", я зноў кажу "не", а ў самой гарыць святло за поўнач і шамацяць лісты запаветнага сшытка. Ён ніколі не прапануе другі раз. Што я, хіба мала дзяўчат навокал? Вось адна стала сустракацца з яго лепшым сябруком, толькі б быць побач. "Ах, этот местный Казанова".

Вірлівае вяселле кучаравай суседкі на нашай вуліцы. Хутка муж атрымае жыллё і мы з сынам паедзем да яго ў далёкі горад. Мой Казанова яшчэ не жанаты. А мая старэйшая сяброўка (жонка яго брата, між іншым), выцягвае мяне з ложка: "Пайшлі паглядзім на нявесту"… Мы ўчатырох у яго пакоі, яна бессаромна чапляецца на яго, яе муж танцуе са мной, і як усё гэта няправільна! Хто ведае, чым бы скончыўся гэты вечар, каб не запытаў ён пры іх, ці зноў будзе праводзіць мяне дарэмна.

Праз год ён едзе мне насустрач на матацыкле. Мы ўжо дарослыя. Настолькі, што ён прызнаецца: увесь гэты час таксама думаў пра мяне. І як горка, што ў маёй кішэні білет на цягнік.

Я помню пах яго спіны, калі ён вёз мяне на багажніку веласіпеда. Я прыгадваю яго «нежный пух над губой», калі куплю сыну ў падарунак першую брытву. А яшчэ я з асаблівай урачыстасцю сустракаю яблычны Спас — дзень яго нараджэння, дзень нашага першага пацалунка.

Першае каханне… Мне сямнаццаць. У пахмурны дзень я сяджу на прыпынку, прымружыўшы вочы. І раптам мяне ахутвае лавіна цяпла. Вецер разагнаў хмары — і з'явілася сонейка? Раскрываю вочы. Сонца няма. Гэта ён набліжаецца да мяне.

Калі яму надарыцца паглядзець на мяне, я дасюль беспамылкова знаходжу яго позіркам у гарадскім натоўпе. "Знаёмся, — кажу я сваёй сяброўцы. — Гэта маё першае каханне. Я люблю яго і зараз".

І хіба гэта няпраўда?

№ 46 19 лістапада 2010 г. ЛіМ

# Музыка чакае ўвагі!

Сёння ўрачыстым пасяджэннем і вячэрнім канцэртам сімфанічнай музыкі ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі адкрываецца XV з'езд Беларускага саюза кампазітараў. Удзельнікі гэтай значнай падзеі ў жыцці кампазітарскай арганізацыі краіны паслухаюць справаздачны даклад старшыні праўлення саюза Ігара Лучанка, у якім, безумоўна, будуць адзначаны і шматлікія творчыя дасягненні беларускіх аўтараў, і акрэслены праблемы ў сённяшнім існаванні самой музычнай суполкі. А ў канцэртнай праграме прагучаць араторыя Яўгена Глебава на вершы Петруся Макаля "Запрашэнне ў краіну дзяцінства", сімфонія-балет "Кароль Лір" Сяргея Бельцюкова, фрагменты сімфоній Уладзіміра Гаркушы, Уладзіміра Саўчыка ў выкананні Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава.

Станоўчая канстатацыя — саюз кампазітараў яшчэ жыве. Кампазітарская арганізацыя, якая пачыналася з секцыі пры Саюзе пісьменнікаў, існуе ўжо 77 гадоў. Старшынямі праўлення ў розны час былі вядомыя творцы, чые прозвішчы сёння мы сустрэнем у падручніках, іх музыку яшчэ зрэдку можна пачуць у філарманічных канцэртах і па радыё. 30 гадоў Беларускі саюз кампазітараў узначальвае Ігар Лучанок, чый прафесійны аўтарытэт бясспрэчны. Ён кажа: "Мы не павінны забываць, што мы — прафесіяналы, і наш саюз — гэта, перш за ўсё, саюз прафесіяналаў. Сам я вучыўся ў Мінску, Ленінградзе і Маскве ў такіх выдатных майстроў, як Анатоль Багатыроў, Вадзім Салманаў і Ціхан Хрэннікаў. У любым цывілізаваным грамадстве менавіта паводле стану акадэмічнай музыкі мяркуюць пра ступень развіцця грамадства. Мы павінны працягваць акадэмічныя і, я нават сказаў бы, кансерватыўныя традыцыі ў захаванні высокага статусу нашай прафесіі. У сваёй грамадскай дзейнасці і ў творчасці я заўсёды выступаю як захавальнік традыцый. Памятаю, наш знакаміты кампазітар Мікалай Аладаў неяк падчас заняткаў у кансерваторыі дасціпна сказаў: "Мы не павінны забываць, што музыка — гэта не толькі халтура, а гэта высокае мастацтва". А ўвагу шырокай публікі мы можам прыцягнуць толькі якасцю музыкі і якасцю яе выканання. А тое, што наша музыка арганічна ўваходзіць у агульнаеўрапейскі культурны ландшафт, пацвярджаюць выкананні твораў нашых кампазітараў на такім славутым фестывалі сучаснай музыкі, як "Варшаўская восень", на фестывалях у Галандыі і Нарвегіі, Германіі і Швейцарыі, творы нашых кампазітараў гучалі і ў Злучаных Штатах Амерыкі".

Прыгадваюцца колішнія з'ездаўскія справаздачы, дзе гаварылася, што "саюз арганізуе рэспубліканскія і міжнародныя музычныя фестывалі, праводзіць канцэрты і сустрэчы са слухачамі, працуюць шматлікія камісіі: прапаганды вайскова-патрыятычнай музыкі, музычна-эстэтычнага выхавання дзяцей і юнацтва, секцыі сімфанічнай і камернай музыкі, музыказнаўства і крытыкі, этнамузыказнаўства і фальклору, выдаецца музычная літаратура і грамзапісы. Кампазітары ездзяць у творчыя камандзіроўкі для збору матэрыялаў да новых твораў"... Усё гэта было і засталося... у гісторыі, у мінулым стагоддзі.

Цяперашняе грамадскае жыццё БСК не здаецца такім насычаным і актыўным. Няма секцый і камісій, няма Тавырыства сучаснай музыкі, канцэрты якога яшчэ зусім нядаўна збіралі шматлікіх слухачоў, няма калісьці папулярных "Музычных серад" у зале саюза, дзе гучалі новыя творы беларускіх кампазітараў і іх абмяркоўвалі слухачы і спецыялісты, няма паўнавартаснай музычнай крытыкі... Словам, "няма таго, што раньш было". А, можа, у новым стагоддзі і ў новых умовах яно і не патрэбна зусім? Хутчэй за ўсё, так. Цяпер многае будуецца на асабістых кантактах, і ўдзел беларускіх кампазітараў у міжнародных фестывалях, семінарах, майстар-класах, праектах — гэта заслуга кожнага аўтара паасобку. А вось не так многа сярод кампазітараў знойдзецца тых, хто прапагандуе не толькі сваю музыку, а лічыць сваім абавязкам садзейнічаць прапагандзе музыкі калег. Творчыя кантакты з вядучымі выканаўцамі — Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам, Дзяржаўным камерным аркестрам, Дзяржаўным камерным хорам Беларусі і Нацыянальнай акадэмічнай харавой капэлай імя Рыгора Шырмы — не назавеш актыўнымі. У праграмах гэтых калектываў беларуская музыка прадстаўлена досыць абмежавана. А для таго, каб зрабіць беларускую акадэмічную музыку даступнай большай колькасці слухачоў, каб знаёміць з ёй замежжа, каб зрабіць яе выкананне прэстыжным, пэўна, наспеў час для стварэння пры БСК спецыяльнага інфармацыйнага цэнтра, які падтрымліваў бы творчыя кантакты з кампазітарамі іншых краін, з выдавецтвамі, канцэртнымі арганізацыямі і г.д. Усе гэтыя прапановы, вядома, вымагаюць матэрыяльнай падтрымкі (і не толькі дзяржаўнай), а яшчэ — працы людзей сапраўды зацікаўленых і прафесійных у сферы менеджмента.

Творы для выканання падчас XV з'езда сёлета адбіраліся вельмі дэмакратычна, кампазітары самі прапаноўвалі, які опус уключыць у канцэртную праграму. І прапаноў гэтых было шмат, бо сёння не кожны беларускі аўтар можа пахваліцца частым гучаннем сваёй музыкі ў канцэртах.

І каб пазнаёміцца з новай беларускай музыкай, варта наведаць канцэрты XV з'езда кампазітараў Беларусі. 21-га лістапада а 14-й гадзіне ў Беларускім рэспубліканскім Палацы культуры ветэранаў музычная капэла "Санорус" пад кіраўніцтвам Аляксея Шута прадставіць праграму "Беларускія кампазітары — дзецям". У рамках з'езда адбудуцца тры канцэрты камернай музыкі: 21-га, 23-га і 29-га лістапада. З харавымі творамі нашых аўтараў у выкананні Акадэмічнага хору Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі пад кіраўніцтвам Паўла Шпелева слухачы могуць пазнаёміцца 22-га лістапада. А 24-га ў з'ездаўскай праграме — канцэрт сімфанічнага аркестра Белтэлерадыёкампаніі, дырыжор — Аляксандр Разумаў.

Наперадзе — канцэрты, а пасля, напэўна, усё ж адбудуцца доўгачаканы "круглы стол", за якім пойдзе шчырая, зацікаўленая, без крыўд, гаворка пра сённяшні стан беларускай акадэмічнай музыкі, пра тое, як гэтую музыку "данесціь" да слухачоў. А, можа, на змену з'ездам прыйдуць нейкія іншыя формы знаёмства шырокай публікі з акадэмічнай музыкай і творчых кантактаў кампазітараў паміж сабой? Ці прынясе плён новы кампазітарскі форум? Паглядзім. XV з'езд Беларускага саюза кампазітараў пачынаецца.

Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ

## Радуемся разам



Заўтра народнага артыста Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР Аляксандра Ткачонка павіншуюць з 60-годдзем родныя, сябры, калегі. Апладысментамі ўшануюць юбіляра і яго шматлікія прыхільнікі-гледачы, бо ўрачыстасць адбудзецца на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага, дзе акцёр працуе з 1975 года, адразу пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (курс У. Маланкіна). Рознабаковы майстар, А. Ткачонак сыграў каля паўсотні роляў на сцэне і больш як 30 — у кіно. У скарбонцы айчыннага тэатральнага мастацтва — яго Лешч ("Апошнія" М. Горкага), Адам ("Трагедыя чалавека" І. Мадача), Тузенбах, Лапахін ("Тры сястры", "Вішнёвы сад" А. Чэхава), Акцёр ("На дне" М. Горкага), Пічам ("Трохграшовая опера" Б. Брэхта, К. Вайля), Лявон ("Раскіданае гняздо" Янкі Купалы), Мальер (аднайменная п'еса М. Булгакава) ды інш. Без вобразаў, створаных ім у спектаклях "Дзядзечкаў сон" Ф. Дастаеўскага, "Ідэальны муж" О. Уайльда, "Бег" М. Булгакава, немагчыма сёння ўявіць творчую палітру горкаўцаў. 24-гадовым пачаткоўцам сыграў А. Ткачонак ролю Жаронта ў "Адзіным спадкаемцы" Ж. — Ф. Раньяра, і з поспехам выконвае яе дагэтуль.

Лана ІВАНОВА

На здымку: народны артыст Беларусі Аляксандр Ткачонак.



# Планета Глебава



Абстаноўку хатняга кабінета, у якім працаваў народны артыст СССР Яўген Глебаў, нагадвае мемарыяльны пакой кампазітара, створаны нядаўна ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі. Падчас урачыстага адкрыцця гэтай экспазіцыі адбылася прэзентацыя кнігі "Евгений Глебов. Судьбы серебряные струны" з новай серыі "Беларусь музычная" выдавецтва "Мастацкая літаратура". У выкананні квартэта "Рыв'ера" пад кіраўніцтвам Максіма Расохі гучала музыка кампазітара, аранжыраваная для драўляных духавых інструментаў.

Інтэр'ер музейнага пакоя захоўвае знакі тых часоў, калі Яўген Глебаў, дасягнуўшы сваёй творчай вышыні, атрымаўшы прызнанне далёка за межамі Беларусі, шукаў і абдумваў ідэі новых партытур, працягваў напружана працаваць у розных музычных жанрах, спалучаючы свой галоўны прафесійны занятак з педагагічнай дзейнасцю.

Вось зусім звычайны, "сярэднестатыстычны" пісьмовы стол з далёкіх 1970-80-х гадоў; салідная радыёла на тонкіх драўляных ножках; рарытэтны прайгравальнік — пластмасавы рычаг з іголкай, завіслай над вінілавым дыскам; палічка з мініяцюрнымі фарфоравымі фігуркамі васёлых музыкантаў; кнігі... А на стале педантычна раскладзеныя партытурныя аркушы, прыгожа, з каліграфічнай выразнасцю, запоўненыя нотамі, пазнакамі тэмпаў, дынамічных адценняў, выканальніцкіх штрыхоў і нюансаў. Легендарныя партытуры Глебава, якімі захапляліся і дырыжоры, і аркестравыя музыканты, і салісты: маўляў, тут усё настолькі прафесійна дакладна і дэталёва выпісана, што не трэба ўдакладняць нямеры аўтара — чытай ноты і выконвай! А на прайгравальніку — кружэлка з музыкай балета "Ціль Уленшпігель". А побач — колішняя радасць і гонар кампазітара, вялізныя гукаўзмацняльныя стэрэакалонкі: музыку ён слухаў толькі на лепшай апаратуры, якую можна было набыць тады...

Той, хто асабіста ведаў Я.Глебава, з нейкай асаблівай, тужлівай цікавасцю будзе разглядаць прадстаўленыя ў якасці музейных экспанатаў дакументальныя матэрыялы, афішы канцэртаў, спектакляў; шматлікія фотаздымкі розных гадоў — сямейныя, аматарскія, афіцыйныя...

На стале мемарыяльнага кабінета, побач з партытурнымі аркушамі, размясцілася і выдадзеная сёлета кніга "Евгений Глебов. Судьбы серебряные струны", якую "ЛіМ" прадстаўляў ужо чытачам. У стварэнні гэтага важкага, багата ілюстраванага тома ўспамінаў, інтэрв'ю, эсэ ўдзельнічалі дзясяткі людзей: музыканты-выканаўцы, журналісты, пісьменнікі, рэжысёры, артысты, калегі Яўгена Аляксандравіча, яго вучні, родзічы, сябры сям'і... Усіх іх



аб'яднала сваёй падзвіжніцкай працай самаахвярная і мужная спадарожніца жыцця Майстра — Ларыса Васільеўна Глебава, аўтар канцэпцыі кнігі, рэдактар-укладальнік. Больш як тры сотні старонак адмыслова люструюць абрыс яркага і неадназначнага, драматычнага і паспяховага, шумнага і самотнага, парадаксальнага жыцця, жыцця чалавека-планеты, чыё імя — Яўген Глебаў. А праз яго жыццё, праз штрыхі біяграфіі блізкіх яму людзей праглядаюць гістарычныя рэаліі мінулага...

Кніга ўбачыла свет дзякуючы падтрымцы генеральнага спонсара — ЗАТ "АКБ "Белросбанк". Старшыня яго праўлення Ігар Кацібнікаў, разам з іншымі чыннікамі гэтага праекта, узяў удзел у прэзентацыі.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: фаліянт "Евгений Глебов. Судьбы серебряные струны" з дарчым надпісам Ларысы Глебавай — мемарыяльнаму пакою Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі; палічка з асабістымі рэчамі кампазітара.

Фота аўтара

# Як марыў Генадзь Іванавіч

Сёлета музычная грамадскасць краіны адзначае 100-годдзе Генадзя Цітовіча — народнага артыста СССР, выдатнага беларускага дырыжора, этнамузыказнаўцы, вучонага-фалькларыста, стваральніка і мастацкага кіраўніка Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Беларусі. У азнаменаванне гэтай падзеі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі, Беларускі саюз музычных дзеячаў, БДУ культуры і мастацтваў, Беларуская дзяржаўная філармонія праводзяць, у межах Усебеларускага фестывалю "Беларусь — мая песня", рэспубліканскае свята-конкурс вакальна-харавых калектываў. Свята-конкурс адбудзецца па трох намінацыях: хоры з народнай манерай выканання, ансамблі народнай песні і танца, вакальныя ансамблі народнай песні. Творчыя калектывы, якія возьмуць удзел у свяце-конкурсе, павінны выкарыстоўваць толькі "жывы гук" і выконваць беларускую народную песню ў апрацоўцы Г. Цітовіча. Паводле вынікаў правядзення абласных адборачных тураў у кожнай з намінацый рэспубліканскае журы (старшыня журы — народны артыст Беларусі, прафесар Міхась Дрынеўскі) вызначыць лаўрэата, дыпламанта 1 ступені, двух дыпламантаў II ступені і трох дыпламантаў III ступені. Пераможцы выступяць у заключным гала-канцэрце, які адбудзецца 11 снежня ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі, і будуць узнагароджаныя спецыяльнымі дыпломамі і памятнымі падарункамі. У межах свята-конкурсу таксама пройдзе навукова-практычная канферэнцыя "Аматарская творчасць XXI стагоддзя. Творчая спадчына Г. І. Цітовіча".

Безумоўна, такое мерапрыемства будзе спрыяць паглыбленню ўплыву нацыянальнай музычнай спадчыны на эстэтычнае выхаванне насельніцтва краіны, развіццю вакальна-харавога мастацтва, пашырэнню музычна-асветнай дзейнасці вакальна-харавых калектываў і павышэнню іх мастацкага і выканальніцкага майстэрства. Менавіта пра гэта ўсё сваё жыццё марыў і над гэтым працаваў незабыўны Генадзь Іванавіч! Спадчына Цітовіча — важкая, неабдымная. А галоўнае — яна жывая, не музейная. Створаная на народнай аснове, яна і сёння жывіць сваімі жыватворнымі сокамі прафесійнае і аматарскае мастацтва Беларусі.

В. Н.

## Нашы юбіляры



Альбіна Васільеўна Пякуцька — загадчык кафедры харавога і вакальнага мастацтва Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, кандыдат педагагічных навук, прафесар, заслужаны работнік адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Сябры! На вашы пытанні, якія датычаць падрыхтоўкі матэрыялаў для гэтай старонкі, адказа перш намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Наталля Васільеўна ВІТЧАНКА.
Тэлефоны: (017) 222-37-33 — працоўны; (029) 507-55-05 — МТС; (029) 699-32-00 — Velcom.

У межах Сусвету стагоддзе — не час. А трыццаць гадоў? Для Космасу — нябачная рыска на далонях Млечнага Шляху. Для музычнага калектыву — значны перыяд, поўны перажыванняў, поспехаў і спадзяванняў. Напружаная творчая праца, сотні сустрэч з гледачамі, падрыхтоўка новых і новых канцэртных праграм.



# Калі спявае хор…

Адзначыў юбілей Камерны хор Гомельскай абласной філармоніі. Кранальная чалавечнасць і адухоўленасць гэтага калектыву — для ўсіх, хто сэрцам здольны прыняць прыгажосць і гармонію. Трыццаць гадоў таму ў горадзе над Сожам з'явіўся ён на свет. І гэтая падзея сталася знакавай для нашага акадэмічнага мастацтва: нарадзіўся першы ў Беларусі прафесійны камерны хор. З яго пачаўся доўгі шлях да адраджэння страчаных духоўных традыцый. У нацыянальную музычную культуру паступова вярталіся выкрасленыя з савецкай рэчаіснасці хоры, канты, літургіі…

Калектыў, заснаваны заслужаным дзеячам мастацтваў БССР Аляксеем Лукомскім, з 1989 года ўзначальвае Алена Сакалова — выдатны дырыжор, выпускніца Горкаўскай (Ніжагародскай) кансерваторыі імя М. Глінкі. Дзякуючы яе плённай працы і безумоўнаму таленту, калектыў з'яўляецца пераможцам шматлікіх міжнародных конкурсаў, уражвае аматараў духоўнай музыкі на радзіме і за яе межамі. Вытанчанасць музычнай класікі, багацце тэмбральнай афарбоўкі голасу, бясконцы пошук навага — асновы яго поспеху. У 2006 годзе арганізатары XXV Фестывалю праваслаўнай музыкі ў Беластоку (Польшча) запрасілі да ўдзелу ў юбілейнай імпрэзе лепшыя еўрапейскія калектывы. Камерны хор Гомельскай абласной філармоніі быў там адзіным прадстаўніком Беларусі.

Трыццаты дзень свайго нараджэння юбіляр адзначыў на канцэртнай сцэне. Святочны вечар адкрыла заслужаная артыстка Беларусі Галіна Паўлянок. Разам з хорам яна выканала сакральна-ўрачыстых твор А. Струмскага "Вялікае славаслоўе". Упершыню ў гісторыі калектыву яго спевы суправаджаліся адразу двума аркестрамі Гомельскай абласной філармоніі: Камерным (мастацкі кіраўнік і дырыжор Уладзімір Авадок) і Эстрадна-сімфанічным (мастацкі кіраўнік і дырыжор Станіслаў Шныр). У праграме прагучалі творы В. А. Моцарта, Ф. Шуберта, Т. Альбіноні, П. Чайкоўскага, Г. Гендэля, Э. Каньа, Л. Армстранга. Калектыў прымаў шчырыя віншаванні ад кіраўніцтва адміністрацыі вобласці, упраўлення культуры Гомельскага аблвыканкама, а таксама ад Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. За "праслаўленне зямлі Гомельскай і дабрачынную дзейнасць" Гомельская Епархія Рускай Праваслаўнай Царквы ўзнагародзіла Алену Сакалову медалём Святой Манефы.

Лейтматывам творчасці калектыву даўно зрабіліся словы: "Мы павінны суцяшаць людзей". Вяртанне да адвечных каштоўнасцей — тая высакародная мэта, якую ставіць перад сабой камерны хор, кожны раз выходзячы на сцэну. Мы слухаем яго спевы, і значыць унутры нас ніколі не згаснуць Любоў, Прыгажосць, Мастацтва.

Яніна ЧАРПУХІНА-АНДРЭЕВА

На здымку: Камерны хор Гомельскай абласной філармоніі.

# Гучныя «ўдарныя» Дні

Пры канцы верасня прырода пацешыла Мінск добрым сонечным надвор'ем. Жоўтае лісце, лятучая павуцінка, закаханыя пары, вясельныя картэжы — пэўна, гэта было сапраўднае "бабіна лета". І ў тыя цудоўныя дні ў сталіцы прайшоў другі міжнародны фэст "Дні барабанаў і перкусіі". Прыехалі вядучыя музыкі-перкусіяністы з Нямеччыны, Польшчы, Літвы і Расіі. У Мінск памкнуліся навучэнцы, студэнты, педагогі, выканаўцы на ўдарных інструментах з усіх рэгіёнаў краіны. У госці на фэст прыехалі музыкі з Кіева, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Вільні.

Улічваючы досвед леташняга фэсту, арганізатары запрасілі ў госці ўдарнікаў, выканаўцаў самых розных стыляў і жанраў. Хэдлайнерамі цяперашніх "Дзён" сталі: Нябойша Ёван Жыўкавіч — серб па нацыянальнасці, адзін з лепшых марымбафаністаў у свеце, кампазітар, педагог, які жыве і працуе ў Нямеччыне, а таксама Цэзары Конрад — ужо больш як 10 гадоў лепшы джазавы барабаншчык Польшчы. Мы зноў сустрэліся з Паўлам Гюнтарам — ударнікам-шоумэнам з Літвы. Трэці раз за апошнія некалькі гадоў Беларусь наведаў прафесар Варшаўскай акадэміі музыкі імя Ф. Шапэна, прэзідэнт польскай перкусійнай асацыяцыі Станіслаў Скачыньскі. І калі раней ён прыязджаў у Мінск са сваімі праектамі (выкананне "Carmina crucis" — твора для ўдарных і чытальніка Станіслава Марыты ў Чырвоным Касцёле або канцэрт ансамбля ўдарных інструментаў, які складаецца з вучняў прафесара Скачыньскага), дык гэтым разам пан Станіслаў граў ў складзе беларускага ансамбля "Grig percussion" у канцэрце ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі.

Расію прадставілі маладыя музыкі з С.-Пецярбурга Кастусь Калеснікаў і Дзмітрый Міцаў. Дарэчы — Кастусь і Міца маюць беларускія карані. Калеснікаў нарадзіўся і вырас у Мінску. Яго першым педагогам была Вольга Дарыенка — выкладчык першай музычнай школы, а пасля заканчэння Мінскай музычнай вучэльні Кастусь паступіў у Піцерскую кансерваторыю. Міца — сын вядомага опернага рэжысёра Сусаны Цырук і акцёра Аляксея Нілава, унук знакамітага дырыжора Юрыя Цырука, таксама першыя гады правёў у Мінску, нейкі час вучыўся тут. Цяпер Міца — студэнт Піцерскай кансерваторыі, лаўрэат міжнароднага конкурсу.



Калі мінулы фэст уклаўся ў адзін дзень, то сёлета ледзь хапіла трох. Прагрaма складалася з сустрэч, майстар-класаў і, вядома ж, канцэрта "Grig percussion" запрашае сяброў".

У Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі са студэнтамі і выкладчыкамі сустракаўся Нябойша Жыўкавіч: распавядаў пра прыёмы і тэхніку ігры на марымбе і малым барабане, займаўся з юнымі беларускімі выканаўцамі, знаёміў са сваімі новымі творамі, дзяліўся ўражаннямі пра нашу краіну. Выступленнем дзіцячага ансамбля ўдарных інструментаў "Рым-Шот" (пад кіраўніцтвам Вольгі Дарыенкі, ДМШ № 1) на прыступках філармоніі арганізатары фэсту сустракалі публіку, якая спяшалася на канцэрт "Grig percussion запрашае сяброў". У зале быў аншлаг. Выканаўцы змянялі адно аднаго. На сцэне неадназразова з'яўлялся "герой" вечара — "Grig percussion", штораз з новым выканаўцам. То з ансамблем грала піяністка Таццяна Старчанка, то разам з Жыўкавічам і Паўлам Гюнтарам выконвалася "Сербска игра", то да ансамбля далучаўся Станіслаў Скачыньскі. А ў II аддзяленні, пасля выступлення Цэзарыя Конрада на drum set, амаль усе ўдзельнікі праграмы выканалі запальную рытмічную кампазіцыю, якая стала фінальнай кропкай канцэрта.

Майстар-клас у зале Мінскай музычнай вучэльні, які праводзіў Цэзарый Конрад, таксама прайшоў з аншлагам, як і канцэрт яго джазавага трыа.

Хто ж дапамагаў у ажыццяўленні гэтага свята для ўсіх аматараў музыкі для ўдарных?

Перадусім гэта Беларускі саюз музычных дзеячаў, які з моманту стварэння Беларускай перкусійнай асацыяцыі ў 1995 г. падтрымлівае ўсе пачынанні, ініцыятывы, праекты і творчыя задумкі БПА (прыезд у Мінск ансамбля ўдарных Вялікага тэатра Расіі п/к В. Грышына; удзел "Grig percussion" у фэстах у Літве, Польшчы, Нямеччыне; майстар-класы Лінды Максі, Джона Крыгела (ЗША), С. Скачыньскага (Польшча) і шмат іншых, цікавых і значных, мерапрыемстваў). Другі год запар велізарную дапамогу ў арганізацыі і правядзенні фэстаў аказвае салон "Музыка", што на вул. Якуба Коласа.

Беларуская перкусійная асацыяцыя ўжо больш як 10 гадоў супрацоўнічае з Польскім інстытутам у Мінску. Паездкі "Grig percussion" на фэсты ў Варшаву, дапамога ў афармленні дакументаў і паездкі беларускіх студэнтаў на курсы ў Польшчу, прыезды польскіх музыкаў-ударнікаў у Беларусь і, нарэшце, цяперашні фэст. Інстытут узяў на сябе "львіную" долю выдаткаў па прыездзе ў Беларусь С. Скачыньскага і Ц. Конрада.

Беларуская дзяржаўная філармонія, наш Акадэмічны сімфанічны аркестр на чале з маэстра Аляксандрам Анісімавым, а таксама дырэктар аркестра — Ірына Арцімовіч заўсёды падтрымлівалі і падтрымліваюць творчыя праекты ансамбля "Grig percussion": выступленні ансамбля на сцэне філармоніі, запіс CD на "Радыё Франс" у Парыжы, TV-праграмы на Беларускім тэлебачанні і г.д. Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі таксама заўжды спрые пачынанням "ударнікаў" музычнай працы.

Таму ёсць надзея, што наступнай восенню ўсіх нас чакаюць новыя сустрэчы з цікавымі музыкамі, яркай і запальнай музыкай для ўдарных інструментаў.

Ігар АЎДЗЕЕЎ

На здымку: удзельнікі фэсту.

# Мудрыя развагі мысляра і грамадзяніна

Карціну свету Караткевіча можна прасочваць і праз адлюстраванне аўтарскай канцэпцыі чалавека ў светапоглядзе і паводзінах герояў яго твораў, і праз выяўленне прысутнасці пісьменніка ў іх мастацкай тканіне. Але больш перспектыўны падыход бачыцца ў даследаванні тых матэрыялаў, дзе аўтар праяўляе сябе адкрыта, г. зн. найперш у публіцыстыцы, у тым ліку ў інтэрв'ю і адказах на пытанні анкет.

"Доўгі адказ..." напісаны ў Дубултах, у Доме творчасці імя Яна Райніса, 22 снежня 1976 года. Відаць, гэта адказы на пераднавагоднюю анкету, аднак цяжка высветліць, хто яе рыхтаваў і для якога выдання. У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (ф. 11, воп. 2, адз. зах. 397) знаходзіцца чарнавік, аўтограф і машынапіс без дадатковых матэрыялаў.

Тэкст, па вялікім рахунку, — адказ на адно пытанне: якім бачыцца Караткевічу сучасны чалавек. У адказе — увесь пісьменнік: шматгранная асобы і неверагодная эрудыцыя, узважаны падыход да наяўных у грамадскай свядомасці думак і крытычны погляд на тое, з чым нельга мірыцца, уменне наладжваць сапраўдны дыялог з суразмоўцам-чытачом і талент у пераканальнасці яго, у далучэнні да аўтарскай пазіцыі. У тэксце практычна няма «пылу» часу, нават узгадванне Луіса Карвалана выяўляе адносіны Караткевіча да яго не як да лідара Камуністычнай партыі Чылі, а як да чалавека, які мае права на сваю думку.

Няма патрэбы даводзіць, што Уладзімір Караткевіч, паводле Адама Мальдзіса, быў прапаведнікам і прарокам. У "Доўгім адказе..." прасочваецца таксама тое, што пісьменнік быў (і ёсць) адным са стваральнікаў нацыянальнай ідэі і дзяржаўнай ідэалогіі. Таленавітае, узважанае слова пісьменніка і сёння актыўна ўплывае на станаўленне маладой беларускай дзяржавы, якая настойліва імкнецца заняць «свой пачэсны пасад між народамі». І першае месцы ў гэтым працэсе павінна належаць Чалавеку.

Пятро ЖАЎНЯРОВІЧ



# Доўгі адказ на тры кароткія пытанні

1. Якія якасці падабаюцца вам у людзях, што вас акружаюць?

Я ўвогуле не хацеў бы, каб усё гэта было адказамі на анкету. У анкетах занадта часта хлусілі. Хочацца простай размовы аб тым, што такое я, мае сябры, мой горад, рэспубліка, краіна, свет, сучаснасць. Адказаць на гэта вычарпальна — дужа цяжка. Таму хай гэта будуць проста намёткі размовы аб тым, што такое, на мой погляд, сучасны чалавек і яго сябры, як ён ставіцца да той вялікай грамады, у якой жыве.

Перш за ўсё мне падабаецца вернасць тым, сярод якіх жывеш. Чалавек вянчаецца са сваёй краінай, як калісьці вянчалі мужа з жонкай: "На шчасце і на гора".

Каб быў шчаслівы разам з ёю, і не кінуў яе, калі яна марнее.

Доля цудоўная — пайсці
ў шэрагах пешых рушэння,
Маці-радзіму ад зльдняў
баронячы ў цяжкім баю...
Кінуўшы ж маці сваю,
што цябе грудзьмі ўспаіла,
Хлеба прасіць у людзей —
самы бязлітасны лёс.
Біцца павінны мы яра
за мілую нашу айчыну,
Біцца за родную печ,
не баючыся сканаць.

Гэтаму вершу дзве тысячы з вялікім гакам год. Гэта Ціртэй. Але словы гэтыя — да канца дзён чалавечых — не перастануць быці самай святой праўдай. І перш за ўсё мне падабаецца ў людзях гэта. Хай нават самі гэтыя людзі асабіста несімпатычныя мне.

За адданую любоў да свайго краю можна ўсё дараваць нават чалавеку, які марыць выспаца на тваёй скуры.

Таму я і люблю за гэта шматлікіх сваіх сяброў і... гэтых я не лічу... ворагаў.

Падабаюцца мне таксама людзі з разумным ілбом, ясным тварам, моцнымі ўмелымі рукамі, нагамі, якія здолеюць занесці іх на край свету і вярнуць назад. Людзі добрыя і простыя, людзі — суцяшэнне для навакольных, людзі, што ўмеюць узрошчваць жыта, трымаць рыдлёўку, гэбель, быка за рогі і, пры выпадку... чарку з добрай лустай хлеба. Вясёлыя людзі, якіх не губіць цяга да грошай, якія аддадуць апошняе суседу, нават калі зямля палае пад пятамі.

У маім жыцці (пытанне ж і ёсць аб сучаснасці) мне шанцавала перавагай на такіх. Таму я аптыміст, хаця і зусім не ідыёт.

Былі, праўда, і іншыя. Тыя, якія любілі цяжар і смурод (вядома, не для сябе). Але, дальбог, усе яны — нават на маім жыцці — канчалі дуж-ка кепска! Ва ўсякім разе, пакуль што я нікому з іх не зайздрошчу.

Люблю сучаснікаў, для якіх ёсць адзіны на свеце культ: культ працы, чысціні, дабрыні, міру.

Ненавіджу тых сучаснікаў, побач з якімі і не начавалі гэтыя якасці, у душах якіх няма прамадушнасці, а ёсць крывадушнасць і прадажнасць.

Куды лепей за іх той пёс на адным з маіх рыбацкіх прычалаў, які хадзіў на мясакамбінат, выкленчваў там косткі і насіў на прычал шматлікім сваім знаёмым і нашчадкам.

І мяснікі і рыбакі любілі яго і гаварылі:

— Во, чалавек! Во дае!

Люблю тых, што ставяць сябе так: быць роўным з усімі ў сябе дома і не імкнуцца гаспадарыць у суседа. Сусед неяк упораецца і сам.

Люблю тых (а іх вельмі-вельмі многа), што вышэй за ўсё ставяць уладу Розуму і Пачуцця, а не ўладу сілы. Сіла рана ці позна робіцца бяссіллем (маладым — што, а старыя мужчыны пачынаюць на сваёй шкуры пазнаваць гэта).

> Падабаюцца мне таксама людзі з разумным ілбом, ясным тварам, моцнымі ўмелымі рукамі, нагамі, якія здолеюць занесці іх на край свету і вярнуць назад. Людзі добрыя і простыя, людзі — суцяшэнне для навакольных, людзі, што ўмеюць узрошчваць жыта, трымаць рыдлёўку, гэбель, быка за рогі...

Калі ласка, хай ніхто не палічыць, што я рытарыст. Усе мы не жывём так, як трэба жыць. Але затое сапраўдныя з людзей хочуць жыць, як жыць трэба, імкнуцца да гэтага.

Аступіцца — і не адзін раз — гэта яшчэ не так страшна. Абы ты ведаў, дзе аступіўся, і пакутаваў гэтым.

Для сучасніка (я маю на ўвазе сапраўдных кабет і мужчын), на мой погляд, галоўнае — не быць фігурантам. Галоўнае не ўзваць катурнаў. Галоўнае, каб ніхто не схіляўся перад табою, а проста большасць людзей цябе па заслугах паважалі.

Сучасны чалавек ведае, што ён (калі нават суседзі па пад'ездзе не ведаюць яго імя) на вачах ва ўсіх. І чым ён больш азначае дзеля людзей — тым болей ён на вачах чалавекаў. То значыць і трэба трымаць сябе адпаведна. Калі цябе, скажам, заўважылі на пляцоўцы трамвая ў вясёлым (толькі не грубым) стане, то гэта нічога. Гэта наш чалавек заўсёды дарує, хаця, магчыма, і пацісне плячыма.

А вось абдуманай подласці сучаснік табе і мне не даруе. І мы павінны заўсёды помніць аб гэтым, аб тым, што бязмерна ўзрасла мера сумлення нашай грамады.

Пра цябе, калі ты робіш сапраўды значную справу, ведаюць усё. Нават, прыдумаўшы, болей чым усё. І на гэта трэба рабіць папраўку.

То няхай ведаюць усё ж болей добрага.

Падзеі дваццатага стагоддзя навучылі большасць нашых з Вамі сучаснікаў яшчэ аднаму прынцыпу: ніколі не адкідай на іншых занадта вялікі цэнь. Не адкідай увогуле вялікага ценю, каб вочы суседа заўсёды бачылі сонца. Адкінь на яго гэты цень толькі тады, калі ён памірае ад спёкі. Сабою адкінь, не думаючы пра сонечны ўдар.

Нельга жыць без любові або павагі навакольных да цябе. І гэты прынцып, якому столькі ж год, колькі і чалавецтву, але якому раней следавалі адзінкі — цяпер прынцып многіх і многіх тысяч. І ён вельмі просты: салдат ты або генерал — жыві так, як тваё суседзі-салдаты. Спі з імі на пяску ці снезе, прыйдзе такое — галадай з імі, дзяліся апошнім. А калі будзе добра, то і напіся разам з імі. Яны прабачаць, бо й самі не лепшыя. І ніколі не судзі аб сваім салдаце, генерале, паэце па тым, як аб ім кажуць.

Ён не мае "камандзірскага голасу", але ён 36 гадзін, самотны, стрымлівае 22 чэрвеня перапраўву немцаў цераз Буг (прыклад В.С.Рудава, які раскапаў гэтую гісторыю). Ён, сучаснік, можа быць балбатун і ўзвей-вецер, але, магчыма, толькі ў яго знойдзецца сапраўдныя радкі на час вялікай бяды.

Цярпімасць, вось што галоўнае. Пры мужнасці і адданасці.

Мой сучаснік, якім я яго ведаю (а, на жаль, не ўсе такія), упэўнены, што воля народа — ягоная воля. Калі людзі хочуць праўды. Нехта з рымлян сказаў, што нават на Палаціне ніводнае дрэва не расце да неба. І гэта так. І ніхто, які спрабаваў да гэтага неба расці, яшчэ не даве́ў адваротнага. Нават калі паліў кнігі, што даводзілі немагчымасць такога.

Кніга, часам, ёсць жыццё чалавека, што яе напісаў. Можна спаліць жыццё, можна – кнігу. Ідэю толькі немагчыма спаліць, калі яна высакародная. І большасць людзей, маіх сучаснікаў, разумеюць гэта.

Як і разумеюць, што самая вялікая, ну, можа, адна з самых вялікіх бедаў — эгаізм. Самая кепская мараль — мараль эгаіста, забойцы, тырана. Кепская нават для яго, бо гэта самыя няшчасныя, самыя змучаныя, самыя праклятыя нават самімі сабою людзі на зямлі.

> Падзеі дваццатага стагоддзя навучылі большасць нашых з Вамі сучаснікаў яшчэ аднаму прынцыпу: ніколі не адкідай на іншых занадта вялікі цэнь. Не адкідай увогуле вялікага ценю, каб вочы суседа заўсёды бачылі сонца. Адкінь на яго гэты цень толькі тады, калі ён памірае ад спёкі. Сабою адкінь, не думаючы пра сонечны ўдар.

Нават самыя, здавалася б, вонкава прыгожыя прынцыпы нічога не каштуюць, калі эгаіст будуе ім дом на нагах простых, звычайных, добрых людзей. Пайшла яна да д'ябла, такая тэорыя, калі на ёй такая практыка. Бо адзінае, што разбівае тэорыю і практыку і ўвогуле кожнае жыццё — крывадушнасць, самае страшнае на свеце.

Ану, што здарылася б, каб усе шчырыя, умелыя на ўсякую працу людзі пералічылі б крывадушных? То ж бо, яны зразумелі б, што тых у сучасным свеце (калі браць на працэнты) — адзінкі.

Мне ўсё часцей даводзіцца сустракаць людзей, жыццё якіх пабудавана на сумленні, розуме, высакароднасці. Няхай іх яшчэ не так многа, як хацелася б, але ў іх крыніца майго — і не толькі майго — аптымізму. Яны робяць тое, што кажуць, кажуць тое, што думаюць, думаюць тое, што загадвае ім іхняе сэрца. Іхняе жыццё — годнае, без дакору, хаця і не заўсёды без грэху. Яны заўсёды слухаюцца добрай парады і паважаюць мудрасць іншых. Яны калі і мяняюцца, то зменьваюцца толькі да лепшага. Таму што ім уласцівая шчырасць і высокае пачуццё адказнасці за сваё жыццё, якое так шчасліва падаравана ім. Дваццатае стагоддзе падарыла ім усведамленне таго, што ў рускім слове "честолюбие" трэба рабіць націск на першай частцы, на "честь". Таму што гэта не для сябе, а для Бацькаўшчыны. А ў шырокім сэнсе дзеля ўсіх людзей.

Дзеля права народнага, пра якое трэба не толькі кожны дзень гаварыць, але і кожны дзень рабіць яго. Але і гаварыць таксама, каб ніхто не забыў. Бо калі недзе на зямлі б'юць чалавека, а нехта разважае: "Ну не да смерці ж. Заўтра ён зноў неба ўбачыць", то той, хто б'е, — кат, а той, хто так разважае, — проста няварте жыцця быдла.

І зноў жа не трэба баяцца, што табе самотна. Як Карвалану. Папершае, ты не самотны, за цябе добрыя людзі Зямлі. А па-другое, нават калі тыя людзі не ведаюць, калі ты сапраўды самотны, то гэта ўжо само па сабе азначае, што ў цябе някепская кампанія.

Адну яшчэ добрую якасць бачу ў маладых людзях, што, так бы мовіць, увахо дзяць зараз у першы год пяцігодкі. Яны дужа добрыя дочкі і сыны сваёй Радзімы, але яны і ведаюць, што калі пачуеш на гэтай Радзіме глупства — рабі наадварот. Бо Радзіма мацнее не глупствам, а розумам.

Рымляне калісьці казалі: "Extra Romam non est vita". Без Рыма няма жыцця. Я б замяніў, за малады і паджылых, слова "Roma" ("Рым") словам "Patria" ("Айчына"). Без Айчыны жыцця няма. Extra Patriam non est vita. І гэта не іхні і не мой крык з трыбуны. Ужо ў гэтым Вы можаце мне паверыць, такую парушніку даверу, думаецца, я сваім жыццём заслужыў.

Толькі трэба — і яны збольшага разбіраюцца ў гэтым добра — вы брацьу сваёй Айчыне вартае яе.

Што дае ім гэтую любоў і гэтую сілу? Радавы гонар ад пакалення да пакалення. Фізічная немагчымасць пагарды да яго. Нават тады, калі жыццё (скажам, вайна) набывае колер крыві і гразі.

Перад такімі людзьмі вялікім глупствам здаецца прынцып: чым больш я маю, тым болей мне трэба. Людзі без сумлення і гонару ўсе належаць да адной банды. І нават сярэдні наш чалавек, калі ён мае сумленне і гонар, да той банды не належыць.

У іх ёсць тое вышэйшае правіла, якім карысталася і пакаленне вайны: цябе пакараюць, але немагчыма пакараць смерцю народ. Яны — гаспадары свайго жыцця і таму для іх няма ні ўваскрасення, ні падзення. Яны давялі гэта ў войнах і многіх іншых пертурбацыях: годная смерць лепей за нягоднае жыццё. Закон бясстрашша, закон таго, каб супраціўіцца злу, — вось што нарадзілі нашы пакаленні.

І яшчэ, вельмі часта, абарона сябе, чалавека, перад сабой — філасофам. Таму што ніякая філасофія не вытрымлівае, калі ты гаворыш, што грошы — шэлега ламанага не каштуюць, што людзі роўныя, што рабства прыніжае, а сам робіш наадварот. Або нават проста са спакоем глядзіш на такое, калі гэта робіцца недзе ў Чылі, сярод антыподаў.

Дух і сумленне — мера каштоўнасці чалавека. І я таму люблю сваіх сучаснікаў, што яны ўсё больш разумеюць гэта, што яны, збольшага, за дасканаласць, гармонію і супраць жаху.

Жаху няма, калі з табой тысячы людзей. То трэба пра гэта і дбаць. Жаху няма. Ёсць толькі расчараванне, калі ты, пераможаш страх, знойдзеш нягоднага, няварта ворага. Жаху няма, калі бароніш бясправўнага супраць магутнага.

Усё астатняе, усе назвы, што вызначаюць месца асобы ў свеце, — толькі назвы. Галоўнае — вялікі дух, а на якім месцы ягоны носьбіт — усё адно. Абы толькі было немагчымасць схлусіць. Абы ты, як шаўкапрад (а коканы абварваюць кіпенем перш чым матляць з іх ніць), пагарджаў сабою, а думаў толькі пра ніць, якую ты нарадзіў сваім жыццём, пра будучы шоўк. Пра сваю справу.

Залаты бранзалет практычна вечны, жалезны серп... І ясна, што, скажам, ад старадаўняга Егіпта не дайшло ніводнага сярпа. Але гэты серп жаў і пасля зноў узрошчваў ніву будучыні. Серп, а не бранзалет. Бо не мае права на будучыню народ, які не клапоціцца пра яе.

"Bellum" па латыні азначае і "прыгажосць", і "вайна". Выбірай адно са значэнняў слова сваім дэвізам. А можна і абодва: "вайна", калі яна за "прыгажосць" чалавека. Інача не варта жыць у свеце, у якім кожны адзін.

Старайся жыць так, каб свет не абяднеў праз цябе ані на жменьку любові, ты, мой сучаснік, які не гандлюе сваімі пачуццямі.

Зноў латынь. Carpe diem? Карыстайся імгненнем? Дудкі! І ты і я разумеем: карыстайся вечнасцю, якой не адбяро ў цябе нават вечнасць. Не аддавай любові, бо ты і свет крыху збядненець, калі ты яе аддасі.

Вось гэта і ёсць адказ на пытанне, якія якасці мне падабаюцца ў людзях, што вакол мяне, і якія рысы характэрныя для нашага (лепшага) сучасніка.

2. Як вы ўяўляеце шчасце?

Раней, год дваццаць назад, уяўляў яго як змаганне за ўсё, аб чым вышэй гаварыў. Цяпер — у здароўі, каб мець магчымасць служыць гэтаму як мага больш доўга.

3. Якія змены адбыліся за апошні год у Вашым жыцці і ў жыцці таварышаў па працы?

Не маю адказу. Усё ж гэта ўсяго адзін год. Думаю толькі, за гэты год мы ўсе паразумнелі і сталі рабіць сваю справу лепей.

Публікацыя Пятра Жаўняровіча

Пытанні навукоўцу

# 10 гадоў — 25 тамоў

Пятро Жаўняровіч уваходзіць у склад рэдкалегіі па выданні 25-томнага збору твораў Уладзіміра Караткевіча, што пабачыць свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Напярэдадні 80-гадовага юбілею Караткевіча даследчык публіцыстыкі вядомага пісьменніка адказвае на пытанні "ЛіМа".

— Пятро Пятровіч, якім чынам гэтая анкета Уладзіміра Караткевіча трапіла вам у рукі?

— Сястра Уладзіміра Караткевіча Наталля Сямёнаўна Кучкоўская яшчэ пры жыцці перадала асабісты архіў пісьменніка ў аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Супрацоўнікі архіва ўвесь гэты час карпатліва ўпарадкоўвалі рукапісы — так з'явіўся вопіс 2 фонду 11 (пры жыцці У.Караткевіч перадаў гэтай установе частку папак, таму вопіс 1 ужо існаваў). У студзені я працаваў у бібліятэцы з мэтай знайсці неапублікаваныя публіцыстычныя творы пісьменніка, бо рыхтую да выдання манаграфію "Публіцыстычны дыскурс Уладзіміра Караткевіча", якая мусіць выйсці на пачатку наступнага года ў Выдавецкім цэнтры БДУ. У час даследавання новага вопіса, я выявіў шэраг раней не апублікаваных твораў, чатыры з якіх ужо перададзеныя для першадруку: эсэ "Браслаўе" выйдзе ў часопісе "Маладосць" (№ 11), эсэ "Святая Прадслава", напісанае на рускай мове, — у часопісе "Нёман" (№ 11), эсэ "Я люблю цябе" з'явілася 2 лістапада ў газеце "Звязда". Засталіся публіцыстычныя творы, якія таксама вартыя публікацыі, — між імі невядомае эсэ пра Кіеў "Сон аб тым, што было", ранняя рэцэнзія "Мысли по поводу романа В.Дудинцева "Не хлебом единым", "Адказы на пытанні, звязаныя з тэмай: "Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў духоўнай культуры асобнага народа як часткі чалавецтва" і некаторыя іншыя.

— Як даўно вы даследуеце публіцыстыку Караткевіча?

— Гэтаму прысвечана мая дысертацыя "Публіцыстыка Уладзіміра Караткевіча: моўны факт у вызначэнні жанру", акрамя таго, з'явіліся яшчэ каля пяцідзесяці навуковых артыкулаў як у беларускіх, так і ў замежных выданнях. Я даследую найперш тое, як аўтару ўдаецца ствараць адкрыты, шчыры дыялог між чытачом і пісьменнікам — гэта значыць, уплываць на свядомасць адрасата з дапамогай пэўных сродкаў. Пры даследаванні звяртаюся як да дыскурснага, так і да канцэптуальнага аналізу. Так, у эсэ "Рыгору Раманавічу Шырме — сардэчныя словы любові" вельмі істотным з'яўляецца канцэпт песня — з-за частага звароту аўтар дасягае непарыўнасці песні і асобы Рыгора Шырмы. Гэта прыклад таго, як Караткевіч атрымлівае максімальны эфект ад ужывання пэўнай кампрэсіўнай структуры. Дарэчы, я знайшоў рукапіс твора ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, і выявілася, што ў арыгінале была іншая назва — "Наш дзядзька Рыгор"! Яшчэ адзін прыклад — назва эсэ пра Латвію "Казкі янтарнай краіны". Чаму Караткевіч выбраў слова "янтарная", а не "бурштынавая"? У публікацыях твора адказу на пытанне няма, а вось у рукапісе Караткевіч разважае над гэтым у некалькіх першых абзацах. Безумоўна, кожная скарочаная фраза была вельмі важная для пісьменніка, для ўспрымання твора чытачом… Таму праца над зборам твораў будзе цяжкая: неабходна будзе параўноўваць усе першыя публікацыі з тым, што ёсць у Караткевіча.

— На якім этапе знаходзіцца праца над зборам твораў?

— У 2011 годзе плануецца выдаць першыя 2 тамы — паэзію У.Караткевіча, іх падрыхтоўкай ужо займаецца Анатоль Верабей. Вызначана рэдкалегія, размеркавана, хто над якім томам працуе. У збор твораў (25 тамоў!) мы плануем уключыць сцэнарыі, якія нідзе не друкаваліся, выдаць асобны том малюнкаў, зрабіць дыск "Гучыць Караткевіч" з аўдыёзапісамі, што былі ў архівах. Плануецца ажыццяўляць выданне збору твораў цягам дзесяці гадоў, і ўсё адно 2 тамы на год — гэта вельмі шмат працы. Цяпер "збіраецца" тыраж: пэўную колькасць асобнікаў замаўляюць Міністэрства адукацыі і Міністэрства культуры, але каб прыкладна ведаць, якая колькасць кніг патрэбна для Беларусі, было б добра, каб кнігарні бралі папярэднія заказы ад асобных чытачоў. З гэтым, на жаль, не так проста, і шкада, што хтосьці пасля так і не зможа набыць патрэбную кнігу. Наклад 30 тысяч асобнікаў, якія выходзілі некалі, — сёння нерэальны. У адрозненне ад першага — далёка не поўнага збору твораў — мы будзем рыхтаваць выданні на акадэмічным узроўні: прывядзём варыянты твораў, уключым тэксты, напісаныя на рускай мове.

— Якія навуковыя працы, прысвечаныя творчасці Караткевіча, вы маглі б вылучыць для нашых чытачоў?

— Напрыканцы мінулага стагоддзя выдадзены грунтоўныя працы Анатоля Вераб'я ("Абуджаная памяць"), Адама Мальдзіса ("Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча"), Вольгі Шынкарэнкі ("Пад ветразем дабра і прыгажосці: жанрава-стылёвыя асаблівасці прозы У.Караткевіча"). Як Караткевіч ведаў усю Беларусь, так і сёння, на шчасце, не толькі ў сталіцы асэнсоўваюць яго творчасць. Новае стагоддзе папоўніла шэрагі караткевічазнаўцаў: такія людзі ёсць у кожным рэгіёне Беларусі. У Брэсце гэта Галіна Ішчанка ("Уладзімір Караткевіч у школе: дапаможнік для настаўнікаў агульнаадукацыйных устаноў"), у Гомелі — названая ўжо Вольга Шынкарэнка, у Гродне — Павел Банцэвіч ("Творчасць Уладзіміра Караткевіча ў кантэксце культуралогіі"), у Віцебску — Аркадзь Русецкі ("Уладзімір Караткевіч: праз гісторыю ў сучаснасць"), у Магілёўскай вобласці — Аляксей Ненадавец ("Уладзімір Караткевіч: прырода, фальклор і творца"), у Мінску — Віктар Іўчанкаў ("Лингвистическая организация текста: в творческой лаборатории Владимира Короткевича")... Выйшла і новая манаграфія Анатоля Вераб'я "Уладзімір Караткевіч: жыццё і творчасць". Такім чынам, Караткевіча вывучаюць у многіх навуковых цэнтрах Беларусі, і гэта вельмі цешыць. Даследаваць творчасць Караткевіча, яго геніяльную планету, думаю, будуць стагоддзямі, бо кожнае пакаленне знойдзе там штосьці новае, адкрые на ёй нязведаныя куточкі.

Алеся ЛАПІЦКАЯ

## Георгій Папоў

# Старонкі з дзённіка

## (гісторыя публікацыі ў «Нёмане» ліставання А.Твардоўскага і М.Ісакоўскага)

(Працяг. Пачатак у № 45)

17 снежня 1975 г.

Тэлефанаваў — і недатэлефанаваўся. Ні да Маркава, Ні да Озерава. Значыць, трэба ехаць. Марыя Іларыёнаўна даслала ліст на імя Жыжэнкі — удакладняе некаторыя дэталі з ліставання. Пытаецца, чаму затрымліваецца карэктура другога нумара.

19 снежня 1975 г.

Макаёнак адцягвае час. Учора позна вечарам тэлефануе: так і так, маўляў, сустракаўся з самім, гэта значыць, з Машэравым, і ўсё адно нічога не атрымліваецца. Патрэбна санкцыя з Масквы.

Матывы? Ды вельмі простыя! Ліставанне двух вялікіх рускіх паэтаў друкуецца дзесьці ў Мінску. Чаму? Сталічныя часопісы адмовіліся друкаваць, так? А калі адмовіліся, то зноўку — чаму?



С.М.Гарадзецкі, маршал С.К.Цімашэнка, В.Ф.Шаура, Ц.Я.Кісялёў. Прэзідыум урачыстасці, прысвечанай 80-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Масква, 1962 г.

25 снежня 1975 г.

Макаёнак такі з'ездзіў у Маскву. Размаўляў з Макаравым, Верчанкам і Доўгавым, работнікам сектара літаратуры ЦК КПСС. Усе згодныя і падтрымліваюць. Макараў быццам бы сказаў:

— Мы вас друкуем, чаму ж вам не друкаваць нас?

У той самы дзень Макаёнак патэлефанаваў мне. Папрасіў паведаміць Марцэлеву, што ўсё вырашылася, што будзем друкаваць. Я так і зрабіў — узяў і патэлефанаваў, мяркуючы, што гэтага будзе дастаткова. Але ў адказ чую:

— Ведаю… Я таксама размаўляў з Доўгавым… Дзіўна, але мне ён казаў іншае… Я не супраць, не, але — давайце яшчэ пачакаем і падумаем…

Праз дзень з'яўляецца сам Макаёнак. Дамаўляемся друкаваць з трэцяга нумара. Тэлефануе ўсё таму ж Марцэлеву. Аднак той… і не супраць і… супраць. "Пачакайце… Не спяшайцеся… давайце яшчэ падумаем і параімся…" З кім? Невядома.

Між іншым, Макаёнак ехаў з Масквы ў адным вагоне з Шаурам. Зразумела, распавёў яму гісторыю з публікацыяй. Шаура падумаў, падумаў і кажа: "А нашто вам друкаваць гэтае ліставанне? Нашто наогул яго друкаваць?" Вось табе раз!

Я параіў Макаёнку:

— Патэлефануй Маркаву… Папрасі звярнуцца да каго-небудзь праз галаву Шауры… Але Макаёнак толькі "посмотрел лукаво и головою покачал".

26 снежня 1975 г.

Толькі што патэлефанаваў Макаёнак. І — адразу, без прадмоў:

— Хочу сообщить тебе пренеприятное известие… Так, здаецца, у класіка? Дык вось, пяць хвілін таму адбылася тэлефонная размова з адным адказным грамадзянінам…

— З Марцэлевым?

— Так, з Марцэлевым… І гэты адказны грамадзянін у самай катэгарычнай форме заявіў, што ліставанне Твардоўскага і Ісакоўскага трэба... не адкласці, не, — зняць... назаўсёды зняць... Зняць, выкінуць і забыць...

...Што ж, прынамсі, усё зразумела.



Н.Л.Сняжкова, С.В. Марцэлеў (на заднім плане), А.Т.Кузьмін. Дні беларускай літаратуры і мастацтва ў Літве, 1975 г.

* * *

Макаёнак зноў хадзіў у ЦК. Тэлефануе адтуль, узбуджаны, шчаслівы:

— Нарэшце перамога!.. Не разыходзьцеся, я зараз буду, усё распавяду…

Хутка з'яўляецца. Атрымліваецца, ён быў у А.Т.К., і той прыняў саправўды саламонава рашэнне: дамовіўся з Вадзімам Кажэўнікавым, каб той надрукаваў ліставанне Твардоўскага і Ісакоўскага, а мы… перадрукуем. Такім чынам, у "Знамени" ліставанне пойдзе ў 5 — 6 нумарах, а ў "Нёмане" у 5 — 6 — 7…

Мы так і ахнулі. І гэта называецца — перамога… Калі гэта перамога, што тады завецца паражэннем?

### Паездка ў Маскву

5 студзеня 1976 г.

Прыехаў раніцай. Спыніўся ў гасцініцы "Масква", дзе для мяне быў замоўлены нумар.

Дванаццаць гадзін. Тэлефаную ў часопіс "Знамя". Нікога… Нарэшце стэлефаноўваюся з адказным сакратаром, дазнаюся, што ўсе справы, звязаныя з ліставаннем Твардоўскага і Ісакоўскага, Кажэўнікаў даручыў свайму намесніку Валянціну Осіпаву. "Але з Твардоўскімі вырашайце самі", — перадаў адказны сакратар словы галоўнага.

Я ўжо хацеў пакласці слухаўку, як раптам пачуў:

— Хвілінку… Здаецца, гэта Вадзім Міхайлавіч… Зараз ён сам з вамі пагаворыць…

Праз хвіліну слухаўку ўзяў Кажэўнікаў. Так, гэта добра, што ліставанне прапанавалі часопісу "Знамя", яны будуць друкаваць, што датычыцца дэталяў, то іх трэба абмеркаваць пры сустрэчы. Прыходзьце прыкладна а другой — будзе Осіпаў, вось з ім і абмяркуем усё, і дамовімся аб усім.

Я пачынаю размову аб умовах публікацыі. Калі "Знамя" апублікуе ўсё ліставанне, то "Нёман" будзе ў няёмкім становішчы: у чытачоў з'явіцца ўражанне, што мы папросту перадрукавалі, прычым перадрукавалі невядома чаму і навошта. Кажэўнікаў згодны — згодны, як я прапаную, надрукаваць частку ліставання (прыкладна дзве трэція), а мы пасля надрукуем усё ліставанне, без аніякіх скарачэнняў.

— А з Твардоўскімі ўсё наладжвайце самі, — зноўку нагадвае Кажэўнікаў.

Дзве гадзіны. Пушкінская плошча, Цвярскі бульвар… Вось і рэдакцыя часопіса "Знамя". У калідорах мэбля, нейкія дошкі — рамонт (у самым разгары). Падымаюся на другі паверх. З кабінета адказнага сакратара трапляю адразу да Осіпава. Малады, каля сарака гадоў, стрыманы. Мне падалося, што ён мае штосьці ад камсамольскага работніка. Правільнага работніка. Гэты ведае, што трэба, а што не трэба друкаваць — падумалася мне.

Аднак і Осіпаў, пры ўсёй сваёй стрыманасці, не можа схаваць задавальнення ад таго, што ліставанне трапіла ў "Знамя". Як я зразумеў з размовы, прозы няма, публіцыстыка аднастайная. Ліставанне — гэта той "цвік", які павялічыць прэстыж часопіса.

Зноў пераводжу гаворку на тое, каб "Знамя" надрукавала толькі частку ліставання. Осіпаў згаджаецца. А крыху пазней, калі прыходзіць сам Кажэўнікаў, абмяркоўваем і некаторыя дэталі. У прыватнасці, я прашу, каб "Знамя" хаця б адным сказам адзначыла, што цалкам ліставанне будзе друкавацца ў "Нёмане". Кажэўнікаў прапаноўвае варыянт: яны, знаменцы, замовяць пасляслоўе каму-небудзь з паэтаў… ну, напрыклад, Мікалаю Ціханаву, і той зверне ўвагу на гэта, да таго ж падкрэсліць сувязі абодвух паэтаў з Беларуссю, з беларускай літаратурай.

Калі Кажэўнікаў сышоў (рыхтавацца да нейкага выступлення), Осіпаў пацікавіўся, як мы будзем плаціць за ліставанне. Я сказаў, што Марыі Іларыёнаўне за прадмову заплацім 200 рублёў акордна за тэкст лістоў Твардоўскага па 255 рублёў за аркуш – яна, як спадчынніца, атрымае, па новым палажэнні, 38 працэнтаў ад гэтай сумы. За лісты Ісакоўскага, зразумела, атрымае ўдава Ісакоўскага.

<…>

Марыі Іларыёнаўны дома не было. Да тэлефона падышла Вольга Аляксандраўна, дачка паэта. Яна сказала, што маці будзе заўтра і што тэлефанаваць ёй лепш з гадзіны да пяці.

Пераклад Алеся КРАСІЦКАГА

Публікацыя Алены ПАПОВАЙ

Фотаздымкі прадастаўленыя Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва.

(Працяг у наступным нумары)

№ 46 19 лістапада 2010 г.





# Жыць на сваёй зямлі

**Чарговы госць “Прасторы ўяўлення” — знаны творца, намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў па выставачнай дзейнасці Сяргей ЦІМОХАЎ. Родам з Палесся, як многія слынныя мастакі, закончыў Мінскае мастацкае вучылішча, Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў (кафедра манументальна-дэкаратыўнага мастацтва). Яго работы знаходзяцца ў разнастайных музеях і галерэях нашай краіны, Расіі, Польшчы, Германіі, Вялікабрытаніі, а таксама ў шматлікіх прыватных калекцыях.**



— Сяргей Аляксандравіч, ваша юбілейная персанальная выстаўка “Паводле часу” — своеасаблівы творчы вынік. Як адзначыў на адкрыцці выстаўкі ваш настаўнік, народны мастак Беларусі Гаўрыла Вашчанка, з цягам часу і набыццём вопыту мастак змяняецца ўнутрана, але застаецца асنова — беларускасць. Што для вас беларускасць?

— Для мяне беларускасць, у большай ступені, прытрымлівацца тых нацыянальных традыцый, якія склаліся ў нашага народа. Увогуле, у любога народа ёсць свае нацыянальныя традыцыі, спадчына нацыянальная, скажам, у выглядзе фальклору, народнай творчасці. Зразумела, гэта абумоўліваецца месцам знаходжання краіны. Для беларусаў гэта ўнікальная, своеасаблівая з’ява. Таму што мы на мяжы, так бы мовіць, культурнай плыні ўсходу і захаду. І недарэмна нават у хрысціянскай рэлігіі ў свой час тут з’явілася ўніяцтва. Гэта ўсё разам фарміруе нацыянальную культуру, нацыянальны характар і менталітэт.

Я проста люблю гэтую зямлю, людзей, якія на ёй жывуць, люблю характар беларуса, падабаецца прырода, надвор’е. Я не бачу іншага месца, дзе мог бы так утульна пачувацца. Зразумела, што ёсць шмат прыгожых мясцін. Паехаць адпачыць — тое можна. Але мастак мусіць жыць на сваёй зямлі, мацавацца яе каранямі.

— Многія мастакі звяртаюцца да нацыянальнай тэмы. Паганства, увасобленыя дахрысціянскія сімвалы ў вашых работах з’явіліся, можа, таму, што вы родам з самабытнага Палесся?

— Напэўна, гэта таксама адзін з моцных штуршкоў; у маёй памяці добра замацаваліся адносіны людзей, ва ўжытковым побыце якіх панавалі дахрысціянскія, паганскія традыцыі. Святкавалі розныя святы з народнымі традыцыямі. Усё гэта прывязана да астранамічнага календара. У прынцыпе, з гэтага і крыж сыходзіць. Калі ўзяць асноўныя беларускія народныя святы, пачынаючы з зімовага сонцастаяння, Каляды, потым супрацьлеглае летняе сонцастаянне, Купалле, вясной — Вялікдзень, а восенню — Дзяды, вось вам і крыж, урэшце, сімвал сонца. Ён сустракаецца не толькі ва ўсіх еўрапейскіх народаў, але і ў Лацінскай Амерыцы, у Аўстраліі, Афрыцы… У старадаўнія часы не было такіх стасункаў паміж кантынентамі, як цяпер, а сімвалы аднолькавыя існавалі. Гэта тысячагадовыя назіранні за светам, сусветам, прыродай, за існаваннем зямлі, сонца, іншых зорак. Інтуітыўна людзі адчувалі, як яны сябе пачуваюць у адным ці ў другім стане ў адпаведнасці з фазамі сонца. Усё настолькі мудра, цікава, мае моцны сэнс. І для мяне як мастака гэта невычэрпная крыніца.

— Паганскія карані жывуць у народзе. На адной з вашых работ два паўмесяцы — фантазія, ці таксама з народнай міфалогіі, бо не на пустым месцы ўсё з’яўляецца: павер’і, легенды, прымхі? Кажуць, вельмі-вельмі рэдка можна ўбачыць два паўмесяцы.

— З самага пачатку проста чыста кампазіцыйна ствараўся твор. І ствараўся вобраз, які мне падабаўся і які нясе пэўную энергетыку. Два месяцы напачатку ў мяне з’явіліся выпадкова. Неўзабаве, калі я знаёміўся з аналітычнай сусветнай паганскай літаратурай, натрапіў на тое, дзе распавядаецца, што ў прыродзе былі такія рэдкія моманты, калі на небе з’яўляліся два месяцы. І быў проста шакіраваны і ўсцешаны тым, што, не ведаючы гэтага, проста інтуітыўна зафіксаваў вобраз на палатне.

Раней, ды і цяпер некаторыя багата што па гаспадарцы і ў побыце робяць, зважаючы на пэўную месяцовую фазу. Гэтыя традыцыі арганічныя, не штучныя.



— Народны мастак нашай краіны Георгій Паплаўскі адзначыў у вашых работах ёмістыя знакі, сімвалы. Ці ўсе вашы сімвалы можна слоўна расшыфраваць? Мова сімвалаў уцягвае ўсвядомлена ці падсвядома?

— У большай ступені гэта свядома. Сімволіка даволі простая. Ёсць агульнае сусветнае разуменне: вертыкальны разрэз ці вертыкальнае ўспрыманне сусвету. Што маецца на ўвазе: водныя хлябі, потым ідуць сонца, зямля, падземнае сонца, і замыкаецца ўсё зноў воднымі хлябямі. Як быццам своеасаблівае яйка. Раней, калі нават людзі не ведалі, што зямля круглая, круціцца вакол сонца, была створана гэта сістэма разумення. І адпаведна, што вада ўвасаблялася хвалістымі лініямі, зігзагамі. Потым ішла сістэма крыжыкаў, кола з крыжыкамі і г.д. — адлюстраванне сонца. Потым зямля, якая малявалася ў выглядзе квадратаў, ромбаў. Больш за тое, калі гэтыя квадраты запаўняліся арнаментам, лічылася, што яна засеяная, пладаносіць. Беларускія ручнікі, кашулі таксама вышываліся па гэтай сістэме, тое ж можна сказаць пра драўляную архітэктуру: дах, канёк, хвалістая аблямоўка, на франтоне рабілася сонца, а потым рабіўся квадратамі арнамент — зямля. Людзі, можа, ужо гэта і не разумелі, а традыцыя жыла.

Тры знакі — вада, зямля, сонца, — і ўся гульня, фантазія іх спалучэння ёсць асновай усёй знакавай сістэмы паганства. Таму азнаны чалавек можа прачытаць любы арнамент. Кожны мастак, народны творца развівае фантазію, перастварае гэтыя моманты.

Таму знакі не такія ўжо і складаныя. Шмат іх зафіксавана на каменях, носьбітах паганскай культуры ў Беларусі, Скандынавіі, у наскальных малюнках у Сібіры. Сёлета была надзвычай цікавая выстаўка ў Цэнтральным доме мастака ў Маскве. З наскальных малюнкаў былі зробленыя калькі. Надзвычай фантастычныя кампазіцыі, і, у прынцыпе, там прасочваецца ўсё тая ж сістэма.

— Як ужываецца ў адной асобе жывапісец і графік? Чым абумоўлена тая ідэя, якая кіруе жанрам, калі вы прыходзіце ў майстэрню?

— Гэта падобнае да таго, калі мастак пэўны перыяд працуе ў халодным каларыце, а потым раптоўна ў цёплым. Своеасаблівая проста чыста фізіялагічная неабходнасць. У дадзеным выпадку, калі ты насычаешся жывапіснымі творамі, хочацца заняцца нечым больш далікатным, монахрамічным. Графіка дазваляе рабіць больш вытанчаныя, тонкія лініі… Увогуле, часам працуеш паралельна ў гэтых жанрах. Няма такой схемы: сёння буду займацца гэтым, а заўтра тым. Проста ёсць унутраная неабходнасць.

— У шматлікіх сваіх работах вы выкарыстоўваеце аўтарскую тэхніку. Якім чынам і сродкамі дасягаецца такі творчы кактэйль, ці гэта сакрэт?

— Гэта не сакрэт, а напаўсакрэт. Бо кожны мастак, на мой погляд, мусіць мець пэўны сакрэт у дасягненні сваёй мэты, ідэі і выкладанні гэтай ідэі на палатно. Свая тэхніка, свая манера выканання ў нейкай ступені фарміруе мастака як арыгінальнага творцу, якога можна пазнаць не па шыльдзе з надпісам пад творам, а па манеры яго выканання. На мой погляд, гэта неабходная рыса для кожнага мастака. Урэшце, я карыстаюся тымі традыцыямі, якім мяне навучалі. Праходзілі фрэскі, ляўкас, манументальны жывапіс… Мяне заўсёды вабіла фактура сцяны, шматлікасць слаёў на фрэсцы. Час наносіць сваю сетку, графіку, аб’ядноўвае нейкія плямы, якія, можа, жылі самі па сабе, у плоскасць сцяны. Такая фрэскавасць, плоскасць сцяны прасочваецца ў маіх карцінах.

Сённяшнія тэхналогіі даволі-такі разнастайныя. З’явіліся акрылавыя фарбы, акрылавыя падкладкі і г.д., якія дазваляюць рабіць фактуры, потым яны не асыпаюцца, эластычныя. Тэхналогія простая, калі браць алейны жывапіс, то я пачынаю акрылам. А што датычыць тэхнікі ў графіцы, я выпадкова яе напаткаў. Яна выключна мая, у ёй ніхто ў Беларусі і за яе межамі, наколькі ведаю, не працуе. А далей — сакрэт.

— У вас шмат арганізатарскіх спраў, насычаная грамадская дзейнасць. Увогуле, ці патрэбна гэта мастаку?

— Мастаку гэта проста неабходна. Справа ў тым, што, па-добраму, мастак павінен працаваць выключна над сваімі творамі. Каля яго павінны быць два-тры чалавекі, галерэя або арганізацыя, якія б займаліся яго творчасцю, вялі своеасаблівы жыццяпіс і прапагандавалі яго работы. Гэта ў ідэале. На жаль, гэта маларэальна. Лічу, калі б не існаваў Беларускі саюз мастакоў, то гадоў праз дзесяць творцаў паменела б працэнтаў на восемдзесят. Яны б спакваля пачалі недзе выкладаць, нешта пісаць у скрыньку, карціны заставаліся б нерэалізаванымі. А калі мастак не паказвае свае творы, то яны пацяху “перасыпаюцца нафталінам”, становяцца неактуальнымі і для самога мастака. Так, ёсць мастакі, здольныя пісаць, прапагандаваць, рэалізоўваць свае творы праз галерэі ці праз іншыя структуры, але такіх у лепшым выпадку працэнтаў дзесяць. Астатнія робяць цудоўныя творы, але не ўмеюць іх рэалізоўваць. Таму павінны быць пэўныя арганізацыі ды галерэі, у тым ліку і БСМ.

— Намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў па выставачнай дзейнасці — пасада няпростая. Мастак заўсёды жадае выставіцца — персанальна або ў групавым праекце, але ж выставачная прастора абмежаваная. Як усё ладзіцца і адбіраюцца экспаненты, каб было менш пакрыўджаных сярод юбіляраў, творцаў са званнямі?

— Тут існуе схема. У БСМ ёсць Прэзідыум і Рада. У Прэзідыум уваходзяць старшыні суполак, секцый і абласных арганізацый. Калі мастаку спаўняецца 50, 60, 70, 75 і г.д., пад гэтыя даты, калі мастак жадае, атрымлівае плошчу пад выстаўку персанальную. Для сумесных экспазіцый ствараецца экспертная камісія па адборы твораў на выстаўку. У яе ўваходзяць прадстаўнікі секцый, суполак, абласных арганізацый. Работы абмяркоўваюцца, калі ёсць спрэчныя пытанні, ставяцца на галасаванне. Да кожнай вялікай выстаўкі складаецца рэгламент, у якім вызначаюцца ўмовы адбору твораў.

Па сутнасці, сёлета персанальныя выстаўкі амаль усіх жадаючых мы размясцілі. У большасці ў Палацы мастацтва, у галерэі “Мастацтва”. Саюз мастакоў плаціць за гэтыя выстаўкі. Дарэчы, адкрываецца яшчэ адна галерэя “БелАрт”. Да слова, яна даўно існуе ў былых пакоях Саюза мастакоў па вуліцы Карла Маркса, а цяпер проста пераязджае і будзе месціцца на іншых плошчах на той жа вуліцы.

— Яшчэ ж і маладым трэба выстаўляцца…

— Штогод праводзіцца як мінімум адна моладзевая выстаўка. Не толькі тых, хто з’яўляецца членам моладзевага саюза БСМ, але кожнага жадаючага. З адной умовай — павінна быць прафесійная мастацкая адукацыя.



— Сяргей Аляксандравіч, вы арганізуеце выстаўкі толькі ў Мінску або па ўсёй краіне? Маеце ўплыў на абласныя аддзяленні, ці яны самастойна гэтым займаюцца?

— План рэспубліканскіх выставак, якія ладзяцца на мінскіх плошчах, па вялікім рахунку, абавязковы для абласных арганізацый. А так яны маюць права фарміраваць выстаўкі самі па сабе, незалежна. Час ад часу робім выязныя выстаўкі.

— Сярод апошніх буйных праектаў — "Грунвальд" у Палацы мастацтва…

— Гэта выстаўка ўнікальная сваёй тэматыкай. Мастаку сёння загнаць сябе ў вузкія рамкі вельмі складана. Дыяпазон удзельнікаў выстаўкі вельмі шырокі: ад студэнтаў мастацкага каледжа да нашых народных мастакоў. Мне вельмі прыемна, што гэта выстаўка адбылася на высокім мастацкім узроўні і ў плане экспазіцыі, і ў плане раскрыцця тэмы…

На "Грунвальд" вызначалася тэматыка: калі гэта пейзаж, то каб быў адпаведны вобраз.

— А як ладзяцца выставачныя праекты за мяжой, у Міністэрстве замежных спраў Беларусі?

— Выстаўкі на плошчах МЗС Беларусі яны ладкуюць самі, але часам звяртаюцца па дапамогу і рэкамендацыю ў БСМ.

Зараз праходзіць выязная выстаўка васьмі нашых мастакоў на плошчах варшаўскага тэатра "Рампа". Дарэчы, там была прэзентацыя спектакля Купалаўскага тэатра "Пінская шляхта".

У Берліне ў кунстхаўзе "Тахелес" ладзім выстаўкі цалкам намаганнямі БСМ. Сёлета прымалі выстаўку львоўскіх мастакоў. Ёсць дамоўленасць, што ў наступным годзе на дзень горада Львова там будуць выстаўляцца нашы творцы. Штогод у маскоўскім Цэнтральным доме мастака таксама арганізуем свае экспазіцыі. Да таго ж, наш саюз — член Міжнароднай канфедэрацыі саюзаў мастакоў са штаб-кватэрай у Маскве. У яе ўваходзяць краіны былога Савецкага Саюза, акрамя прыбалтаў, хоць яны ўдзельнічаюць ва ўсіх праектах як госці. Ёсць планы развіваць стасункі з Літвой, вядзём перамовы з Малдовай пра абменныя выстаўкі.

— Зусім хутка адбудзецца чарговы з'езд. Як мастакі на гэта зважаюць, і ці складзены выставачныя планы на канец бягучага года і пачатак новага?

— З'езд — своеасаблівы пераходны перыяд. Мы, кіраўніцтва, прынялі рашэнне застацца на другі тэрмін, бо гэта дазваляе наш статут. Але ж усё будзе вырашана супольна. Увогуле, планы выставачных праектаў складаюцца прыкладна на паўгода. Так што ў нас усё падрыхтавана.

— Да слова, літаральна праз тыдзень будзе адзначацца 80-годдзе з дня нараджэння вядомага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча. Саюз мастакоў плануе якія-небудзь мерапрыемствы з гэтай нагоды?

— Зразумела. Ужо гэтымі днямі ў Аршанскай гарадской карціннай галерэі імя народнага мастака Беларусі Віктара Грамыкі працуе выстаўка да юбілею У. Караткевіча, а потым яна накіруецца ў Брэст.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымках: Сяргей Цімохаў і яго творы.

Фота аўтара
і Святланы Берасцень

Перамога пад Грунвальдам: наша першае акно ў Еўропу; агульная памяць, якая зблiжае; далёкая і вечная крыніца натхнення... У сталічным Палацы мастацтва да 21 лістапада працуе рэспубліканская выстаўка, зладкаваная Беларускім саюзам мастакоў у азнаменаванне 600-годдзя вялікай гістарычнай падзеі. Паводле задумы арганізатараў гэтага маштабнага праекта, прадстаўленыя тут унікальныя творы ўяўляюць сабою не толькі напамін пра слаўную дату з мінулага беларусаў, літоўцаў ды палякаў, але і сведчанне жывой памяці пра адну з найвыбітных старонак айчыннай гісторыі — годнай гісторыі нашых продкаў. Гістарычная спадчына беларускага народа, прасякнутая духам патрыятычных ваярскіх подзвігаў і перамог усіх часоў, ад вялікай бітвы Сярэднявечча да самай крывавай вайны XX стагоддзя, — святая святых для сучаснага айчыннага мастацтва. Індыкатар творчай сумленнасці ды звычайнай чалавечай шчырасці. Бо што і казаць, кан'юнктурная пазіцыя, павярхоўны падыход у спрычыненні да роднай гісторыі адгукаецца фальшам ва ўжо завершанай рабоце. Зварот да герачных эпізодаў далёкай мінуўшчыны вымагае ад мастакоў асаблівай засяроджанасці, праніклівасці, высокай прафесійнай адказнасці ў пошуку і выбары сродкаў для непаўторнага і пераканальнага раскрыцця тэмы. Дык з чым прыйшлі беларускія творцы на выстаўку пад гучнай назваю "Грунвальд"?



# Наўкруг Зялёнага Лесу

Дарэчы, пра назву. Добра вядомае слова-тапонім "Грунвальд" усё часцей пачынаеш успрымаць як вобразнае вызначэнне пэўнай гістарычнай з'явы, явы, карціны. У слове "Грунвальд" чуецца музыка рыцарскіх маршаў, полірытмічны пошчак конскіх капытоў, воклічы людзей, сігнал атакі, цяжкае скрыгатанне металу ў адчайным двубоі, подых суровай велічы замкавых муроў, пошум старых высакародных дрэў... Між тым, сэнс усім вядомага слова — зусім просты і мірны, ідылічна прыгожы і агульначалавечы: з нямецкай мовы назва гістарычнага паселішча перакладаецца як "Зялёны Лес". Праўда, пра гэта падчас адкрыцця выстаўкі ніхто і не казаў, ды мне чамусьці падалося, што ў жанравай, стылістычнай, нават ідэйна-тэматычнай поліфанічнасці экспазіцыі якраз і ўвасобіўся дзіўны сімбіёз — сімбіёз узнёслага рамантызму гістарычна непахісных рэалій Грунвальда і сімволіка ахінутага легендамі, паэтызаванага, архаічнага і вечна жывога Зялёнага Лесу.





Вельмі важна, што на такім шматлюдным, аншлагавым вернісажы выступіў са змястоўным каментарыем шаноўны вучоны, доктар гістарычных навук Юрый Бохан, аўтар манаграфіі "Ваяры Грунвальдскай бітвы". Прамоўца засяродзіўся на сутнасці падзеі пад Грунвальдам, якая не проста сталася чарговым паражэннем Тэўтонскага ордэна, але пазначыла пералом у гісторыі: менавіта пасля перамогі аб'яднанага войска 15 ліпеня 1410 года, падрыхтаванай падзеямі, звязанымі з Крэўскай уніяй (1385 г.), беларускія землі на роўных увайшлі ў тагачасную еўрапейскую супольнасць, пачалося фарміраванне беларускай нацыі, Вялікае Княства Літоўскае набыло статус магутнай хрысціянскай дзяржавы. Грунвальдская бітва, паводле меркавання Юрыя Бохана, дазволіла Беларусі прарубіць акно ў Еўропу, і, між іншым, на 300 гадоў раней за Расію.

Выстаўка, прымеркаваная да вялікай даты, прадстаўлена гледачу як своеасаблівы вынік тых творчых імпрэз, што ладзіліся сёлета з нагоды 600-годдзя перамогі пад Грунвальдам. І атрымалася выстаўка, па сутнасці, міжнароднай, бо ў экспазіцыю ўвайшла вялікая калектыўная работа, карціна, створаная падчас сумеснага ліпеньскага пленэру польскіх, беларускіх і літоўскіх юных мастакоў — трох груп навучэнцаў спецыялізаваных школ. Ён ладзіўся ў польскім Падлессі, з выездам на Грунвальдскае поле. Да арганізацыі спрычыніліся суполка "Рыцары Вялікага Княства" (Беларусь), Тракайскі гістарычны музей (Літва), Цэнтр беларускай культуры пры Пасольстве нашай краіны ў Рэспубліцы Польшча, горад Беласток і тамтэйшы вайсковы музей, міністэрствы культуры трох краін. На што звярнулі ўвагу педагогі-куратары гэтай адукацыйна-мастацкай акцыі? Прысутныя на вернісажы ініцыятары пленэру Стэфан Вышкоўскі (Польшча), Інга Талмантэне (Літва), Павел Карповіч (Беларусь), прынамсі, падкрэслівалі: самае галоўнае ў незвычайным інтэрнацыянальным праекце тое, што нашы дзеці працавалі разам, поруч, і пры гэтым глядзелі на вялікую бітву Сярэднявечча як на нашу агульную гісторыю, не імкнуліся "разарваць", падзяліць яе на нейкія аўтаномныя, адасобленыя старонкі.

Вобразы слынных прашчураў, дух спаконвечных нацыянальных каштоўнасцей, сённяшні погляд на спадчынныя традыцыі, боль дарагіх незваротных страт, маўклівае прызнанне ў любові да роднага краю, радасць жыцця на сваёй зямлі, мара пра яе вялікае адраджэнне... Батальныя палотны і гістарычныя партрэты; абстрактны пейзаж і ваза з кветкамі; "плакатны" нацюрморт і сціплы габелен... Прыпыняеш крок ля твораў Гаўрылы Вашчанкі, Георгія Паплаўскага, Уладзіміра Крукоўскага, Мікалая Апіёка, Рыгора Сітніцы, Уладзіміра Васюка, Валерыя Шкарубы, Фёдара Кісялёва, Яўгена Каробушкіна, Сяргея Цімохава, Алеся Мары, Віктара Барабанцава, Уладзіміра Сулкоўскага, Сяргея Гумілеўскага, Сяргея Аганава, Івана Русачака, Віктара Мікіты, Аксаны Аракчэевай, Кацярыны Сумаравай, Станіслаunion Сугінтаса...

У экспазіцыю ўвайшлі таксама праекты рэканструкцыі гістарычных архітэктурна-ландшафтных аб'ектаў у розных кутках Беларусі, распрацаваныя пад кіраўніцтвам педагога Таццяны Вайтэнкі навучэнцамі спецыялізаванай сталічнай гімназіі № 75. А падборка маштабных фатаграфій, зробленых Леанідам Касабуцкім, узнаўляе стракатую і дынамічную атмасферу рэканструкцыі падзей, ажыццёўленай на Грунвальдскім полі 15 ліпеня 2010 года.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: Мікалай Несцярэўскі "Бітва пад Грунвальдам. Князі і каралі ВКЛ"; Аляксандр Сільвановіч "Аблога Мальбарка"; Рыгор Таболіч "Князь-ваяр. Кейстут"; Уладзімір Тоўсцік "Бацькам і дзядам прысвячаецца"; Максім Калтыгін "Ісціна" з серыі "Перакрыжаванне".

Фота Віктара Кавалёва





У Мінскім палацы культуры і спорту чыгуначнікаў было шматлюдна. Нават настойлівы восеньскі дождж не перашкодзіў цікавасці да Рэспубліканскага фестывалю фальклорнага мастацтва "Берагіня". Аматары сапраўднай традыцыйнай культуры знаёміліся з фотавыставай, з захапленнем глядзелі выступленні фальклорных калектываў, наведвальнікаў запрашалі на майстар-класы па традыцыйных відах народнага мастацтва. Арганізацыю і правядзенне фестывальных мерапрыемстваў падтрымліваюць міністэрствы культуры і адукацыі, Гомельскі аблвыканкам і Акцябрскі райвыканкам, Беларускі фонд культуры. Апякуецца фестывалем і камісія па справах ЮНЕСКА ў Беларусі.





# Фестываль, «поўны да краёў»

Папулярызацыя фальклору сярод моладзі – тэма не новая: без ведання мінулага не можа быць будучыні. Знакавым элементам прэзентацыі Рэспубліканскага фестывалю фальклорнага мастацтва "Берагіня" ўжо не першы год з'яўляецца "круглы стол" па тэме "Традыцыйная культура і дзеці: праблемы захавання, аднаўлення і трансляцыі", дзе абмяркоўваюцца пытанні вывучэння і захавання традыцыйнай народнай культуры беларусаў.

У гэтым годзе адкрыць "круглы стол" пашчасціла старшаму навуковаму супрацоўніку Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы НАН Беларусі Тамары Варфаламеевай. "Менавіта ў школе павінна ісці прапаганда беларускага фальклору. Трэба вучыць дзяцей любіць родную мову, культуру. Бо, не ведаючы свайго, пачынаем вучыць чужое, — заўважыў намеснік дырэктара Вілейскай гімназіі № 2 Мікалай Іваненка. — З фестывалю "Берагіня" дзеці вяртаюцца акрыленымі, з пазітыўнымі ідэямі і думкамі. І што самае галоўнае, з большай павагай пачынаюць ставіцца да роднай традыцыі".

Сапраўды, сёння "Берагіня" — адзіны сістэмны фестываль, скіраваны на захаванне аўтэнтычных форм народнай культуры, комплексную мастацкую адукацыю і выхаванне дзяцей, падлеткаў, навучэнскай і працоўнай моладзі сродкамі народнага мастацтва. У фестывалі арганічна спалучаюцца практычныя і тэарэтычныя аспекты.

Асноватворным ядром фестывалю з'яўляецца танец як від мастацтва, які аб'ядноўвае вакол сябе іншыя віды і жанры фальклорнай творчасці, узаемадзейнічае з імі праз носьбітаў і спадкаемцаў аўтэнтычных традыцый. Гледачы па-новаму бачаць традыцыйную "Кадрыль" у выкананні ўзорных фальклорных калектываў, найгрыш "Лявоніхі" на дудцы, карагодныя танцы са старадаўніх абрадаў…

У свой час для мастацка-творчай грамадскасці, спецыялістаў, экспертаў, арганізатараў сталі нечаканымі адкрыцці — з'яўленне ў фестывальнай прасторы цікавых, па-мастацку годных, з густам падрыхтаваных, адметных новых дзіцячых фальклорных калектываў, таленавітых танцораў, спевакоў, музыкаў, пераемнікаў рамесніцкіх мастацтваў. Для фестывалю "Берагіня" гэта вельмі характэрна, як і абагульненне навуковага, метадычнага і практычнага вопыту: пасля завяршэння форуму друкуюцца матэрыялы навукова-практычных канферэнцый "Традыцыйная культура і дзеці", выходзяць у свет навукова-папулярныя зборнікі, дзеці і дарослыя пішуць вершы. Так ствараецца своеасаблівая гісторыя фестывальнага руху "Берагіня" ў прасторы і часе, у асобах і фактах.



Знаны беларускі навукоўца У. Конан зазначыў: "Фестываль фальклорнага мастацтва "Берагіня" — выдатная падзея беларускай, і, верагодна, агульнаеўрапейскай культуры на мяжы двух тысячагоддзяў. Яна ўзнікла на аснове пакуль яшчэ нерастрачанай, жывой традыцыі народнай творчасці, харэаграфічнай і спеўнай культуры беларусаў… Сёння, калі адбываецца на нашых вачах жахлівае спрашчэнне масавай культуры, асабліва харэаграфіі і песні, калі натоўп маладых, не вельмі маладых і нават пажылых людзей вяртаецца да першабытнага прымітыву, адраджэнне аўтэнтычнага фальклору пакідае надзею на прыход новай эры мастацкай культуры, прызначэнне якой — адухаўленне грамадскага і прыватнага жыцця чалавека на зямлі".

Удзельнікі "Берагіні" даўно прыйшлі да высновы: выхаванне павагі і любові дзіцяці да народнага мастацтва павінна пачынацца з калыскі і спеваў роднай маці. Пакуль гэта не прыйдзе ў кожную хату, фестываль не будзе "поўным да краёў".

Пасля афіцыйнай часткі ўдзельнікам мерапрыемства была прапанавана выстаўка: "Фоталетапіс "Берагіні" ў творчасці Я. Пясецкага, у "Краязнаўчай газеце", газеце "Чырвоны Кастрычнік". Не меншую цікавасць выклікалі прафесійныя майстар-класы па традыцыйных відах мастацтва і канцэрт-прэзентацыя аўтэнтычных і дзіцячых фальклорных калектываў "Фальклор беларускай глыбінкі".

Гучалі песні, вадзілі карагоды… І не было сумненняў у тым, што роднае мастацтва ідзе з глыбінь народных, ад сэрца.

Дзіяна АРЫПАВА

На здымках: удзельнікам Рэспубліканскага фестывалю фальклорнага мастацтва "Берагіня" гэты дзень запомніцца...

Фота Юліі Ваўчок

## У наступным нумары «ЛіМ»

«ЛіМ» працягвае святкаваць 80-годдзе з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча. Да юбілею пісьменніка Дзяніс Марціновіч паспрабуе знайсці прататыпы жаночых вобразаў з добра знаёмых твораў. У "Кніжным свеце" распавядуць пра новае падарункавае выданне рамана "Дзікае паляванне караля Стаха" на чатырох мовах. На "Сядзібе муз" размова пойдзе пра найбольш яркія ўвасабленні вобразаў, створаных Уладзімірам Караткевічам, у музыцы і выяўленчым мастацтве.

З глыбінкі

# Запаветны куток

Музей беларускай кнігі ў Слонімскай цэнтральнай раённай бібліятэцы быў створаны ў 1992 годзе. У ім два аддзелы. Першы прысвечаны Якубу Коласу, імя якога носіць бібліятэка. Тут сабраны кніжны фонд з яго твораў, змешчаны асобныя выданні, успаміны, навуковыя артыкулы пра жыццё і творчасць паэта.

Бібліятэка сябруе з нашчадкамі песняра. Амаль штогод музей беларускай кнігі атрымлівае фотаздымкі і кнігі з архіва Коласа, якія перадае яго ўнучка Вера Міцкевіч. Так, у музеі ёсць ліст загадчыцы Слонімскай раённай бібліятэкі Марыі Капітанчык да Якуба Коласа, напісаны яму ў жніўні 1954-га. Загадчыца расказвала песняру пра работу бібліятэкі за дзесяцігоддзе з дня адкрыцця і прасіла даслаць аўтограф. Колас выканаў просьбу.

Аддзел "Слонімшчына літаратурная" прадстаўляе кнігі слонімскіх пісьменнікаў. Гэта Кандрат Лейка і Гальяш Леўчык, Анатоль Іверс і Алег Лойка, Сяргей Чыгрын і Алесь Якімовіч… Творчая моладзь нагадвае пра сябе на кніжных паліцах "Маладыя галасы".

Музей пастаянна папаўняецца новымі выданнямі. Апошнія, якія атрымалі прапіску на яго стэлажах, — кнігі Сяргея Чыгрына пра вядомых слонімцаў — дзеячоў культуры, паэтычныя зборнікі Зарэмы Трафімовіч і Алены Руж, кніга Васіля Афанасіка "Горыч 41-га" — пра трагічныя падзеі, што адбываліся на Слонімшчыне ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны.

На экспазіцыі "Кнігі — падарункі" змешчаны выданні з аўтографамі пісьменнікаў. У ліку рарытэтаў музея — кніга "Чыжык беларускі" Гальяша Леўчыка 1912 года выдання, вершы-аўтографы Валянціна Таўлая 1930-х.

Дарэчы, сёлета ў музеі адкрылася цікавая выстаўка "Старадаўнія рэчы Беларусі XIX — XX стагоддзяў" (з калекцыі слонімскага краязнаўцы Міхаіла Рылко). Пісьмовы прыбор, газавая лямпа, акуляры, падсвечнік і іншыя прадметы таго часу дапамагаюць адчуць своеасаблівую творчую атмасферу, у якой працавалі літаратары.

Галіна РАМАНЧУК

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 2967
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 18.11.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 5571
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-6606